*А. М. Курскоў*

# ТАЯМНІЦЫ БЕЛАРУСКАГА ЛЕСУ

---



МІНСК
«НАРОДНАЯ АСВЕТА»
1987

# УВОДЗІНЫ

*Хто з нас не любіць свой родны край, дзівосныя па хараству куткі роднай прыроды, блакітныя азёры і стужкі рэк, акаймаваныя густымі лясамі, бязмежныя прасторы палёў, лугоў і балот, дзе так многа бясконца таямнічага, дзе багаты і ні з чым не параўнальны раслінны і жывёльны свет так і просіць чалавека глыбей зазірнуць у яго таямніцы?!*

*Так, крыніца прыгожага на Зямлі — прырода. Хораша сказаў Якуб Колас: «Колькі вялікага здавальнення дае нам яна! Бо прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута прад вачамі кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе мнагалучныя напісы — хіба ж гэта не ёсць шчасце?»*[1].

*Спакон вякоў прырода вабіць да сябе чалавека разнастайнасцю форм жыцця, мудрасцю і гармоніяй. І хто не адчуў на сабе яе жыватворнага і гаючага ўздзеяння?*

*Аўтар кнігі, расказваючы пра багацце і разнастайнасць жывёльнага і расліннага свету Беларусі, знаёмячы з феналагічнымі заканамернасцямі развіцця прыроды, імкнуўся не толькі абудзіць у чытача цікавасць да яе таямніц, пашырыць яго ўяўленне аб ёй як аб народным багацці, але і выклікаць жаданне берагчы прыроду, ахоўваць і пераўтвараць яе, бо дзе яшчэ ёсць большыя магчымасці для даследаванняў і адкрыццяў, як не ў прыродзе.*

---

[1] Колас Якуб. На ростанях.— Минск, 1981.— с. 21.

*Як важна, каб чалавек, назіраючы за навакольным асяроддзем, умеў аналізаваць, супастаўляць атрыманыя факты, разважаць. Гэта — прадпасылкі для адкрыцця новых заканамернасцей у прыродзе.*

*Кніга дапаможа чытачу даведацца аб прасцейшых сувязях прыродных з'яў і іх развіцці ў розныя поры года, дасць рэкамендацыі, як праводзіць зімой падкормку птушак і звяроў, пазнаёміць з рэдкімі жывёламі і раслінамі, якія занесены ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР.*

*Разам з аўтарам чытач зробіць экскурсіі ў лес ва ўсе поры года. Даведаецца, для чаго разводзяць і ахоўваюць зуброў, шкоду ці карысць прыносіць воўк, добрая ці дрэнная маці зайчыха, чаму ў маленькіх аленянят, казуляў і дзікоў футра мае іншы колер, чым у бацькоў.*

*У кнізе многа цікавых звестак пра жыццё лася, барсука, выдры, крата і іншых жыхароў нашых лясоў. Даюцца адказы, дзе і як праводзяць зімы мышы, палёўкі, з якой мэтай робяць веснавыя і асеннія пералёты кажаны, дзе зімуюць жабы, яшчаркі і вужы, ці карыстаюцца совы радарамі, якім компасам кіруюцца птушкі ў час далёкіх падарожжаў.*

*Калі кніга дапаможа юнаму чытачу глыбей спасцігнуць заканамернасці развіцця прыроды, выкліча жаданне ўдасканальваць яе, аўтар будзе лічыць, што ён сваю задачу выканаў.*

# СНЕЖНАЯ КНІГА

Ціха і ўрачыста ў зімовым лесе. Высакастволыя хвоі ў белых шапках і заснежаныя яліны стаяць задуменна і важна. Прамяні скупога зімовага сонца, прабіваючыся праз цяжкія шэрыя хмары, надаюць лесу казачны выгляд. У серабрыста-блакітнай смузе дрэвы. Мякка падаюць пухкія сняжынкі, зіхотнымі зоркамі асядаючы на зямлю. Цяжкая снегавая шапка, раптам сарваўшыся з дрэва, гучна тоне ў сумёце. І зноў цішыня.

Зробім экскурсію па зімовым заснежаным казачным лесе.

«Ціць-ціць!» — гэты тонкі, амаль мышыны, піск раздаецца аднекуль зверху. Глядзім угару. Мітусіцца, пырхае з галінкі на галінку сінічка-гаічка ў чорнай шапачцы з маленькім гальштучкам на шыі. Піснула яшчэ раз і знікла ў густой кроне елкі. Нечакана з другога боку пачуўся такі ж піск. Па ствале ўніз галавой хутка апускаўся попаўзень. На галінцы сядзела не сінічка-гаічка, а сініца-маскоўка. Чорная шапачка, белыя шчочкі, белыя грудкі, светлае брушка, кароткі хвосцік, а на шыйцы шырокі цёмны нагруднічак. Вось якая яна прыгожая. Натапырыла пёркі на галаве і то адным, то другім вочкам так і пазірае ў наш бок. Зноў піск. Што за цуд? Нічога не разумеем. Птушкі розныя, а голас адзін і той жа. Зноў такі ж голас, толькі ў нас за спінай. Хто ж яшчэ завітаў у зацішны і ўтульны куток? А, гэта каралёк! Маленькі, велічынёй з напарстак. Гэта ён аказаўся ўладальнікам знаёмага, так нас здзівіўшага, піску. Глядзім на яго. На галаве жоўта-аранжавая шапачка, акаймаваная чорнымі істужкамі. Сваю залацістую шапачку ён прыўзнімае, як маленькую карону, таму яго і назвалі караль-

ком. Колькі прастаты, зграбнасці ў рухах гэтай маленькай істоты! Як лёгка бяжыць па ствале, як уважліва аглядвае каралёк сучкі, галінкі і хваёвыя лапкі!

Аказваецца, тут кармілася змешаная стайка насякомаедных птушак, якія засталіся зімаваць. Перапырхваючы з галінкі на галінку, з дрэва на дрэва, яны, не спяшаючыся, перамяшчаліся па лесе. І якое ж было наша здзіўленне, калі з такім жа піскам у стайцы з'явілася яшчэ адна лясная птушка — пішчуха. Тонкай, злёгку выгнутай дзюбкаю, падобнай да шыльца, яна правярала кожную шчылінку ў шурпатай кары ствалоў, быццам не давяраючы сваім маленькім вочкам.

Птушкі зімой, у пошуках корму, звычайна ўтвараюць змешаныя стайкі, якія вандруюць па лесе. Гуртам весялей і не так небяспечна. Каб не згубіцца ў зімовым лесе, яны перагаворваюцца. Іх ціць-ціць азначае: «Я тут, а дзе вы?» Адзін пазыўны ў гэтых птушак невыпадковая з'ява. Відаць, ён выпрацаваўся ў працэсе эвалюцыі, г. зн. за доўгі перыяд іх сумеснага знаходжання зімой. Іншы раз у змешаных стайках вандруюць і дзятлы. Ім зручна весці дружбу з маленькімі птушачкамі. Раздзяўбе дзяцел трухлявы пень, здзярэ з яго адстаўшую кару, а там насякомыя і іх кукалкі. Лепшую здабычу дзяцел сабе пакіне, а ўсялякую драбязу іншым аддасць. Калі ж здарыцца, што недзе птушка або чатырохногі драпежнік прытаіўся, усюдысісныя сініцы, напэўна, заўважаць і знаць дадуць. Таму і дзятлу з імі нядрэнна быць разам.

Мароз усё мацнее і мацнее. Але птушкі быццам не заўважаюць яго. Справа ў тым, што наяўнасць корму дазваляе любой птушцы змагацца з холадам. Усе ўнутраныя рэзервы яе арганізма зімой кінуты на выпрацоўку выратавальнага цяпла. І калі яны

не будуць пастаянна папаўняцца за кошт корму, птушка гіне. Вось чаму ўвесь кароткі зімовы дзень сініцы, попаўзні, дзятлы актыўна кормяцца.

Знікла знаёмая чародка. Зноў заціхнуў лес. І тут з самай верхавіны старой яліны раздалася з запалам песенька крыжадзюба. Высока сядзіць чырванапёрая птушка і час ад часу спявае простую, але такую прыгожую песеньку, быццам услаўляе асабістыя ўладанні. Яна як бы просіць суседзяў: «Будзьце пільнымі, не парушайце межаў маёй тэрыторыі, не перашкаджайце мне выводзіць і гадаваць птушанят». Відаць, на гэтай елцы крыжадзюбы зладзілі гняздо. Так, зімой у мароз — гняздо!

Бадай што няма ў нашай краіне іншай такой птушкі, якая б выводзіла птушанят, як крыжадзюб, у любы час года. Іх гнёзды можна ўбачыць ад пачатку студзеня па жнівень. У залежнасці ад ураджаю шышак хвойных дрэў кожная пара можа гняздзіцца адзін-два разы ў год. А каб не загінулі кладка і птушаняты, самка крыжадзюба ў студзені пачынае ладзіць гняздо. Яна змяшчае яго дзе-небудзь паблізу ствала ці на канцы густой яловай лапы на адлегласці ад 3 да 10 м над зямлёй. З сухіх яловых і сасновых галінак, моху і лішайніку яна тчэ аснову, сценкі гнязда і высцілае ўнутры яго пухам. Самец не дапамагае ёй у пабудове гнязда. Толькі з'явіцца першае яйцо, самка прыступае да наседжвання. Гэтым яна адрозніваецца ад большасці вераб'іных птушак, у якіх самкі садзяцца на гняздо толькі пасля таго, як адкладуць апошняе яйцо. Вось і сядзіць крыжадзюбіха, не пакідаючы гнязда, усе 14—16 дзён. Зляці яна з яец, яны адразу ж замерзнуць. І ўвесь гэты час яе корміць самец.

Нарэшце з'яўляецца 4—5 птушанят. Яны пакрыты доўгім шараватым пухам, больш густым, чым у іншых вераб'іных птушак. Але і цяпер самка паста-

янна знаходзіцца ў гняздзе, абаграваючы птушанят. Толькі праз тыдзень пакідае іх і разам з самцом адлятае за кормам. Крыжадзюбы выкормліваюць птушанят размякчаным у валляку насеннем хваёвых дрэў. Праз 16—20 дзён птушаняты пакідаюць гняздо. І калі каму-небудзь удасца ўбачыць птушаня гэтай дзівоснай птушкі, якое нядаўна вылецела, ён з цяжкасцю пазнае ў ім крыжадзюба. І не таму, што крыжадзюбік апрануты ў пярэсты ўбор. Больш за ўсё ўводзіць усіх у зман дзюба. У падлетка крыжадзюба ён не мае на канцы перакрыжавання, як у дарослай птушкі, і хутчэй падобны на дзюбу вераб'я. Таму бацькі па-ранейшаму працягваюць карміць сваіх птушанят, бо яны яшчэ не могуць лушчыць шышкі. Толькі праз некаторы час дзюба ў іх выцягваецца і перакрыжоўваецца.

Вось на шляху чародкі крыжадзюбаў яловая вяршыня, абвешаная шышкамі. Хутка ўсаджваюцца на яе крыжадзюбы, віснуць на галінах, тут жа змаўкаюць, і вось ужо іх спрытна загнутыя дзюбы, як шчыпцы, адну за адной адкручваюць убок лускавінкі. Зярнятка, другое, трэцяе... Скіне пачатую шышку і не думае апускацца за ёй. А навошта, калі побач вісяць іншыя? Хутка распраўляюцца птушкі з яловай вяршыняй, і чародка адпраўляецца далей у пошуках новага корму, а на снезе пад дрэвам застаюцца ляжаць скінутыя шышкі. Занясе іх снегам, намочыць веснавая вада, не раскрыюцца яны вясной пад сонцам, а праляжаць, поўныя спелага насення, да самай восені. А ўвосень загляНуць сюды ваверкі, адшукаюць шышкі і добра «папалуднуюць».

Агляніцеся ўважліва, і вы заўважыце, што снег усеяны самымі мудрагелістымі слядамі: тут і ланцужкі, і крыжыкі, і дробныя пацеркі. Крок за крокам, скачок за скачком распісваюцца ў снежнай кні-

зе жыхары лесу. Летам нялёгка даведацца пра тайны жыцця жывёл, затое зімой... Кожны ўчынак — ці добры, ці дрэнны — з пратакольнай дакладнасцю запішуць ногі звера або птушкі на снезе. Усё раскажуць дапытліваму назіральніку сляды. Усё відаць на снезе.

Новы снегапад — новая старонка снежнай кнігі. Новыя апавяданні пра таямнічае жыццё лесу, пра лясныя справы: тут і мірныя сустрэчы, і знаёмствы, і трагедыі.

Кожны звер, хто з раніцы да вечара, а хто з вечара да раніцы, пакідае ў гэтай кнізе свой аўтограф.

Вядома, недасведчанаму чалавеку, які не можа адрозніць след ваверкі ад заячага, не даведацца пра таямніцы лесу. Гэта ўсё роўна, што адкрыць кнігу на незнаёмай мове і паспрабаваць прачытаць яе. Але для тых, хто ўмее чытаць,— задавальненне. Толькі запомніце галоўнае правіла следапыта: ніколі не затоптвайце сляды! Ідзіце побач у 1—2 м ад іх.

З-пад каранёў старой разгалістай яліны цягнецца доўгі ланцужок невялікіх парных слядоў. Сляды цягнуцца ад куста да куста і знікаюць у тоўшчы снегу. Вядома, гэта сляды спрытнага паляўнічага за мышамі гарнастая. Пад тоўшчай снежнага покрыва, каля ляснога подсцілу, утварылася своеасабліває «метро», тунелямі якога карыстаюцца не толькі мышападобныя грызуны, але і дробныя драпежнікі, такія, як гарнастай і ласка. Пад снегам яны праходзяць дзесяткі метраў, палюючы за грызунамі і знаходзячы сабе там прытулак. Могуць не выходзіць на паверхню доўгі час.

З'явіўшыся зноў, гарнастай перасек поле і нацянькі, нікуды не заглядваючы, накіраваўся да жывёльнага двара, які стаяў недалёка ад узлеску. Тут

гарнастай можа паляваць не толькі на мышэй, але і на вялікіх шэрых пацукоў. Ён доўга тоіцца каля пацуковых сцежак, цярпліва чакае, калі шэры разбойнік адправіцца на промысел, а потым, у зручны момант, кідаецца на сваю ахвяру. Палюе гарнастай больш за ўсё ўначы. Выйдзе на паляванне з вечара, абыдзе свой паляўнічы ўчастак, паловіць мышэй, палёвак, а то і ў вёску забрыдзе, пакідаючы свае сляды. А пад раніцу вернецца ў сваё сховішча і будзе чакаць там новага вечара.

Сляды куніцавых (куніцы, тхара, гарнастая, ласкі) вельмі падобныя паміж сабой.

А як адрозніць гэтыя сляды адзін ад аднаго? Па-першае, па велічыні. Сляды тхара на снезе падобны да слядоў куніцы. Ад куніцавых яны адрозніваюцца меншай даўжынёй скачка і велічынёй адбітку лап, больш выразнымі слядамі ад кіпцюроў і падушачных мазалёў. Гэта звязана з тым, што падэшвы лап у тхара не абрастаюць валасамі так густа, як у куніцы. Пры аднолькавай шчыльнасці снегу тхор правальваецца значна глыбей. Калі на неглыбокім снезе тхор робіць скачкі ў 50—60 см, то на рыхлым — усяго ў 30—35 см. Акрамя таго, тхор не залазіць на ствалы дрэў, як гэта робіць куніца.

Гарнастай пакідае сляды ў два разы меншыя, чым тхор. Сляды яго лап звычайна парныя. Скачкі ад 20—30 да 40—50 см, прычым гарнастай нярэдка чаргуе доўгія скачкі з кароткімі, чаго не робіць тхор.

Сляды ласкі вельмі падобныя да слядоў гарнастая, але адбіткі яе лап меншыя. Дзякуючы нязначнай масе ласка не тоне нават у друзлым снезе. Яна часцей за другіх звяркоў перамяшчаецца скачкамі. Пры гэтым на шчыльным снезе робіць вялізныя для свайго маленькага па велічыні цела скачкі, іншы раз да 70 см. Калі вам удасца ўбачыць

ласку зімой, то звярніце ўвагу, што яна ўся беласнежная, а ў белага гарнастая кончык хваста чорны.

У пачатку зімы, калі снег яшчэ неглыбокі, нязцяжка адшукаць месца збору грызуноў. Часта на палях азімых можна ўбачыць мноства вітых калідорчыкаў, пратаптаных ад норкі да норкі шэрымі палёўкамі. Усюды сустракаюцца зялёныя парасткі раслін, пашкоджаныя грызунамі. У старым ельніку шматлікія сляды на дробным снезе выдаюць прысутнасць рыжых палёвак. Часта можна ўбачыць кінутыя крыжадзюбамі, а затым апрацаваныя ляснымі палёўкамі яловыя шышкі. З павелічэннем глыбіні снежнага покрыва жыццё грызуноў робіцца маладаступным для вачэй назіральніка. Пад аховай глыбокага снегу знаходзяцца круглыя гнёзды з сухой травы і лісця. Пад снегам захоўваюцца ў зялёным стане некаторыя шматгадовыя травы і вечназялёныя ягаднікі — бруснічнік, буякі, журавіны. Гусялапка, сунічнік, адуванчык, шчаўе ўтвараюць шчыльна прыціснутую да зямлі разетку, а гусіная цыбуля, падбел, курасьлеп, чартапалох зімуюць у зямлі ў выглядзе цыбулін, клубняў або карэнішчаў, напоўненых пажыўным крухмалам. Мышы і палёўкі кормяцца насеннем і клубнямі, зялёнымі часткамі раслін.

Лёгка перамяшчаючыся па тунелях свайго «метро», звяркі падбіраюцца да маладых парасткаў вербаў, асін і фруктовых дрэў. Яны грызуць далікатную кару, асуджаючы многія дрэўцы на немінучую смерць.

Лясныя і жаўтагорлыя мышы ласуюцца назапашанымі яшчэ з восені жалудамі і арэхамі, схаванымі пад зваленымі ствааламі і спарахнелымі пнямі. У некаторых грызуноў пад снегам нават з'яўляюцца дзіцяняты: у лясной мышы, рыжай палёўкі і воднага

пацука. Рыхлы глыбокі снег — саюзнік мышападобных грызуноў. Ён выратоўвае ад сцюжы, добра хавае ад зоркіх вачэй крылатых драпежнікаў. Нават лісіцы цяжэй стала здабываць палёвак з-пад снегу.

Здавалася, што надзейна схаваныя пад снегам зяркі не павінны выходзіць са сваіх нор. Але гэтага не бывае. Справа ў тым, што пад тоўшчай гурбаў у скрытых тунелях грызуноў паветра не вельмі свежае. Вось і прыходзіцца зяркам пракладваць у снезе амаль вертыкальныя хады да самай паверхні снегу для вентыляцыі. У балотах, нізінах грызунам асабліва часта прыходзіцца праветрываць сваё памяшканне, таму тут часцей можна сустрэць і драпежнікаў.

Пакідаючы ланцужок слядоў, шэрая палёўка выскачыла з-пад снегу і пабегла да купіны. Але не паспела яна прабегчы і 3 м, як наляцеў чорны крумкач. Доўгія палосы на снезе, прачэрчаныя хвастом птушкі, патаптаны снег і кропелькі крыві расказваюць нам, як крумкач схапіў і з'еў палёўку.

Вам прыходзілася назіраць за варонамі, якія нерухома сядзяць сярод заснежанага поля? Вы, напэўна, здзіўляліся, чаму гэта яны так доўга сядзяць на адным месцы. А вароны проста вартуюць каля норак і вентыляцыйных душнікоў грызуноў. І не так ужо рэдка поспех суправаджае цярплівага крылатага драпежніка, аб чым сведчаць касмыкі шэрай поўсці і кропелькі крыві на снезе.

Мышы выходзяць на паверхню ў пошуках ежы. Асабліва многа сустракаецца мышыных слядоў у канцы зімы, калі ліпа пачынае скідаць плады-арэшкі.

Падыдзіце да стагоў сена на лясной паляне. Тут вы абавязкова сустрэнеце сляды грызуноў і драпежнікаў, якія на іх палююць. Вось цягнецца лан-

цужок лісіных слядоў. Лёгкія скачкі ласкі пакідаюць характэрныя меткі на снезе. Крывыя крыжыкі сарок і варон віднеюцца і на самім заснежаным стозе. Нават сава прылятала сюды. Прайшла каля стога, прыслухоўваючыся, як шамацяць у сене і грызуць нешта пражэрлівыя палёўкі і мышы.

Вось доўгі і роўны ланцужок слядоў, які перасякае невялікую палянку, перапыняецца глыбокай ямкай, на дне якой некалькі кропель крыві. Тут рыжая лісіца паласавалася лясной мышкай, пачуўшы яе піск. Наспех перакусіўшы, яна накіравалася далей. Прамая сцежка яе слядоў цягнецца іншы раз не адзін кіламетр. Раптам рэзка пад прамым вуглом сляды павярнулі ўбок. Відаць, лісіцу прыцягнуў пах жывога звера або падлы. Трэба і нам праверыць, хто зацікавіў яе.

З лежні выскачыў заяц. Вы бачылі сляды зайца? У нас, у Беларусі, жывуць два віды: бяляк і русак. Бяляк атрымаў сваю назву таму, што зімой апранаецца ў белае «футра», а русак увесь год у шэранькім ходзіць. Зімой у яго толькі бакі ды брушка бялеюць. І футра ў іх living рознае, і жывуць яны па-рознаму. Палі, пералескі, узлескі — уладанні русака, бяляк — жыхар глухіх лясоў. След у беляка круглы, шырокі, ззаду звужаны. У русака вузкі след.

Бегучы, бяляк растапырвае пальцы і імчыцца па снезе, як на лыжах, не правальваецца. Лапкі ў яго апушаны густым футрам. А русак скача на сціснутых пальцах — так яму зручней бегаць па цвёрдым грунце. Вось і выходзіць, што жывуць два зайцы, а бегаюць па-рознаму. Справа ў тым, што з даўніх часоў бяляк прыстасаваўся да асаблівасцей паўночнай прыроды. Ён жыхар поўначы, а русак жыхаром поўначы стаў нядаўна. Ён — жыхар поўдня, адкрытых стэпаў, а рухаецца ён у суровыя

снежныя краі ўслед за чалавекам, па меры асваення лясных угоддзяў пад сельскую гаспадарку.

Вядуць зайцы начны спосаб жыцця, а днём адпачываюць, схаваўшыся. Асцярожна ўстае заяц з дзённай лежні — неглыбокай ямкі, дзе ён адлежваўся ўвесь дзень. Заўважыць яго лежню на блізкай адлегласці даволі цяжка. Ён сядзіць там з шырока расплюшчанымі вачамі і не рухаецца да самага апошняга моманту. Гэтаму дапамагае не толькі афарбоўка, якая маскіруе яго, але і «моцныя нервы».

Мяркуючы па слядах, заяц выскачыў нечакана для лісіцы, рэзка скокнуў убок і запятляў па паляне да процілеглага яе краю, у выратавальныя зараснікі ядлоўцу.

З месца заяц развівае скорасць да 60 км у гадзіну. Адчуваючы за сабой пагоню, пачынае хітрыць. З разбегу рэзка пад вуглом зварочвае ўбок, а ганіцель яшчэ адно імгненне бяжыць у старым кірунку, пакуль не здагадаецца, у чым справа. Ратуючыся ад праследавання лісіцы, заяц вяртаўся па сваім жа следзе некалькі разоў, нечакана скакаў убок і бег далей. Па слядах можна вызначыць лёгкі бег зайца і цяжкавагавую хаду лісіцы. Сакрэт выратавання зайца просты і заключаецца ў будове яго лап. Як мы ўжо адзначалі, яны пакрыты густой шчоткай валасоў, якія да зімы яшчэ больш адрастаюць. Заяц ціхне на квадратны метр снегу з сілай 9—12 г, а лісіца — у 4 разы большай.

Нячутна скача заяц па снезе, заносячы заднія лапы пры скачках далёка ўперад — вось і адбіты на снезе заднія лапы звярка спераду. Лісіца спыніла праследаванне зайца і працягвала свой шлях.

Заяц — звярок асцярожны і падазроны. Заўсёды стараецца абмінаць адкрытыя прасторы, пракладваючы сабе шлях паміж кустамі, у маладых парастках. Падыдзіце раніцай да стагоў сена, загляніце

ў маладыя асіннікі, і вы ўбачыце заячыя сляды. Іх так многа, быццам тут хадзіла некалькі звяркоў. Сляды перасякаюцца, ступаюць адзін у адзін, ідуць убок, вяртаюцца назад. Але прыгледзьцеся ўважліва да адбітка кожнай лапкі, параўнайце іх памеры, і вы прыйдзеце да вываду, што ўсе гэтыя заблытаныя сляды пакінуў адзін заяц. Тут ён сядзеў ля стажка сена і паскубваў мяккія сцяблінкі траў, тут ён нешта рыў пярэднімі лапкамі, а вось адскочыў убок, адбег ад стажка на дзесятак мет-



**Шышка са «сталовай» дзятла.**



**Шышка са «сталовай» ваверкі.**

раў, пасядзеў і асцярожна, кароткімі скачкамі вярнуўся назад. Тут ён стаў на заднія лапы, каб лепш агледзецца, затым зноў пасядзеў крыху. Сядзіць заяц на доўгіх і шырокіх задніх лапах, абапіраючыся на снег пярэднімі. Усё ціха навокал, і можна працягваць карміцца каля стога.

У старым ельніку пад высокай елкай нехта накідаў на снег многа ачышчаных стрыжняў яловых шышак. Гэта «сталовая» вавёркі. Кожная вавёрка ў лесе жыве на сваёй уласнай тэрыторыі, і ў кожнай свае «сталовыя». Там, дзе вавёрка снедала, ад шышак застаюцца толькі агаленыя стрыжанькі і кучкі яловых лускавінак. Праходзіць дзень-другі — і вось ужо пад другой елкай, дзе вавёрка зрабіла сваю «сталовую», ляжаць аб'едзеныя яловыя стрыжні лускавінак. Ад адной вавёрчынай «сталовай» да другой па свежым снезе заўсёды цягнуцца яе сляды — дзве шырокія лапкі ўперадзе, а дзве маленькія — ззаду. Шырокія лапкі — заднія, а маленькія — пярэднія. Так і скача вавёрка па снезе. У ясны цёплы дзень вавёркі кормяцца два разы ў дзень — раніцай і пасля абеду. Днём адпачываюць у гнёздах-гайнах. Яны робяцца з галін, лішайнікаў, моху і маюць тоўстыя сценкі, што добра засцерагае вавёрку ад маразоў і непагадзі. Гняздо шарападобнай формы з адным ці двума ўваходамі. Калі ў лесе вельмі моцныя маразы, вавёрка затыкае гэтыя адтуліны мохам і лішайнікам і не выходзіць з яго.

Пры нізкім ураджаі яловых і сасновых шышак вавёркам прыходзіцца адшукваць корм цэлы дзень. На старонках снежнай кнігі ў гэты час можна бачыць мноства іх слядоў. Добра, што ў нашай рэспубліцы ў лясах расце шмат разнастайных дрэў. Калі восенню няма шышак на соснах, то ёсць на ялінах або на дубах, ліпах, ляшчынах.

У рэдкім сасновым маладняку, правальваючыся


Алень.


Дзік.


Лясная куніца.

глыбока ў снег, прайшоў нейкі буйны звер, пакідаючы вялікія сляды, падобныя да каровіных. Гэта сцежка лася. Капыты ў яго вялікія, доўгія і вузкія. Пры перамяшчэнні па балоце яны шырока расстаўляюцца, плошча апоры павялічваецца. Лось не баіцца непраходных балот, нягледзячы на тое што найбольш буйныя самцы маюць масу каля 500 кг. Праўда, асабліва багністыя месцы лось прапаўзае на жываце, выкідваючы далёка ўперад пярэднія ногі.

Вызначыць кірунак руху звера можна ў залежнасці ад таго, у які бок зроблены выкід снегу са следу. Пры руху жывёлы капыт спачатку толькі ўлазіць у снег пад вуглом да яго паверхні, на зваротным шляху пасля штуршка аб грунт выносіць яго, выкідваючы снег наверх. На друзлым глыбокім снезе сляды дзікіх жывёл вызначыць можна толькі па іх памерах і шырыні кроку.

Сляды лася буйныя і размашыстыя. Даўжыня кроку 70—90 см, на хадзе рыссю — каля 150 см, а скачкі пры галопе перавышаюць 3 м. Даўжыня кроку высакароднага аленя пры павольнай хадзе — 60—100 см. След казулі больш падобны да ласінага, але значна меншы за яго. Па даўжыні ён мае ўсяго 8—12 см, а ў лася 25—30 см.

Сляды дзіка ад слядоў іншых капытных можна адрозніць па суадносінах велічыні адбітка капытоў і даўжыні кроку. Напрыклад, у дзіка крок карацейшы, чым у цяляці лася, а адбітак капытоў удвая буйнейшы. Памер адбітка следу дарослага дзіка-секача можа дасягаць 15—18 см. Даўжыня кроку дарослага звера пры павольнай хадзе каля 40—50 см, прычым адбіткі асобных слядоў пры хадзе пераважна размешчаны «елачкай», таму што звер шырока расстаўляе ногі. Калі дзік бяжыць рыссю, адлегласць паміж асоб-




Сляды аленя.




Сляды дзіка.




Сляды лясной куніцы.

нымі адбіткамі слядоў павялічваецца да 90 см і яны выцягваюцца амаль у прамую лінію. Заднія ногі пры руху ён ставіць у сляды пярэдніх. Скачкі дзіка пры хуткім бегу дасягаюць 2 м.

Сляды на шчыльным падталым снезе дапамагаюць дакладна назваць не толькі від жывёлы, але і вызначыць яе пол. Сляды самца лася буйнейшыя за сляды самкі і больш круглявыя. У аленяў і казуль адбіткі капытоў самцоў таксама большыя, чым у самак, і накіраваны сваім вастрыём убок. Капыты ласёў у кожным адбітку больш рассунуты адзін ад аднаго, чым у аленяў. Кожны капыток аленя мае выгнутую, амаль паўкруглую форму, а капыты лася ў аснове больш шырокія, чым у аленя.

Вучыцца вызначаць сляды лепш пад кіраўніцтвам заолага або спрактыкаванага паляўнічага. Самому ж незнаёмыя сляды, якія напаткаюцца, трэба замаляваць або сфатаграфаваць, вымераць, каб потым параўнаць іх з малюнкам у спецыяльных кнігах — вызначальніках.

А куды ж праклаў сцежку «наш» лось? Пойдзем па яго слядах. Вось ён спыніўся сярод маладых сасонак, пажаваў яловыя лапкі, зламаў верхавінку маладога дрэўца, паласаваўся яго карой, закусіўшы мімаходам галінкамі рабіны.

Лось, пасля зубра, самая буйная з нашых капытных жывёла. У яго вялікая гарбаносая галава з тоўстай верхняй губой і буйнымі вушамі. Рогі мае толькі самец. Па знешняму выгляду лось вельмі нязграбная жывёла. Масіўнае кароткае тулава трымаецца на доўгіх нагах. На спіне высокі загрывак утварае як бы горб. Нягледзячы на такі, на першы погляд, непрапарцыянальны склад і нязграбнасць гэтыя жывёлы лёгка, бясшумна і вельмі хутка перамяшчаюцца па лесе. Ад зімовай сцюжы іх засцерагае густая цёмна-бурая поўсць.

Лось — лясны жыхар. Улюбёныя месцы яго знаходжання — старыя гары, зарослыя лесасекі, узбярэжжы лясных рэк і ручаёў, балоцістыя багны, берагі азёр. Зімой, калі глыбокія снягі перашкаджаюць перамяшчэнню, на невялікім участку лесу можна сустрэць статак да 10 ласёў. У гэтых месцах снег бывае настолькі вытаптаны, што зразумець, колькі тут было звяроў, проста немагчыма. Трэба зрабіць круг і абысці месца жыравання, праверыць сляды. Яны дадуць адказ, колькі і якія звяры тут карміліся.

А хто пратаптаў вострымі капыткамі гэту сцежку ў снезе? Куды яна вядзе? На яе шляху сустракаюцца незразумелыя ямы... Сцежка выводзіць на паляну. Тут снег перамешаны з зямлёй, тырчаць карані выглядваюць з-пад снегу зялёныя сцяблінкі нейкіх раслін. Гэта рыліся дзікі, пакідаючы ямы. У пошуках прыдатных да корму раслін, каранёў і карэнішчаў, насякомых, якія засталіся зімаваць, і іх лічынак, яны перааралі паляну. А далей за пераараной палянай сцяжынка пайшла ў глухі нізкі ельнік і вывела да краю балота. Тут пад лапамі елак можна ўбачыць некалькі буйных «гнёздаў» з тонкіх хваёвых лапак. Гэта лежні дзікоў. На такой пасцелі цяплей.

Працягваючы свой шлях, мы выходзім на бераг лясной рэчкі. Што гэта за сляды? Глыбокая баразна ідзе ўздоўж берага, а затым знікае ў палонцы. Ну, вядома, гэта сляды выдры. Хто, акрамя яе, будзе купацца зімой?! Сляды выдры цягнуцца па беразе ракі, пакуль не сустрэнецца палонка, дзе яна заўсёды можа паласавацца рыбай. Так ад адной палонкі да другой яна і ходзіць па сваіх жа слядах, прабіваючы ў глыбокім снезе траншэю. На мяккім грунце пад самым берагам добра відаць сляды плавальных перапонак і невялікіх кіпцюроў.



Лось.



Казуля.



Вавёрка.



Выдра.

Выдра — драпежнік, які вядзе паўводны спосаб жыцця. Выцягнутае і вельмі гнуткае цела, кароткія лапы з перапонкамі, якія даходзяць да канца пальцаў (іх у яе пяць), клапаны, што закрываюць вушныя і насавыя адтуліны, калі звер знаходзіцца ў вадзе,— усё сведчыць аб сувязі выдры з воднай стыхіяй. Выдра цудоўна плавае і дае нырца. Пад вадой можа знаходзіцца да 3 хвілін, праплываючы за гэты час да 100 м і больш. У вадзе выдра цудоўна палюе на рыб — любімы свой корм.

Большасць рыб з надыходам халадоў хаваюцца ў глыбокіх месцах на дне азёр і рэк, у так званых зімавальных ямах. А карасі і ліні нават закопваюцца ў глей. Там, на самым дне, і ў лютыя маразы бывае да 40° цяпла. На дне зімуюць таксама і жабы. І імі не грэбуе выдра. Вось чаму звер так старанна абследуе то адну, то другую палонку.

Калі выдра ідзе па рацэ, якая пятляе, то карыстаецца вузкімі перашыйкамі паміж паваротамі рэчкі, каб скараціць сабе шлях. Калі ідзеш па незнаёмай рэчцы і бачыш, што след пайшоў на бераг і ў лес, то смела ідзі па ім, і тады ты таксама скароціш сваю дарогу на цэлы паварот ракі, да 0,5 км, а то і больш.

Ратуюцца жыхары лесу зімой ад халадоў па-рознаму. Замерлі да вясны насякомыя: адны — пад карой дрэў, другія — пад лясным подсцілам, трэція — у памяшканнях, падвалах, скляпах. Многія насякомыя не вытрымліваюць моцных маразоў, зімуюць толькі адкладзеныя імі яйцы.

Пад спарахнелымі пнямі можна знайсці адранцвелых вужоў, яшчарак, жаб.

А што гэта за дзіўныя шляхі-крыжыкі на снезе, якія губляюцца ў неглыбокіх ямках? Аказваецца, тут, схаваўшыся ад марозу, начавалі це-




Сляды ласяў.




Сляды казулі.




Сляды вавёркі.




Сляды выдры.

церукі. Пакуль снег неглыбокі, цецерукі, рабчыкі і глушцы начуюць на дрэвах, а са з'яўленнем глыбокіх і рыхлых гурбаў уладкоўваюцца на начлег пад снегам. Яны ныраюць у гурбу з разлёту, а іншы раз ідуць, выбіраючы зручныя месцы, і закопваюцца ў снежную «пасцель». Праўда, пасцель гэта вельмі небяспечная. Часта пасля невялікай адлігі наступае мароз. На снежнай паверхні ўтвараецца цвёрды шарпак. Многа бед ён прыносіць птушкам і звярам, многа лясных трагедый адбываецца ў гэты час пад снегам.

У рабчыка, у параўнанні з цецеруком, дробныя крыжыкі слядоў. Трэба закопвацца ў снег на начлег — прабяжыць, закапаецца, прарые норку ды яшчэ прадзярэ столь сваёй начной кватэры галоўкай, каб агледзецца, ці бяспечна. Раніцай вылезе, пройдзецца крыху, толькі потым узляціць, драпнуўшы снег кончыкамі махавых пёраў, быццам пяцярнёй пэцне. І зноў жа не трэба бачыць самога рабчыка: аб усім раскажуць яго сляды на снезе.

Кароткі зімовы дзень. Вельмі рана цямнее. Сіні паўзмрок апускаецца на лес. Але пад дрэвамі ад снегу ўсё яшчэ даволі светла. Дрэвы пры месячным святле здаюцца казачнымі, быццам чараўнік абсыпаў серабрыстымі пушынкамі кашлатыя яліны і сосны. Раптам падзьмуў вецярок. Вітаючы яго, зашумелі дрэвы сваімі заснежанымі верхавінамі, і тысячы зіхотных у месячным святле сняжынак павольна і плаўна апусціліся на зямлю. Затым зноў усё сціхла. Раптам жаласны крык, падобны на дзіцячы, парушыў цішыню начнога лесу. На адкрытай паляне ў дзіўнай позе, лежачы на спіне, заяц адбіваўся ўсімі чатырма лапамі ад нападу вялікай белай птушкі. Дзесьці зусім побач трэснула галінка. Прайшоў буйны рагаты лось, і гэта выратавала зайца ад вострых кіпцюроў белай палярнай

савы, якая бясшумна знікла ў цемры ночы. Яшчэ не верачы ў сваё выратаванне, перапалоханы заяц ускочыў, зрабіўшы неверагодны скачок, і імгненна знік.

Аднекуль з глыбіні гушчару раздалося грубае працяглае звярынае выццё, якое насцярожыла ўсіх жыхароў лесу. Гэта, склікаючы сваіх шэрых сабратоў, завыла ваўчыца. Сабраўшыся ў гайню, ваўкі ўсю зіму будуць паляваць разам. Так лягчэй здабываць сабе корм. Многа дзікіх коз, дзікоў, аленяў і свойскіх жывёл гіне за зіму ад гэтых бясстрашных і нястомных драпежнікаў. Ваўкі не баяцца нападаць нават на зуброў і ласёў.

У студзені пачынаюцца воўчыя «вяселлі». У гэты час можна сустрэць вялікія зграі, дзе за ваўчыцай ходзяць адразу па некалькі ваўкоў. Паміж сапернікамі адбываюцца жорсткія стычкі. Пераможцам становіцца мацёры, самы дужы і



Паляванне савы.

буйны звер. Ён і застаецца з ваўчыцай. Увесь месяц уначы можна чуць працяглыя воўчыя скавытанні, своеасаблівыя звярыныя «канцэрты».

Для жыхароў лесу зіма самая суровая пара года. У марозныя снежныя студзеньскія дні звяркі, нават у цёплых зімовых футрах, стараюцца як мага радзей пакідаць свае сховішчы. Гарнастай і ласка толькі зрэдку пакажуцца на снезе, больш бегаюць пад снегам у час далёкіх падарожжаў у пошуках корму — мышэй і палёвак. Непрабудна спяць у сваіх норах барсукі і янотападобныя сабакі, вожыкі і суслікі.

Мароз усё мацнее. З кожным днём павялічваецца таўшчыня лёду на рэках і азёрах. Але жыццё ў глыбіні падводнага царства не замірае. Калі ўжо даўно сабраліся ў зімавальных ямах, апусціліся на дно, ахуталіся, як футрам, сліззю і, ледзь варушачы плаўнікамі, стаяць радамі карасі, ліні, ляшчы, то мянтуз у гэты цяжкі перыяд, наадварот, адчувае сябе добра. Ён выходзіць з-пад карчоў, дзе правёў лета, і накіроўваецца на нераст. Дзесьці ў падлёдным прыцемку выгналі вострыя зялёныя парасткі трыснёг, рагоз і іншыя водныя расліны.

Лес, апрануты ў беласнежны з алмазнымі іскрамі ўбор, прыціх і замоўк.

# МАРОЗ І СОНЦА

Люты — апошні месяц зімы, самы мнагаснежны перыяд — час злосных мяцеліц, завірух і снежных заносаў. «Завірухі ды мяцелі ў лютым прыляцелі»,— кажуць у народзе. За вялікую колькасць снегападаў, мяцеліц і халадоў яго называюць лютым, а за тое, што перасякае зіму папалам, яшчэ і сечанем.

Цяжкія шапкі снегу прыгнулі галіны дрэў. Сняжынкі пад парывам ветру мякка падаюць зіхотнымі зорачкамі з дрэў. Паступова ўзмацняецца вецер, з тужлівым завываннем намятае гурбы, заносячы кусты. Пры вялікай колькасці снегу будзе многа вады вясной. Люты рыхтуе немалы запас вільгаці для будучага ўраджаю. Не выпадкова народная мудрасць гаворыць: «Высокія дарогі — высокі хлеб будзе».

Асабліва цяжкі гэты месяц для дзікіх звяроў і птушак. Жыхары лесу стараюццца схавацца ад пранізлівага ветру і снежных крупак, якія засыпаюць сцежкі слядоў. Люты — месяц лютага холаду і голаду для ўсяго жывога ў прыродзе. У гэты месяц жыхары лесу асабліва адчуваюць патрэбу ў падкормцы.

Таму ў лютым у школьных лясніцтвах і паляўнічых гаспадарках найбольш актыўна праводзіцца падкормліванне звяроў і птушак.

Люты прыносіць не толькі холад, але і радасць. Днём хмарнае неба іншы раз становіцца на дзіва глыбокім і сінім, а сонца не па-зімоваму яркім і цёплым. Прыгрэе ў поўдзень сонца — і папаўзуць з ялін і бяроз снегавыя шапкі, а на паўднёвым баку не-не ды і з'явіцца першы лядзяш.

У лютым вясна з зімой змагаецца. Халады і мяцеліцы чаргуюцца з адлігамі. Праўда, маразы ў

другой палове месяца — гэта апошнія намаганні зімы перад наступам вясны.

Сонца ўсё вышэй. Часта плачуць ледзяшы. Дзень прыбыў на 2 гадзіны. Больш адчуваецца розніца паміж тэмпературай раніцы і днём. Нездарма ў народзе гэты месяц завуць «бакагрэем». Сонца прыгравае, а ў цяні мароз за нос хапае. Але ўсё ж люты — апошні месяц зімы.

Павесялелі птушкі. Недалёка да вясны. Працягла і звонка ў сонечны поўдзень выводзіць сваю першую веснавую песеньку вялікая сініца. Яна прыбралася: чорны гальштучак праходзіць у яе праз грудку і, апускаючыся ніжэй на брушка, цягнецца да самага хваста. Не адстае ад яе і аўсянка. Сядзіць на альховым кусточку і складна так выводзіць: сінь-сінь-сінь.

На румяных галінках вярбы засерабрыліся пушыстыя пупышкі. Але вось лускавінкі адпалі, і пупышкі раскрыліся, адразу непазнавальна ўпрыгожыўшы кусты. Не адстала ад сваёй сяброўкі і вярба-брэднік. Яна таксама радасна раскрыла свае пупышкі. Ззяе яе крона, усміхаецца вясновай радаснай усмешкай. Толькі не думайце, што яна зацвіла. Вярба-брэднік і вябра звычайная зацвітуць у час разводдзяў. А зараз яны толькі скінулі цвёрдыя лускавінкі.

Каля адзінокіх дрэў снег падаўся ад нагрэтай кары, зашурпаціўся. Бывае, што снег каля дрэва зусім растае. Тады над праталінай паказваюцца зялёныя кусцікі бруснічніку, унізаныя скурастымі зялёнымі лісточкамі, верас, грушанка і іншыя расліны. Ім нядрэнна жылося пад снегам. Вось і зірнулі яны на свет, свежыя і прыбраныя, насуперак сцюжам і мяцеліцам.

Другая палова лютага — пара высеву яловага насення. Учора быў мароз, а сёння адліга. Чым

вышэй сонца, тым часцей чуецца ў хваёвым лесе патрэскванне. Гэта лопаюцца запячатаныя лупінкай смалы бурштынавыя шышкі. Яны тапырацца, раскрываюць лускавінкі і выкідваюць крылатае насенне.

Кружачыся ў паветры, зярнятка, быццам мініяцюрны верталёт, апускаецца далёка за межамі мацярынскай кроны. Над заснежанымі палянамі ў бляску сонечных прамянёў разгульвае залатая мяцеліца яловага насення-лятучак. Зверху ўніз, спіральна ўкручваючыся ў празрыстую сінечу, яны падаюць на раскідзістыя галінкі, ціха-ціха кладуцца на цвёрды шарпак. Але раптам аднекуль набягае вецярок. Быццам на ветразях, незлічонае мноства крылатага зерня зноў узвіваецца ўвысь або струменіць ручаямі па слізкаму шарпаку і знікае ў бясконцых лясных прасторах.

Люты — апошні месяц жыхарства ў нашых лясах снегіроў, амялушак, крыжадзюбаў, чачотак. У сакавіку, з надыходам цяпла, яны адпраўляюцца на поўнач. Разам з імі знікнуць паўночныя совы і касматаногія кані.

Некаторыя птушкі і звяры з надыходам вясны вядуць сябе незвычайна. Паглядзіце на гэтых дзвюх варон, што ўселіся на высокай сасне. Адна з іх энергічна кланяецца, быццам вітаецца, гучна шчоўкаючы дзюбай. Праз некаторы час птушка змаўкае, і тады другая варона, якая сядзіць насупраць, пачынае гэтак жа кланяцца і цёхкаць. Птушкі даволі доўга ківаюць галовамі, але ні разу не робяць гэтага адначасова. Яны захоўваюць строгую чарговасць. А ў гэты час іншыя вароны і некалькі галак імкліва пералятаюць з месца на месца. Некаторыя птушкі проста ходзяць па снезе, выпісваючы мудрагелістыя ланцужкі слядоў. Раптам адна з іх няўлоўным рухам кранаецца снегу

шырока растапыранымі пёрамі крыла, пакідаючы на яго паверхні глыбокія веерападобныя штрыхі. Пачаліся шлюбныя гульні ў варон і галак.

Удалечыні на галінках расселіся сарокі. Час ад часу кожная выдае даволі меладычныя адрывістыя гукі, якія не маюць нічога агульнага са звычайным сарачыным стракатаннем. Вось адна з птушак сарвалася з дрэва і ў велічным палёце паплыла над палянай. Сарока робіць некалькі кругоў, усё ніжэй апускаючыся да зямлі. І раптам яна кідаецца на снег, пакідаючы на ім адбітак галавы, шыі, тулава, доўгага хваста, распасцёртых крылаў. Затым у гульню ўступаюць яшчэ некалькі сарок. Гэта шлюбныя гульні.

А вось чорны, як вугаль, крумкач. Ён таксама распачынае паветраныя гульні. Узлятае ў бяздонную вышыню, а насустрач яму імкнецца крылатая сяброўка. Разляцеўшыся па баках, пакружыўшыся на розных вышынях, яны зноў збліжаюцца.

Не трэба блытаць крумкача з шэрай варонай. Крумкач прыкметна буйнейшы, ад кончыка хваста да канца дзюбы — чорны, нават з металічным бляскам. Птушка гэта асцярожная і скрытная. Да хат крумкач падлятае рэдка і толькі ўзімку з надзеяй чым-небудзь пажывіцца.

Пасля гульняў крумкач і яго сяброўка прымаюцца за пабудову гнязда. Чорная нясушка ўсаджваецца наседжваць яйцы ў той час, калі іншыя аселыя птушкі аб гэтым і не думаюць. Крумкач і зімой знаходзіць корм.

З лясных курыных птушак першымі адчуваюць надыход вясны глушцы. У сярэдзіне лютага птушкі мяняюць спосаб жыцця. Яны выбіраюцца з лясных нетраў на больш адкрытыя месцы, бліжэй да імшарын і пачынаюць «рэпетыцыі» свайго шлюбнага рытуалу, які займае ў іх увесь красавік.

Глушцы злятаюць з дрэў і расхаджваюць па снезе, апусціўшы крылы і пакідаючы на снежнай цаліне характэрныя сляды. «Глушэц чарціць пачаў»,— кажуць паляўнічыя. Іншы раз птушкі паварочваюцца на месцы з распушанымі крыламі, і на снезе ўтвараюцца кругі. Пры гэтым яны спрабуюць успомніць першую частку сваёй песні, якую будуць спяваць вясной. Пачарціўшы на снезе, глушэц узлятае на дрэва і падоўгу дрэмле на будучым такавішчы, як бы нагадваючы леташнія турніры. Улюбёныя дрэвы будучых такавікоў можна вызначыць па накіданай імі іглііцы і памёце.

На краі паляны на бярозах расселіся буйныя чорныя птушкі. Гэта цецерукі. Яны таксама вылятаюць на ўзлескі або на лясныя паляны, бліжэй да месц сваіх такавішчаў. Рассаджваюцца на дрэвах і грэюцца на сонейку. Вялікія сінявата-чорныя пеўні і стракатыя курачкі, распушыўшыся, важна сядзяць на тонкіх бярозавых галінках. У пеўняў — ярка-чырвоныя бровы і завітыя ў коскі чорныя хвасты. Сядзяць прыбраныя цецерукі спакойна. Толькі зрэдку які-небудзь з іх выцягне шыю і дзеўбане набрынялую бярозавую пупышку.

Разбіваюцца на пары рабчыкі і шэрыя курапаткі. Яны займаюць будучыя свае гнездавыя ўчасткі і рыхтуюцца да вясны.

На зацішнай ляснай паляне, якую выбралі зайцы для сваіх «шлюбных» турніраў, увесь снег вытаптаны іх лапамі. Лютаўскімі начамі тут вельмі ажыўлена. Даўгавухія «кавалеры», якія сабраліся сюды, на вачах сціплых каханак наладжваюць своеасаблівыя спартыўныя спаборніцтвы: бегаюць адзін за адным, робячы неверагодныя скачкі, палохаюць адзін аднаго, нават распачынаюць бойкі, пакідаючы на снезе заячую поўсць.

Люты — пара вавёрчыных гульняў. Спрытныя

звяркі з цоканнем і верашчаннем гоняцца адзін за адным у верхавінах соснаў і ялін, маланкава пераскакваючы з аднаго дрэва на другое. Затым кідаюцца ўніз і бегаюць, друкуючы на снезе сляды ў выглядзе пацерак. Ланцужкі слядоў-пацерак перасякаюцца ў самых розных кірунках, пакідаючы ў друзлым снезе характэрныя трапецападобныя адмеціны. На тонкім снезе лёгка адбіваюцца ўсе чатыры лапкі. Сляды задніх лапак размяшчаюцца спераду, крыху збоку ад пярэдніх. Асабліва выразны след пакідае вавёрка. Калі снег вільготны, відаць кожны пальчык. Першы палец кароткі, следу не пакідае. Заднія лапкі робяць выразныя пяціпальцыя адбіткі.

У канцы зімы, адчуваючы патрэбу ў вітамінах, звярок пачынае есці яловыя шышкі. Вавёрка адгрызае яловую галінку і выядае пупышку. Снег пад елкай тады ўсыпан маленькімі зялёнымі галінкамі. У неўрадлівыя на шышкі гады галодныя звяркі кормяцца пупышкамі, лішайнікамі і грыбамі.

Пачаліся лісіныя «вяселлі». На ўзлесках можна ўбачыць, як некалькі вялікіх лісаў з ледзь чутным брэхам гоняцца за невялікай спрытнай ліскай. У гэтым месцы снег густа пакрыты слядамі, а навокал валяюцца рыжыя касмыкі выдранай лісінай поўсці.

У лютым разбіваюцца на пары ваўкі — гойні распадаюцца. Старыя звяры ходзяць асобна ад маладых. Кожны звер пакідае на снезе «візітную картку» — метку аб сваім узросце і развіцці. Строгі закон іклаў у ваўкоў. Дрэнна будзе слабаму, калі сутыкнецца на дарозе з моцным.

Кароткі зімовы лютаўскі дзень. З-за сіняга ў серабрыстай шэрані лесу ўзнімаецца сонца і, хутка пракаціўшыся па нізкім выстуджаным небе, раскладае па снезе доўгія густыя цені. А пад вечар

ціскане моцны марозік. Зіма не здаецца. Яшчэ ўчора была адліга, а сёння на снезе цвёрды, як шкло, шарпак. Не выпадкова ў другой палове лютага цецерукі і рабчыкі баяцца начаваць у снезе. Схаваецца ад марозу вечарам у снег чародка цецерукоў або курапатак, а ноччу мароз скуе снежнае покрыва ледзяной скарынкай і ўся чародка гіне. У гэты час многа жывёл гінуць ад голаду і становяцца ахвярамі драпежнікаў. Глыбокі снег з цвёрдым шарпаком — бяда для дзікіх капытных: лася, аленя, казулі і дзіка. Ім цяжка перамяшчацца па гурбах: востры шарпак раніць ногі. Таму ў лютым гэтыя звяры вымушаны падоўгу трымацца на стойбішчах і галадаць.

А вось зайцоў шарпак радуе. Яны не праваль-ваюцца ў снезе і па шарпаку ўцякаюць ад лісіцы і ваўка. Нават спрытная рысь не можа паласавацца зайчацінкай: не дагнаць ёй зараз даўгавухага.

Калі на снезе шарпак, на дрэвах з'яўляюцца землярыйкі. Жыхар падзямелля і раптам на дрэве. Ці праўда гэта?

Вучоныя, якія назіраюць гэту дзівосную з'яву, сведчаць, што землярыйка, дабегшы да чарговага ствала, які сустрэнецца на яе шляху, узбягае на яго вельмі хутка. Спрытна снуе туды-сюды, управа-ўлева, уніз-уверх, забіраючыся на вышыню да 1,5—2 м, калі на ствале няма лішайнікаў, і зноў спускаецца ўніз. Часамі яна, відаць, нешта знаходзіць, бо на імгненне спыняецца, сунуўшы свой востры хабаток у лішайнікі. Прабегшы метраў восемдзесят, землярыйка абследуе да 20 ствалоў соснаў. Вядома, што некаторыя насякомыя знаходзяць сабе на зіму сховішча ў трэшчынах кары і лішайніках. Іх і адшукваюць землярыйкі.

Пад вясну ніжнія пласты снегу настолькі ўшчыльняюцца, што перамяшчацца пад імі зверкам ро-

біцца цяжка, вось голад і заганяе землярыек на дрэва.

Раніцай па цвёрдым шарпаку можна прайсці па беразе пакручастай, безназоўнай лясной рачулкі. Яна бяжыць па светлым бары, ныраючы ў густыя альшанікі, і, ціха струменячы пад лёдам, выбягае на адкрытую шырокую забалочаную пойму, парослую густымі зараснікамі чароту, трысця.

А што гэта за буданчыкі без акон і дзвярэй з трысця і рагозу? Хто ў іх жыве?

Гэта хаткі андатраў, навасельцаў Беларусі.

Андатра, ці мускусны пацук,— невялікі пушысты звярок з голым, сплюснутым з бакоў хвастом. Андатра — буйнейшая (масай больш за 1 кг) палёўка, «ураджэнец» Паўночнай Амерыкі, адкуль была завезена да нас у 1927—1928 гг. Звярок паспяхова акліматызаваўся і засяліў вялікую тэрыторыю нашай краіны.

Андатра — грызун, які праводзіць палову жыцця пад вадой. Яна выдатна плавае і нырае, здольна ўтрымлівацца пад вадой да 12 хвілін. Доўгі хвост служыць ёй рулём. Лапкі не маюць плавальнай перапонкі, як у бабра, але пальцы задніх лап маюць цвёрдую шчаціністую аблямоўку. Яны дапамагаюць заграбаць ваду.

Звярок засяляе ціхія з багатай воднай і балотнай раслiннасцю рэкі, азёры, балоты.

Нягледзячы на тое што андатра ў асноўным вядзе начны спосаб жыцця, яе можна ўбачыць і днём на кармленні. Кормам для яе служаць маладыя сцяблінкі і парасткі асакі, чароту, трысця, рагозу, рдзесту і багатыя крухмалам карані і карэнішчы жоўтых і белых гарлачыкаў і іншых водных і балотных раслін.

Спосаб жыцця андатры ў многім падобны да спосабу жыцця бабра. У забалочаных месцах яна такса-

ма будуе хаткі вышынёй да 1,5 м, у дыяметры да 2 м. У стромкіх берагах рые норы. Даўжыня нары залежыць ад вышыні берага, у нізкіх месцах яна дасягае 20 м, а ў высокіх — да 5 м. Уваход у нару і ў хатку заўсёды пад вадой, каб туды не залезлі драпежнікі: лісіца, тхор, гарнастай і інш. Летам, калі ўзровень вады ў вадаёмах зніжаецца, уваходы ў нару размяшчаюцца ў некалькі паверхаў.

На вадаёмах з нізкімі забалочанымі берагамі андатра будуе хаткі. На затанулы корч, тарфяную купіну, якая віднеецца з вады, або на заломы трысця звяркі пачынаюць нацягваць балотныя расліны, галлё, раслінныя аб'едкі. Унутры гэтых куч яны будуюць гнёзды (адно або некалькі), выхады з якіх вядуць у ваду. Там жа знаходзіцца і кармавая камера. У яе звяркі нацягваюць з вады корм і паядаюць яго. Зімой у такіх хатках, занесеных снегам, цёпла.

Андатра вядзе актыўны спосаб жыцця на працягу ўсёй зімы. Наверх яна выходзіць вельмі рэдка, запасаў корму не робіць, таму зімой паядае ўсё, што можна здабыць пад лёдам: карэнне і карэнішчы раслін, малюскаў, ракаў, жаб і нават дробную рыбу.

У вадаёмах, якія вымярзаюць да дна, гіне многа звяркоў.

Андатра вельмі пладавітая. Размнажаецца вясной. За лета можа вывесці 2—3 вывадкі, часцей па 7—8 дзіцянят у кожным. Непатрабавальнасць яе да корму, здольнасць кожны год даваць патомства і без цяжкасці пераносіць суровыя зімы, а таксама выдатныя якасці яе скуркі (мяккая, густая, не прамакае ў вадзе) з'явіліся прычынай завозу і акліматызацыі гэтага звярка ў нашай рэспубліцы.

У Беларусі андатра з'явілася ў пасляваенныя гады ў Брэсцкай вобласці, спачатку ў прытоках Заходняга

Буга, куды яна трапіла з Польскай Народнай Рэспублікі. У 1953—1954 гг. больш за 30 звяркоў было выпушчана на возера Чырвонае ў Гомельскай вобласці. З 1953 па 1956 г. у рэспубліку завезлі і выпусцілі ў азёры Гомельскай і Віцебскай абласцей больш за 2000 андатраў. Звяркі прыжыліся.

У лютым, калі азёры, рэкі, сажалкі і балоты пакрыты лёдам, андатра выступае ў ролі выратавальніка рыб у вадаёмах. Многія жывёлы, якія жывуць у вадзе, у тым ліку і рыбы, дыхаюць растворапым у ёй кіслародам. У другой палове зімы колькасць кіслароду ў вадзе, асабліва ў закрытых, непраточных вадаёмах, змяняецца. Кісларод расходуецца на гніенне адмерлых водарасцей, на дыханне жывёл, а паступаць яму няма адкуль: усё пакрыта тоўстай коркай лёду. Пачынаецца кіслароднае галаданне, і рыба задыхаецца. Асабліва адчувальны да недахопу кіслароду судак. Яму трэба не менш, чым 5 мг кіслароду на 1 л вады. Шчупак, лешч, акунь абыходзяцца 3,5 мг. Найбольш вынослівыя лінь і карась.

Калі рыбам не хапае кіслароду, яны выходзяць да палонак, ямак і ротам хапаюць паветра. Гэта пачатак бяды. Лепш, вядома, не чакаючы гэтага, прасячы ў лёдзе аддушыны, каб папярэдзіць замор рыбы. Каб вада ўзбагачалася кіслародам, на вадаёме трэба мець пастаянна незамярзаючыя палонкі. Прынясуць карысць і простыя ямкі. У іх можна пакласці пучок саломы або чароту. Таму там, дзе андатры паставілі хаткі, заморы рыб бываюць радзей, бо паветра паступае ў ваду праз адтуліны.

У лютым збіраюцца ў родным краі яркія і прыгожыя птушкі — краса зімовага лесу — нашы паўночныя госці: снегіры, крыжадзюбы, амялушкі, чачоткі, шчуры.

Вось у бліжэйшым хваёвым гушчары чуецца хара-

ктэрны скрыпучы свіст. Гэта пераклікаюцца снегіры. У самца — ярка-чырвоныя грудзі і брушка, блакітна-попельная спінка, на галаве чорненькая шапачка, крылы і хвост таксама чорныя. Самка апранута больш сціпла. Грудзі і брушка ў яе цёмна-шэрыя. Снегіры трымаюцца невялікімі чародкамі. А цяпер яны сядзяць натапырана, нібы задумаўшыся. Адпачываюць.

Па чырвонай грудцы чырвонай шапачцы пазнаеш адразу крыжадзюба. У яго незвычайная дзюба: верхняя і ніжняя палавінкі яе перакрыжоўваюцца і робяць незабыўнае ўражанне. Велічынёй крыжадзюб са снегіра. У Беларусі зімуюць два віды: крыжадзюб-яловік і крыжадзюб-сасновік. У крыжадзюба-яловіка апярэнне цёмна-чырвонае з буравата м адценнем. Крыжадзюб-сасновік большы за яловіка. У яго



чырвоная спіна, хвост і надкрылы цёмна-бурыя з зеленаватай аблямоўкай пёраў. У самкі, у адрозненне ад самца, апярэнне аліўкава-шэрае, у апярэнні няма чырвонага колеру.

Зусім нядаўна ў марозныя дні мы назіралі за шлюбным такавішчам крыжадзюба. Цішыню зімовага лесу парушала заклікальная песня самца. Яна суправаджалася лопаннем крылаў, прагульваннем па галінцы, узлётамі ў прастору. Нярэдка да гучнага голасу самца, які нагадвае то свіст, то шчэбет далучаецца голас самкі. Яе песенька больш простая і не такая гучная. Самец-крыжадзюб працягвае спяваць нават тады, калі яго сяброўка будуе сямейнае гняздо. Галава сям'і ў гэтай празаічнай справе не ўдзельнічае, хоць знаходзіцца паблізу, і пацяшае сваю жонку спевамі. Але нельга лічыць яго гультаём: ён будзе кармільцам самкі ў час наседжвання ею яец.

Кормяцца крыжадзюбы вылушчаным насеннем з жоўтых яловых шышак. Гэтыя чырванаватыя і зеленаватыя птушкі, як і снегіры, таксама рыхтуюцца да адлёту на поўнач, у свае родныя мясціны.

А гэта што за птушка, чырванавата-шэрая, з залаціста-жоўтымі адмецінамі на крылах і жоўтай палоскай на хвасце? Знешні выгляд яе надзвычай прывабны. Яна добра прыкметная дзякуючы востраканечнай пунсова-чырвонай шапачцы на галаве. Гэта вельмі жвавая птушка — амялушка. У яе на канцы асобных пёраў крылаў і хваста ярка-чырвоныя рагавыя пласцінкі, іх няма ў іншых птушак. Здаецца, усе колеры вясёлкі ўвабралі ў сваё апярэнне гэтыя дзівосныя птушкі.

Амялушкі — жыхары лясоў поўначы Еўропы і Азіі. З надыходам халадоў і бяскорміцы яны-адпраўляюцца ў далёкія падарожжы. Штогод шматлікія чароды гэтых птушак, звычайна ў сярэдзіне каст-



Пуначка.



Чачотка.



Амялушка.

рычніка, з'яўляюцца ў нас у рэспубліцы. Падобна большасці паўночных птушак, амялушкі ў нашых лясах, асабліва ў пачатку зімы, вядуць сябе неасцярожна, празмерна даверліва. Частка прыляцеўшых птушак вандруе ў нашых лясах усю зіму. Яны нават залятаюць вялікімі чародамі ад двух-трох дзесяткаў да сотні ў паркі, сады, скверы населеных пунктаў.

Амялушкі — вялікія «абжоры». Каб наесціся, ім патрэбна з'есці столькі ягад, колькі важыць сама птушка. Апусціўшыся на рабіну, глог, ядловец, птушкі вельмі хутка спустошваюць усе дрэвы і ляцяць далей. Там, дзе шмат корму, яны затрымліваюцца надоўга.

У асобныя гады ў Беларусі з'яўляліся вялікія чароды амялушак з 300—500 і нават больш за 1000 птушак. Спецыялісты-арнітолагі ў сваіх летапісах прыроды адзначалі масавыя нашэсці амялушак у зімовы час: 1905—1906 гг., 1949—

1950 гг., 1957—1958 гг., 1960—1961 гг., 1962—1963 гг.

Масавыя міграцыі амялушак у краіны Заходняй Еўропы (Аўстрыя, Германія, Францыя, Балгарыя, Польшча і інш.) нараджалі сярод насельніцтва мноства самых разнастайных легенд і выдумак. Лічылі, што амялушкі — прадвеснікі будучых войнаў, эпідэмій і іншых няшчасцяў, таму стараліся знішчаць гэтых карысных птушак. Амялушкі ў сябе на радзіме ўлетку ў асноўным кормяцца насякомымі.

Вельмі цікава назіраць за клапатлівай дзейнасцю чарады чачотак. Гэтыя птушкі надзвычай жвавыя і добра прыкметныя дзякуючы сваім пунсова-чырвоным шапачкам. У самца горла, валляк і грудзі таксама чырвоныя. Сам ён шаравата-буры, а ўнізе белы. Вялікая чарада чачотак размясцілася ў густым алешніку. Пераскакваючы з галінкі на галінку, яны гучна пераклікаюцца: чы-чы-чы-чы! Раптам птушкі ўзлятаюць і знікаюць у зарасніках. Чачоткі таксама нашы зімовыя госці. Лета яны праводзяць у Скандынавіі, а зімой ляцяць на поўдзень, дабіраючыся нават да Францыі і Італіі.

Разам з чачоткамі да нас на зіму са Скандынавіі прылятаюць шчуры. Гэта яркаафарбаваныя птушкі, велічынёй з дразда ці шпака. Апярэнне малінава-чырвонае, у пярэсцінках, хвост доўгі, з прыкметнай выразкай пасярэдзіне. Крылы таксама доўгія. Дзюба тоўстая, моцная, здольная спраўляцца з шышкамі хваёвых дрэў, вылушчвае з іх насенне. Шчур даволі рэдкі зімовы від птушак у Беларусі.

На праездджых дарогах разам з вераб'ямі і аўсянкамі кормяцца вялікія чародкі вельмі яркіх птушак. Яны намнога буйнейшыя за вераб'ёў і выдзяляюцца сваёй двухколернай кантрастнай афарбоўкай: верх у іх цёмны, а ніз — белы. Гэта пуначкі. Ім таксама пара ў шлях, туды, дзе ляжыць яшчэ многа

снегу. Яны адлятаюць у паўночную тундру. Першымі адпраўляюцца самцы, а самкі адлятаюць значна пазней.

Чатыры зімовыя месяцы праводзяць крылатыя госці ў лясах Беларусі. Прылятаюць да нас птушкі з першымі замаразкамі і снягамі. Але гэта іх не палохае, бо нярэдка пераносяць і моцныя маразы. Апярэнне ў іх густое, пёры доўгія, мяккія, пад імі тоўсты пух. Яны не баяцца халадоў.

Развітваюцца крылатыя госці з беларускімі лясамі ў лютым — пачатку сакавіка ў залежнасці ад надвор'я. Куды ж яны ляцяць? Адказ на гэта пытанне дае масавае кальцаванне птушак. Зімой на тэрыторыі Беларусі былі выяўлены снегіры і чачоткі, якіх мінулым летам вучоныя акальцавалі ў Фінляндыі. Зімой у Венгрыі была акальцавана чародка амялушак. Праз год, таксама зімой, адна з іх была адлоўлена ў Белавежскай пушчы. Гэта сведчыць аб тым, як далёка на поўдзень адлятаюць амялушкі на зімоўку.

Пажадаем жа шчаслівай дарогі нашым паўночным крылатым сябрам!

Будзем зноў чакаць іх з першымі маразамі ў Беларусі.

## ВЯСНА СВЯТЛА

Сакавік напалову месяц зімовы, напалову — веснавы. Палохаючы жыхароў лесу, мяцеліцы і снегапады яшчэ не раз вяртаюцца на зямлю, і на пачарнелы снег могуць зноў легчы асляпляльныя белыя коўдры. І толькі цёплыя прамяні лютаўскага сонца пераканаўча гавораць аб надыходзе вясны. У сакавіку не толькі сонца робіцца ласкавейшым, пасылаючы нам больш цяпла, але і зямля больш «беражліва» адносіцца да гэтага цяпла. Калі свежы зімовы снег адбівае ў прастору 80—90% сонечнай энергіі, то рыхлы сакавіцкі — ужо 70—80%, набраклы ад вады — усяго 40—50%, а аголеная вільготная зямля — лічаныя працэнты.

Сакавік — пара кантрастаў і вялікіх перамен у прыродзе.

Пад цёплым сакавіцкім сонцам цямнее і рыхлее снег.

На ўзлесках вакол ствалоў дрэў агаляецца чорны паясок зямлі. Пасвятлеў лес, стаў чыстым, быццам празрыстым. Цені ад дрэў самыя разнастайныя, ад сініх да цёмна-фіялетавых.

Днём пачынаюць плакаць буйнымі кроплямі празрыстыя ледзяшы. Сакавіцкі капеж звонка адлічвае першыя хвіліны, гадзіны і дні доўгачаканай і самай прыгожай пары года — абуджэння ўсяго жывога ў прыродзе — вясны. Кроплі з першых ледзяшоў прабіваюць у снезе цёмныя калодзежы, дзе можна разглядзець размоклае лісце і спляценне светлых, амаль белых сцяблін траў. Іншы раз ледзяшы падаюць з шумам, разбіваючыся на шматлікія іскрыстыя асколкі.

Снег пацямнеў, стаў цяжкім ад вады і спачатку павольна, а затым усё хутчэй стаў асядаць і раста-

ваць. Па дарожных каляінах пабеглі ціхія ручайкі. Яны яшчэ не журчаць па-вясенняму гучна і звонка, як тыя, што нястрымна пазней памчацца да ракі. Ручайкоў мала. Уначы марозу іншы раз удаецца спыніць іх веснавы бег.

Рэкі і азёры набраклі. Крыху зверне з зімовай дарогі неасцярожны падарожнік і — можа трапіць пад лёд.

Яшчэ некалькі дзён назад на полі не было відаць ні лапіка зямлі — тырчэлі толькі адталыя ад снегу кусцікі, а ўчора вечарам на паўднёвым схіле яра з'явілася першая праталіна. Сёння яна стала шырэйшай, даўжэйшай, а непадалёку, прама ў полі, паказалася асенняя ралля. Пад цёплым сонцам адталая зямля дыхае, дыміцца лёгкай празрыстай парай.

Неба па-веснавому чыстае, блакітнае. Сонца свеціць нясцерпна ярка, нават вачам балюча. Надыходзіць, як гаворыць пясняр рускай прыроды М. М. Прышвін, «вясна святла». Вечарэе ўсё пазней і пазней, пакуль нарэшце не прыйдзе 22 сакавіка — дзень вясенняга раўнадзенства, калі дзень роўны ночы.

Раўнадзенства «звонам» будзіць прыроду. Па меры адтавання глебы абуджаюцца ад зімовага сну карані дрэўных раслін. Яны прагна ўсмоктваюць вільгаць. Пачынаецца рух сокаў. Нездарма сакавік у нас так і называюць. Узнімаючыся ўверх па ствале, вада захоплівае запасныя арганічныя рэчывы і растварае іх. Пры гэтым крухмал ператвараецца ў цукар, таму дрэўны сок мае саладкаваты смак. У большасці лугавых траў лісце пад снегам захоўвае зялёную афарбоўку. Яно адразу ж ажывае пасля таго, як растане снег. Зазелянелі падушкі лугавога лёну. На галінах асіны, алешыны, арэшыны з'яўляюцца доўгія гнуткія вісячыя каташкі. Хутка яны падаўжэюць, з іх пасыплецца пылок, і дрэвы ахутаюцца жоў-

тымі воблачкамі залацістага пылку. Усе яны цвітуць да з'яўлення лісця, апыляюцца ветрам. Быццам пушыстыя птушаняткі, рассядуцца па галінах белыя кветкі — гэта раскрываюцца кветкавыя пупышкі-баранчыкі вярбы.

У высокіх таполяў яшчэ не прадзяўбліся першыя ліпкія лісточкі, а яны таксама прыбраліся ў бэзважоўтыя завушнічкі.

Сакавік — месяц сустрэч птушак, пара птушыных навасельляў. На дарогах у шматлікіх лужынах з асаблівым задавальненнем купаюцца вераб'і. Прыняўшы ванну, мокрыя і ўскалмачаныя, яны паважна садзяцца ў бязветраным месцы на санцапёку і, распушыўшы пёры, паварочваюцца да сонца то адным, то другім бокам. Абсохнуўшы і сагрэўшыся, яны пачынаюць гучна цвыркаць, затым злавацца адзін на аднаго і нават уступаць у бойку. Б'юцца вераб'і з-за новых кватэр.

Надыходзіць адказная пара: час абзаводзіцца патомствам. Зімовыя чародкі рассыпаюцца, утвараюць пары. У іх з'яўляюцца новыя клопаты. З кожным днём песні аселых птушак робяцца гучнейшымі, апярэнне больш бліскучым.

Усім вядома, што гракі—птушкі пералётныя, восенню яны адлятаюць ад нас. Памятаеце неўміручыя някрасаўскія радкі: «Позняя восень, гракі адляцелі»? Гадоў пятнаццаць назад арнітолагі сталі заўважаць, што адзінокія гракі застаюцца зімаваць у наваколлі буйных гарадоў. Іх часта бачаць у мяшаных чародах варон і галак. Спачатку лічылі, што гэта знясіленыя, хворыя ці раненыя птушкі. Аднак у апошнія гады гракі сталі з'яўляцца ўжо групамі па 5—10 птушак. Стала ясна, што зімоўка гэта не вымушаная, гракі адкінулі векавыя традыцыі. Навасельцы вясной лятали на навакольныя палі і ачышчалі іх ад насякомых — сельскагаспадарчых шкоднікаў. Птушак можна было

бачыць з другімі прыляцеўшымі гракамі, якія важна крочылі за плугамі трактароў. Так частка пералётнай групы гракоў у Беларусі стала аселай. Але асноўная маса гракоў усё ж восенню адлятае ад нас на поўдзень.

І вось надыходзіць дзень, калі ў чорных з сінявatым металічным адлівам прыгожых касцюмах прылятаюць першыя вестуны вясны — гракі. Яны важна крочаць сярод галак, адшукваючы сваімі белымі насамі ў зямлі што-небудзь ядомае. Птушкі лятаюць гучнагалосымі чародамі, рыюцца на смецці, расхаджваюць па агародах. Гракоў не прыцягваюць лясы. На голых галінах дрэў у парках, садах і нават на шумных вуліцах можна ўбачыць вялікія гнёзды. Іх можа быць многа на адным дрэве, бо гракі — каланіяльныя птушкі. Толькі ў Мінску налічваецца больш за 200 гнёздаў. Калі іх не трывожыць, яны з году ў год займаюць адны і тыя ж месцы. Вось і сёння яны арганізавалі на дрэвах свой веснавы канцэрт. З шумам і гоманам птушкі рамантуюць свае гнёзды.

Нягледзячы на тое што гракі заўсёды гняздзяцца каля жылля, гэтыя птушкі асцярожныя. Прыляцеўшы ў родныя мясціны, яны з крыкам лятаюць над паркамі, гаямі, робячы аблёты, як бы аглядваюцца, асвойваюцца пасля зімы. Затым разбіраюцца на пары і распачынаюць рамонт гнёздаў.

Гракі прыляцелі, а з населеных пунктаў пацягнуліся ў лес сарокі. Надакучыла ім стракатаць па вясковых задворках. Надыходзіць вясна — самы раз вяртацца дадому. Гледзячы на сарок, і вароны з галкамі ў лес падаліся. Цяпер не прападуць, корму будзе ўволю. У лясах гасцей сустракаюць сінякрылыя сойкі. У гэтых птушак сваёй песні, акрамя рэзкага крыку і каркання, няма. Затое яны выдатныя перасмешнікі. Што чуюць, тое і падрабляюць. Яны могуць перадраж-

ніць не толькі івалгу, берасцянку, качку, але і па-майстэрску імітаваць іржанне каня, мяўканне кошкі. Да таго ж сойкі на рэдкасць памятлівыя: імітуючы голас зязюлі, пачынаюць кукаваць, як бы сустракаць раннюю вясну гэтымі «спевамі», хоць да вяртання зязюлі ў нашы лясы яшчэ многа часу.

Зусім нядаўна ўранні чуваць было, як вераб'і шумна раіліся з сініцамі аб тым, ці займаць ім шпакоўні. Гадалі, ці вернуцца ў гэтым годзе ў родныя мясціны законныя гаспадары. І вось, нарэшце, з'явіліся шпакі. Якія яны прыгожыя ў вясновым уборы! Чорнае пер'е з дробнай белай рабізной на сонцы пераліваецца самымі разнастайнымі адценнямі: ад цёмна-зялёнага да сінявата-фіялетавага. Раздаюцца галасы гэтых клапатлівых птушак. З раніцы яны збіраюць траву, сухія галінкі, пёркі і ўсё цягнуць у свае шпакоўні.

Над палямі звініць несупынная звонкая песня жаваранка. У яркім блакіце неба гэту маленькую птушачку спачатку цяжка заўважыць, але прыгледзеўшыся больш уважліва, можна ўбачыць жывую трапяткую кропку, якая ўзнімаецца ўсё вышэй і вышэй у нябесную сінь, час ад часу як бы павісаючы ў паветры. Узнімаючыся высока-высока над палямі, ён першым з усіх убачыў узыходзячае сонца і звонкай непаўторнай трэллю абвясціў пра гэта. А ўслед за ім на розныя галасы заспявалі, застракаталі, зацыркалі і закрычалі іншыя птушкі, і тыя, што вярнуліся з далёкіх вандровак, і тыя, што перажылі халодную зіму ў родных краях. У ельніках раздаецца глухое буркаванне вяхіроў — лясных галубоў. Цікава паслухаць, як вяхір — пеўнік вітае сваю сяброўку. Кружыць над дрэвам, дзе яна сядзіць, і рэзка б'е крыламі, быццам хоча апладысментамі звярнуць на сябе яе ўвагу.

У густым цёмным ельніку чуецца веснавая пера-

клічка рабчыкаў. Яны таксама ладзяць гнёзды, рыхтуючыся да кладкі яец. А самка чорнага крумкача ўжо даўно сядзіць у гняздзе, наседжваючы 5—6 яец. Заклапочаны рамонтам гнёздаў вароны, галкі, галубы.

Попыт у птушак на будаўнічы матэрыял (траву, галінкі, салому, пух і пяро, конскі волас) вельмі павысіўся.

У вёсках ідзе падрыхтоўка да палявых работ. На палі вывозяць угнаенне. У кузні стукае молат, звініць жалеза, заканчваецца рамонт сельскагаспадарчага інвентару. У садах вызваляюць ствалы фруктовых дрэў ад саламяных футраў — штамбаў, у якіх зімавалі яблыні. На галінах адшукваюць, здымаюць і знішчаюць гнёзды шкоднікаў: баярышніцы, залатагузкі, кладкі яец кольчатага шаўкапрада. У парніках таксама ажыўленне: высяваюць радыс, кроп, цыбулю на пер'е, раннія сарты капусты.

У гарадах, вёсках уначы на дахах чуваць кацiныя «канцэрты», якія часта заканчваюцца бойкай. А ў лясным гушчары буйныя лясныя кошкі-рысі таксама ахоплены вясенняй ліхаманкай. Вакол кожнай самкі збіраюцца па 2—3 самцы. Яны бязлітасна б'юцца, моцна крычаць. У пошуках сваіх сяброўак гэтыя буйныя кошкі вясной нават заходзяць у населеныя пункты.

У сакавіку ў многіх звяроў з'яўляюцца нованароджаныя. Нарадзіліся першыя зайчыкі-сакавікі ў зайцарусака. Відушчыя, у цёплай футры, яны лезуць пад бруха маці і прагна прысмоктваюцца да саскоў. Малако ў зайчыхі тлустае. Яно змяшчае больш чым 20% тлушчу. Накарміўшы зайчанят, маці ўцякае, пакідаючы сваіх дзіцянят на волю лёсу. «Беспрытульныя» зайчаняткі разбягаюцца і, пакуль не прагаладаюцца, затойваюцца сярод купін. Праз суткі-двое яны адпраўляюцца на пошукі маці. Натрапіўшы на

след зайчаняці, любая маці-зайчыха корміць іх. Наеўшыся, зайчаня зноў затойваецца да наступнага «абеду», які будзе ўжо праз двое сутак. Да дзесяцідзённага ўзросту ў зайчанят адрастаюць зубы, яны пачынаюць весці самастойны спосаб жыцця. У сакавіку часта бываюць маразы. У такія халодныя ночы гінуць амаль усе нованароджаныя зайчаняты.

Чаму ж заяц-русак прыносіць патомства так рана? У бліжэйшага ж яго сваяка зайца-бяляка дзіцяняты з'яўляюцца толькі ў красавіку — маі, г. зн. пасля паўтара-двух месяцаў. Справа ў тым, што заяц-бяляк — жыхар лесу, а русак жыве на адкрытых прасторах. Русак — спрадвечны жыхар стэпаў, палёў, лугоў. Па меры высякання чалавекам лясоў і ўзорвання зямель русак услед за чалавекам перамяшчаецца далей на

**Зайчаняты.**



поўнач. Але і ў новых месцах ён яшчэ не паспеў поўнасцю прыстасавацца да іншых, чым на поўдні, кліматычных умоў. Таму ён прыносіць патомства ў сакавіку, як і ў паўднёвых стэпах. Заяц-русак прыносіць у нас за лета два-тры, на поўдні да чатырох вывадкаў.

Але чаму ж тады зайчыха пакідае сваіх новараджаных дзяцей на волю лёсу, не абаграваеіх у халодныя, марозныя ночы, як гэта робіць, напрыклад, кошка з кацянятамі? У новараджаных зайчанят адсутнічаюць спецыяльныя залозкі на падушачках лапак, таму сляды зайчанят не маюць паху. Дарослыя звяры пры перамяшчэнні пакідаюць на зямлі пахучыя сляды. Лісіца, бадзяжны сабака ці іншы драпежнік пройдуць міма зайчаняці, якое стаілася амаль побач, і не заўважаць яго. А калі б маці зайчыха часта наведвала і карміла дзіцянят? Сваімі пахучымі слядамі яна пратаптала б да зайчанят пахучую сцежку і неміпуча прывяла б да вывадка любога драпежніка, які знішчыў бы бездапаможных малышоў. Вось і выходзіць, што зайчыха зусім ужо не такая дрэнная маці, хоць корміць сваіх або чужых зайчанят раз у двое сутак.

У гняздзе ваверкі таксама дзіцяняты. Ваверачкі, у адрозненне ад зайчанят, нараджаюцца сляпымі і голымі. Вельмі ж ужо яны маленькія. Іх маса 4 г.

У глухіх балоцістых месцах на подсцілцы з дробных хваёвых галін, леташняй травы і моху ляжыць вывадак дзікоў. Маленькія, кволенькія, светла-карычневыя новараджаныя звяркі з белымі палоскамі на спіне ляжаць нерухома, прыціснуўшыся адзін да аднаго.

У другой палове сакавіка выходзяць з цёплых нор змарнелыя галодныя барсукі. Восенню яны залягаюць у спячку з вялікім запасам падскурнага тлушчу, таму ўсю зіму спяць у нары. Марозу і холаду

яны не баяцца. У гэты час барсук вельмі галодны. З вечара ён адпраўляецца на паляванне на мышэй, жаб, яшчарак, гадзюк, выкопвае з глебы і есць насякомых, а таксама самую разнастайную вясновую раслiннасць. Вернецца ён у сваю нару толькі пад раніцу. А барсучысе зараз доўга паляваць нельга. Яна пакінула ў нары 3—4 маленькіх сляпых голых барсучкоў, якія з'явіліся на свет толькі тыдзень назад. Таму яна, злёгку падмацаваўшыся чым вясна паслала, ужо спяшаецца да сваіх дзіцянят.

З надыходам цёплых веснавых дзён усё часцей пакідаюць свае хаткі і норы бабры, выходзячы на змярканні на кармленне. У канцы сакавіка ў баброў і іх малодшых «сваякоў» — андатраў пачынаюцца вяселлі. Разбіўшыся на пары, гэтыя звяркі становяцца вельмі актыўнымі і смелымі. Яны нават днём выходзяць з нор.

Дзікая свіння з парасятамі.



Цікава ў гэты час назіраць, як пасля кармлення звяркі сядзяць на сонейку і наводзяць туалет.

Заканчваецца рост і развіццё рагоў у самцоў казулі. А ў аленя, які штогод у лютым скідвае рогі, у сакавіку з'яўляюцца зачаткі новых, пакуль што ў выглядзе невялікіх шышак на галаве, пакрытых кароткім, мяккім футрам. Кожны звер цяпер сустракае вясну па-свойму. Ва ўсіх адзін клопат — хутчэй змяніць зімовае футра на веснавое, больш лёгкае і цёмнае. Трэба, каб убор быў лёгкім, добра перасцерагаў ад сырасці і маскіраваў жывёлу ў прыродзе, дзе ў кожнага ёсць ворагі.

Таму бабры, выдры і норкі аддаюць перавагу шчыльнаму футру цёмна-карычневых і чорных тонаў. Вавёркі і лісіцы не прызнаюць нічога, акрамя рыжавата-га з чырвоным убору. Тхарам і куніцам вельмі пасуе светла-карычневы і чарнаваты або жаўтаваты тон, суслікам — шэра-жоўты з цёмным гарошкам. Янот-паласкун самы модны. Шэры колер яго футра і чорныя палосы-кольцы на пышным хвасце робяць звярка надзвычайна прыгожым. Янот пакіне сваё логава ў пачатку красавіка. Сустрэўшыся з маладой самкай, яны пачнуць удваіх вандраваць па лесе. А праз некаторы час у іх з'явяцца маленькія сляпыя яноцікі. Праз два тыдні яны стануць відушчымі, а праз месяц вылезуць са свайго сховішча і будуць грэцца на сонцы.

У сакавіку ва ўсіх школах Беларусі праводзіцца вясенняе свята — Дзень птушак. У школьнікаў існуе добрая традыцыя: кожную вясну сустракаць крылатых сяброў, ладзіць ім утульныя кватэры.

У нашых садах, парках, у дварах з задавальненнем пасяліліся б не толькі шпакі, сініцы, вераб'і, але і іншыя птушкі — сітаўкі, валасянкі, ластаўкі, стрыжы. Яны не заўсёды могуць адшукаць прыдатнае месца для пабудовы гнязда. Паклапаціцеся і аб гэтых птушках.

Зрабіце папярэдне дуплы, паўдуплы, шпакоўні, размясціце іх на дрэвах, прымацуйце да сцен будынкаў. Можна па-рознаму ладзіць штучныя гнёзды для птушак, разнастайныя па форме, памерах і матэрыялу, з якога яны зроблены. Шпакоўню або сінічнік робяць з дошак любой пароды дрэва, таўшчынёй не менш за 1,5 см, лепш 2,0—2,5 см. Перад распілоўваннем дошкі трэба выгаблеваць з вонкавага боку. Унутры шпакоўня абавязкова павінна заставацца негабляванай, шурпатай, інакш птушкам цяжка будзе вылазіць са шпакоўняў. Ляток размяшчаюць на самым версе пярэдняй сценкі. Збіваюць шпакоўні цвікамі так, каб не было шчылін.

З кавалка ствала тоўстага дрэва, у якім згніў стрыжань, можна зрабіць дуплы для птушак. Асяродак ствала выскрабаюць, атрымліваецца драўляная

**Бабёр.**



труба. Адступаючы на 5—6 см ад аднаго канца, высвідроўваюць лятoк. Да двух круглых цурбанкоў вышынёй 5—6 см, з дыяметрам, роўным унутранаму дыяметру дупла, прыбіваюць да аднаго — вечка з дошак або лепш проста з карой, а да другога — кавалак тонкай дошкі з адпілаванымі вугламі (васьміграннік) для дна. Дно прыбіваецца наглуха двума цвікамі, вечка павінна здымацца.

Як жа прымацаваць гняздо да дрэва? Запомніце, што птушыны домік нельга прыбіваць да дрэва цвікамі. Дрэва можа загінуць. Шпакоўня або сінічнік прымацоўваецца да дрэва дротам або вяроўкай. Калі гняздо прымацуеце правільна, то яно будзе вісець крыху нахілена і вада ад дажджу не трапіць у птушыны домік.

Цяпер вы ведаеце, як зрабіць шпакоўню і сінічнік. Абавязкова прасачыце, якое гняздоўе якімі птушкамі



Схема плаціны і бабровай хаткі.

засяліцца. А калі не, то высветліце прычыны: чаму птушкі не пажадалі засяліцца ў пабудаваным для іх доміку.

У сакавіку пачынаюць адлятаць зімовыя госці нашых лясоў: чубатыя амялушкі, чырванагрудыя снегіры, пуначкі і інш. Пажадана прасачыць за тэрмінамі іх адлётаў і адзначыць у сваіх дзённіках, калі апошні раз бачылі гэтых птушак.

Калі гракі спяшаюцца прыводзіць у парадак свае старыя гнёзды, значыць, вясна будзе зацяжная і не чакай блізкага цяпла. А калі адразу ж, прыляцеўшы, гракі ўзяліся за рамонт свайго жылля, вясна будзе ранняй і дружнай. Вы можаце праверыць, ці так гэта.

Вось і прыйшоў радасны, але поўны клопатаў час. У сакавіку навокал цікава, як быццам усё нанава нараджаецца. Спяшайцеся, многа вам трэба зрабіць: убачыць першы ручай, адшукаць першую праталіну, сустрэць птушак, якія вярнуліся ў родныя краі, папярэдне падрыхтаваўшы для іх штучныя гнёзды.

Уважліва сачыце за кожнай новай з'явай абуджанай прыроды. Усё цікавае, што вы ўбачыце, абавязкова запісвайце ў свой дзённік.

# МЕЛОДЫІ ВЯСНЫ

Красавік на адным дні сем разоў надвор'е мяняе. У красавіку сходзяцца вясна і зіма, цяпло і холад. То цэлы дзень свеціць яркае сонца, то бесперапынна дзьме халодны вецер, ідзе дождж са снегам. Але з кожным днём цяплее, з'яўляюцца новыя фарбы, гучнейшымі і больш звонкімі робяцца спевы птушак.

З кожным днём сонца прыгравае мацней. Растаюць апошнія снежныя астраўкі. Узгоркі зусім прасохлі, і на сонечным баку засвяціліся першыя кветкі падбелу. Яны як бы адкрываюць фестываль кветак, якія пачнецца ў красавіку. Услед за падбелам з'яўляецца карагод ружовых і сініх медуніц, чубатак, жоўтага і белага кураслепу, блакітных пралесак. На падсохлых палянах зазелянела трава. Выкінула свае чырвона-карычневыя завушнічкі вольха. Запыліў арэшнік. Вакол яго завушнічак расплываюцца воблачкі жаўтавата-зялёнага пылку. Радуюць вочы буйныя белыя вербы-брэднікі.

Нядоўга засталося чакаць і першых лісточкаў.

Адначасова з вербамі, вольхай і арэшнікам зацвітае і воўчае лыка. Невысокі, без адзінага зялёнага ліста, хмызняк, увесь у ліловых кветках. Бэз, ды і толькі. У іншых месцах яго так і называюць — лясны або дзікі бэз.

Яшчэ некалькі такіх яркіх цёплых дзён, і знікнуць апошнія плямы снегу. Усё мацней цурчаць ручаі. Яны бягуць, сустракаючыся адзін з адным, збягаюць у лагчыны і яры, напаўняючы іх расталымі водамі. Нарэшце лёд трэскаецца, ламаецца і з шумам імкне па цячэнню. Вады з кожнай гадзінай прыбывае ўсё больш і больш. Разводдзе. Прыбярэжныя лугі, хмызнякі — усё пад вадой.

У першай дэкадзе красавіка ў нашай рэспубліцы

бывае самая вялікая паводка. У народзе кажуць: «Красавік багаты вадой». Красавіцкія рэчкі пераўтвараюцца ў мнагаводныя, буйныя, шумлівыя рэкі. Яны перапаўняюцца вадой настолькі, што выходзяць з берагоў і затапляюць нізіны.

Добра гэта ці дрэнна? Гледзячы, з якога боку. Веснавыя паводкі насычаюць вільгаццю паплавы і адначасова ўгнойваюць іх глеем. Гэта вельмі добра, бо сена — каштоўны корм для жывёлы. Але паводкі прыносяць і шкоду. Вырвецца рака з берагоў і пойдзе сваволіць. Вось чаму людзям хочацца раней даведацца, якой будзе паводка, каб падрыхтавацца да яе і прадухіліць бяду. А хто падкажа? Крот. Ён не памыліцца. Нездарма жыццё пад зямлёй праводзіць, нястомна рыючы свой бясконцы «метрапалітэн». Летам яго «метратраса» праходзіць пад зямлёй на большай глыбіні, таму мы яе не бачым. Перад паводкамі, пакуль зямля не прагрэлася, кратовыя хады адзначаюцца невысокімі разрыхленымі валікамі зямлі. Валікі пятляюць па схіле ўзгорка, уздоўж берага ракі або возера, то падымаючыся ўверх, то апускаючыся ўніз. Але ніжэй меткі будучай паводкі кратовая «траса» ў гэты час ніколі не апускаецца.

Кулік таксама можа падказаць, якое будзе разводдзе. Ніжэй узроўню паводкі, якая мае быць, ён сваё гняздо не апусціць.

Паводка суправаджаецца крыгаходам. Пачынаецца яна ў канцы першай дэкады красавіка або ў пачатку другой. У гэтыя дні ў нашы краі прылятаюць сітаўкі. У сувязі з гэтым у народзе жартуюць: «Тонкія ножкі ў сітаўкі, а лёд ламаюць». Як бы там ні было, лёд крануўся. А значыць, прыйшла доўгачаканая вясна, надышла паводка.

Касякі рыб выходзяць на заліўныя лугі. Там вада значна чысцейшая. Пачынаецца нераставанне. Шчупак, плотка, язь, акунь адкладваюць ікру на мелка-

воддзі, якое добра праграваецца сонцам, у зарасніках вадзяных раслін; падуст — на буйным чыстым пяску, на перакатах пасярод ракі, дзе моцная плынь. Ён адкладвае ікру ў ямкі, прыкрываючы яе пяском. Маленькая рыбка колюшка ладзіць для сваіх ікрынак гняздо са сцяблін вадзяных раслін. Самка адкладвае ў гняздо ікру і пакідае яго, а самец застаецца каля гнязда і ахоўвае патомства. Большасць рыб не клапоціцца ні аб ахове адкладзенай імі ікры, ні аб лёсе малявак. Нягледзячы на вялікую колькасць адкладваемых ікрынак (плотка да 50 тыс., язь — да 125 тыс., шчупак — да 200 тыс.), вялікая колькасць ікрынак гіне, і толькі з нязначнай часткі выводзяцца маляўкі, але і яны не ўсе вырастаюць да велічыні дарослых рыб; іх паядаюць драпежныя рыбы і птушкі.

Ратуючыся ад расталых вод, адыходзяць на пагоркі і пясчаныя грады мышы, пацукі, зайцы, лісіцы і іншая жыўнасць. Некаторых звяроў вада заганяе нават на дрэвы. У момант асаблівай небяспекі ў іх знікаюць іншы раз драпежніцкія інстынкты, і на адным востраве мірна ўжываюцца ў веснавую паводку заяц і лісіца. Астраўкі, праўда, таксама не вельмі надзейнае месца. Сёння яны ёсць, а заўтра схаваюцца пад вадой.

На Палессі, там, дзе рака Пціч упадае ў Прыпяць, у час вясенніх паводак іншы раз заўважаюць сцежку з бурбалак паветра, што ўзнімаецца з глыбіні на паверхню вады. І амаль ля самага борта лодкі можна ўбачыць невялікага звярка з даволі буйной галоўкай і выцягнутым хабатком-мордачкай. Гэта хахуля — вадзяная землярыйка. Яна вядзе затоены спосаб жыцця, заўважыць яе вельмі цяжка. І толькі ў веснавую паводку, калі расталыя воды затапляюць яе сховішча, звярка і днём можна ўбачыць на паверхні вады.

Усе звяры, якія вядуць водны або паўводны спосаб жыцця, такія, як бабёр, выдра, норка, андатра, хахуля, маюць каштоўнае высакаякаснае футра. З-за каштоўнай скуркі хахуля амаль поўнасцю знішчана чалавекам, хоць гадоў сто таму назад у Беларусі была шматлікай і шырока распаўсюджанай. У 1962—1963 гг. у пойме ракі Пціч было выпушчана больш за 200 хахуль, прывезеных у рэспубліку з Хапёрскага запаведніка. Цяпер гэты звярок у невялікай колькасці жыве ў пойме Прыпяці, там, дзе ў яе ўпадае Пціч. Хахуля ўзята пад дзяржаўную ахову і занесена ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР.

Хахуля — невялікі звярок. Даўжыня цела да 22 см, з доўгім (да 20 см) амаль голым лускаватым хвастом, сціснутым з бакоў. Маса звярка не больш



Хахуля.

чым 400 г. Выцягнутая галоўка заканчваецца доўгім рухавым хабатком, на якім размешчаны ноздры. Вочы маленькія. Вушныя ракавіны амаль непрыкметныя ў густым, мяккім шаўкавістым з серабрыстым бляскам футравым покрыве. Спіна звярка бурашэрая, брушка белае. Заднія лапкі маюць шырокія плавальныя перапонкі і развіты больш за пярэднія. Хахуля засяляе азёры і старыя рэчышчы неглыбокіх і спакойных рэк, з невысокімі і незабалочанымі берагамі, зарослымі хмызнякамі і дрэвамі. Тут яны рыюць норы з разгалінаванай сеткай хадоў, агульнай працягласцю іншы раз да 20 м і больш, у залежнасці ад профілю берага і глыбіні вадаёма. У канцы хода звычайна размешчана гнездавая камера. Кармавая нара бывае не даўжэй за 2—3 м. Ход у нару заўсёды знаходзіцца пад вадой. Само ж гняздо падымаецца ў берагавым пласце значна вышэй за ўзровень вады. Хахуля ненажэрная. Яна здабывае корм днём і ноччу. У яе «меню» ўваходзяць водныя насякомыя, іх лічынкі, п'яўкі, малюскі, ракі, жабы, сакавітыя часткі і карэнішчы воднай расліннасці. За суткі звярок з'ядае столькі, колькі важыць. У пачатку лета і ўвосень у хахулі з'яўляецца па 2—3 дзіцяняці, зусім бездапаможныя, сляпыя і голенькія. Першыя тыдні маці амаль не адыходзіць ад іх, саграваее і корміць малаком. Праз 4—5 месяцаў дзіцяняты робяцца дарослымі, назаўсёды пакідаюць нару.

Там, дзе жыве хахуля, многа шумных і крыклівых птушак. Гэта кнігаўкі. Яны носяцца над берагам з гучным крыкам: чые вы? чые вы? Іншы раз птушкі ўзлятаюць высока і пікіруюць уніз. Здаецца, што птушка вось-вось урэжацца ў зямлю, але кнігаўкі выходзяць з пікіруючага палёту, набіраюць вышыню і зноў з крыкам падаюць уніз.

Гэта іх веснавыя танцы.

Прылятаюць у красавіку і жаваранкі. Цэлы дзень лятаюць яны над полем і спяваюць свае звонкія песні, прычым кожны з іх спявае над сваім участкам поля, дзе неўзабаве зладзіць сабе гняздо, і сярдзіта адганяе чужынца ўбок.

Красавік — месяц птушак. Пасля доўгай восені і зімы з далёкіх падарожжаў вяртаюцца яны на радзіму, і гэта заўсёды для людзей радасць. Невялікімі бязладнымі чародамі ляцяць качкі, клінам або вуглом — гусі, вялікімі цёмнымі хмарамі — берасцянкі і іншыя дробныя птушкі. Прыляцелі ў родныя краі белыя буслы. У паветры з раніцы да позняга вечара і нават у глыбокую ноч гучыць несціханы птушыны гоман.

Лес напоўнены вясеннімі галасамі птушак. Кукуюць зязюлі (толькі самцы), імкнучыся доўгім і манатонным паўторам свайго «ку-ку» паведаміць усім аб надыходзе доўгачаканай вясны. Адрамантаваўшы або пабудаваўшы новае гняздо, птушкі пачынаюць адкладваць яйцы. Гнёзды ўсюды: у дуплах і на галінах дрэў, у хмызняках і на высокіх травяністых купінах, амаль на голай зямлі. У адным гняздзе 2, у другім 5—6 белых, шэрых або блакітных, аднаколерных ці ў крапінку яец.

Вечарамі гучней за ўсіх крычаць дразды-рабіннікі. Яны так стараюцца, што за іх спевамі цяжка вызначыць галасы іншых птушак. Калі рабіннікі крыху супакояцца, чуваць іншы раз не вельмі гучныя гукі: хорр... хорр, хоор-хорр, цык-цык. А потым над узлескам з'яўляецца вялікая птушка з доўгай дзюбай. Гэта кулік-вальдшнэп. Вярнуўшыся на радзіму, лясны кулік вечарамі аблятае ўсе ўзлескі, прасекі, высекі, паляны, быццам правярае, што ж змянілася тут за зіму. Так вальдшнэпы такуюць кожную вясну. Пад час яны нават распачынаюць у паветры сапраўдныя бойкі.

На лясных высеках, узлесках і палянах у шэрым

ранішнім змроку збіраюцца чародамі цецерукі. То тут, то там, парушаючы ранішнюю цішыню, чуецца кароткае гучнае чуфыканне. Спалохаўшыся, такавік тут жа зацiхае. Праходзіць нямнога часу, чуфыканне паўтараецца, але больш упэўнена, гучней. Тут жа з узлеску яму адказвае некалькі цецерукоў. Такавішча ажывае. Пеўні, пераклікаючыся паміж сабой, чуфыкаюць з усіх бакоў. Здаецца, быццам імкнуцца яны вызначыць у шэрым ранішнім змроку дзе іх суседзі. Чуецца бульканне. Спачатку рэдкае: бульбуль. Затым гукі становяцца часцейшымі, зліваючыся ў адзін працяглы гук. У паветры паплыве мармытанне, якое чуваць у перадранішняй цішыні за кіламетр і больш. З усходам сонца цецерукі, сп'янелыя ад вясны, з шумам успырхваюць, падскокваюць, чуфыкаюць.

Певень-цецярук робіцца незвычайна прыгожым у чорным з металічным бляскам касцюме, з ліраподобным хвастом і ярка-чырвонымі бровамі. Галава падаецца ўперад, шыя раздзімаецца, крылы прыспушчаны. Вялізныя чырвоныя вочы рухаюцца ў такт мармытанню птушкі і рэзка выдзяляюцца на галаве. Белае апярэнне падхвосніка рэзка кантрастуе з сінявата-чорным спіны. Певень бесперапынна рухаецца маленькімі крокамі — быццам плыве, цырымонна топчацца на развязротах. Мармытанне перапыняецца рэзкім чуфыканнем. Касач падскоквае, выпростваецца, шырока раскрывае дзюбу і крылы, і над такавішчам нясецца азартнае чу-фыш. Іншыя пеўні пры гэтым шумна ўзлятаюць і рэзка лопаюць крыламі.

Сціпла апранутыя шэранькія цяцеркі групкамі спакойна ходзяць паміж сапернікамі, якія такуюць, часамі кормяцца, робячы выгляд, што не звяртаюць на іх увагі. А тыя, быццам сп'янелыя, азартна мармычуць каля курачак, і, як свойскія пеўнікі, крэс-

ляць зямлю апушчанымі крыламі. Шумна робіцца на такавішчы.

У паветры чуваць своеасаблівы «спеў» куліка-бакаса. Песня нагадвае адначасова крык ягняці ці казляняці. Бакас утварае гэтыя своеасаблівыя гукі ў палёце пёрамі хваста.

Праз 1,5—2 г пасля ўсходу сонца цецерукі супакойваюцца, заціхаюць і пачынаюць карміцца. З цэнтра такавішча з вялікім шумам узлятае буйны цецярук — «дырыжор». За ім узнімаюцца і астатнія птушкі. Непаўторнае і дзівоснае відовішча закончылася.

А ў гэты час у сасновым бары на невысокім пагорку, побач з дрыгвяністым балотам, пачалі такаваць глушцы. На золаку сціхае вецер. У лесе ціха. Сівы туман ахутвае дрэвы. Але што гэта? Спачатку ціхае, а затым больш гучнае цёхканне, быццам нехта стукае сухімі драўлянымі палачкамі. Стук... стук і змаўкае. Затым зноў стук... стук... і зноў паўза. Гэта глушэц пачаў спяваць свой гімн вясенняму абуджэнню прыроды. Паступова рытм і сіла цёхкання павялічваюцца і заканчваюцца своеасаблівым «скірканнем» або тачэннем, як кажуць паляўнічыя. Глушэц спявае, пакуль на яго заклік не адклікнецца самка. Пачуўшы яе «квактанне», самец злятае на зямлю і пачынае свой танец, які выконвалі яго продкі тысячу гадоў назад. Цяжка словамі выказаць уражанне ад безгалосай песні глушца. У ёй гімн абуджэнню прыроды, вечна таямнічаму жыццю лесу.

Глушэц такуе на досвітку. Песня самца вызначаецца разнастайным гучаннем, народжаным гукамі лесу. Ён, такуючы, нічога не заўважае вакол і не чуе, акрамя свайго спеву. Нездарма ў народзе яго назвалі глушцом.

Святлее. Робіцца ружовым усход. Хутка ўзыдзе сонца. Паступова ажывае лес. Радасна вітаючы яго ўсход,

прачынаюцца птушкі. Гучыць сола вестуна раніцы — пеўчага дразда. Да яго далучаюцца гарыхвостка, заранка і іншыя спевакі лесу.

Вось з галінкі на галінку пераскокнула вавёрка. Яна ўжо змяніла свой шэры зімовы ўбор на рыжы, вяснова-летні. У дупле яна пакінула трое маленькіх, пакрытых бялявымі пушынкамі, вавярчанят. Яны з'явіліся на свет некалькі тыдняў назад і толькі нядаўна ўпершыню расплюшчылі вочы, падобныя на чорныя пацеркі. Пройдзе яшчэ тыдзень-другі, і забаўныя рыжанькія звяркі вылезуць з дупла і пачнуць з цікавасцю знаёміцца з невядомым для іх светам. А зараз у вавёркі няма вольнага часу, яна пакармілася сама і спяшаецца пакарміць малаком сваіх малышоў.

Вітаць вясну вылецелі матылькі: крапіўнік і лі-

Глушэц.



моннік. Клапатлівыя мурашкі ажыўлена снуюць у мурашніку. Яны дружна ўзяліся за рамонт свайго жылля. Мурашнік — небаскроб для насякомых. У ім да 50 паверхаў, палова іх змяшчаецца пад зямлёй. Шматлікія тунелі і галерэі перасякаюць мурашнік з верху да нізу. Мурашкі — сапраўдныя санітары лесу. Яны знішчаюць вусеняў, жукоў-даўганосікаў, камароў, мух і іншых шкодных насякомых — усяго за лета больш за 3 млн. І гэта праца толькі аднаго мурашніка. А колькі іх у лесе!

Пакінулі свае зімовыя «кватэры» гадзюкі, вужы і яшчаркі. Зараз іх можна заўважыць на паўднёвых схілах яроў і ўзгоркаў, дзе яны прымаюць сонечныя «ванны».

У красавіку цяжка знайсці сажалку, возера або балота, дзе б не было жаб. На першы погляд усе яны падобныя адна на адну. Заднія лапкі ў іх значна даўжэйшыя за пярэднія. Рухаюцца скачкамі. Пры больш уважлівым назіранні можна заўважыць, што яны адрозніваюцца велічынёй і афарбоўкай. Адны вельмі вялікія (азёрная жаба): даўжыня цела дасягае 15 см, другія (квакша) зусім маленькія: даўжынёй да 4 см. Жабы бываюць зялёнымі, бурымі, жаўтаватымі, шараватымі, аліўкавымі. Самую маленькую, ізумрудна-зялёную квакшу вясной і ўлетку можна ўбачыць непадалёку ад вадаёмаў. Учапіўшыся лапкамі за тонкія галінкі, яны моцна трымаюцца, дзякуючы прысоскам на кончыках пальцаў.

У вадаёмах у гэты час можна ўбачыць своеасаблівых амфібій: часночніц звычайных. Спінка ў іх светла-шэрая з жаўтаватым ці бураватым уборам, на якім вызначаюцца чорныя плямы з ярка-чырвонымі кропкамі, светлае брушка з цёмнымі крапінкамі. Сваю назву атрымала не выпадкова. У яе на целе многа залоз. Іх выдзяленні маюць пах часнаку. Пасля таго як часночніца адкладзе ікру, яна пакідае вадаём і

вядзе сухапутны спосаб жыцця. Днём хаваецца ў глыбокіх падземных (да 0,5 м) норках, а ўсю ноч палюе ў лесе, у парку, на агародзе за вусенямі, дажджавымі чарвямі, павукамі, жукамі.

Часночніца яшчэ цікавая і тым, што пры небяспецы за 2—3 хвіліны закопваецца ў глебу.

У тым жа вадаёме сустракаецца і чырванабрухая жарлянка. Яна падобна на жабу. Скура ў яе, як і ў жабы, бугорчатая. Спінка бураватая з цёмнымі ці зялёнымі плямамі, а ўвесь ніжні бок цела, брушка і лапкі чырвоныя або ярка-аранжавыя. Усё жыццё жабы звязана з вадой, часта яна перабіраецца ў другія вадаёмы, праходзячы па сушы іншы раз больш за 500 м. У гэты час яна з задавальненнем паядае дажджавых чарвей, асабліва пасля дажджу, калі іх вельмі многа выпаўзае на паверхню зямлі, а таксама камароў, жукоў, вусеняў і ўсялякіх шкодных насякомых.

Пры небяспецы жарлянка не ўцякае, а прымае акрабатычную позу: моцна закідвае ўверх галаву, прагінаецца і выварочвае канечнасці так, што відаць чырвона-аранжавыя бакі тулава і ніжняя паверхня ног такога ж яркага колеру. У такой позе драпежнік лёгка пераварочвае яе на спіну, і тады поўнасцю адкрываецца яркая афарбоўка ніжняй часткі цела, якая папярэджвае, што лепш жарлянку не чапаць. У гэты момант выдзяляецца атрутны сакрэт скурных залоз у выглядзе белай пены з вострым пахам. Калі жарлянак змясціць у адзін слоік з жабамі, то праз 1—1,5 г жабы загінуць. Драпежнік, які хоць раз паспрабуе крануць жарлянку, запамінае яе ярка-чырвоную афарбоўку, якая папярэджвае аб небяспецы.

Пасля жарлянак рэкамендуецца старанна вымыць рукі, да гэтага ні ў якім разе не дакранацца рукамі да вачэй.

Разам з лягушкамі ў лясах, парках, садах, на агародах жывуць 3 віды жаб: шэрая, зялёная і чаротная рапуха. Апошняя настолькі рэдкая, што занесена ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР.

Знаёмства з амфібіямі рэспублікі будзе няпоўным, калі не назваць хвастатых амфібій — трытонаў. Іх у нас два — звычайны і грабеньчаты. Апошні мае большыя памеры. Даўжыня яго цела дасягае 20 см. Яны па-вясенняму прыбраныя. Бугорчатая спіна адлівае зеленню, бакі блішчаць, горла і брушка маюць аранжавы колер. Верхні плаўнік падобны да грабеньчыка, таму трытона і назвалі грабеньчатым. Убор самак непрыкметны, няма ў іх і грэбеня.

Вечарамі жабы наладжваюць вясеннія канцэрты. Кожны від амфібій спявае на свой лад. Стогн стаіць над азёрамі і сажалкамі ў гэты час. У неглыбокіх, найбольш прагрэтых месцах, сярод травы ў вадзе можна ўбачыць слізкія, студзяністыя камякі жабінай ікры. Кожная самка адкладвае ад 5 да 10 тыс. ікрынак. У жаб вельмі многа ворагаў, якія любяць паласавацца апалонікамі: жукі-плывунцы, рыбы і нават звяры. Вось і прыходзіцца жабам адкладваць так многа ікрынак, каб захаваць патомства.

Вучоныя вызначылі, што кожная жаба за вясну, лета і восень з'ядае ў сярэднім да 2 т насякомых, сярод якіх мноства шкоднікаў сельскай і лясной гаспадаркі, нават такіх, як каларадскі жук і яго лічынкі. Яны прыйшлі да вываду, што амфібіі знішчаюць у 5 разоў больш беспазваночных, чым птушкі, прычым знішчаюць якраз тыя формы, якіх птушкі не чапаюць. Вось чаму мы павінны ахоўваць жаб.

У другой палове красавіка на лугах і сонечных палянах распусціўся першацвет — прымула. Кветкі яе нагадваюць звязак залатых ключыкаў. У нас гэту кветку за аксамітныя лісточкі, пакрытыя белым пушком, называюць баранчыкамі.

Ранняй вясной каля самай зямлі можна ўбачыць ільсняныя, цёмна-зялёныя, прыціснутыя да зямлі лісты, падобныя на след каня. Яны круглявыя, а там, дзе чаранок адыходзіць ад пласціны, разныя. Гэту расліну ў народзе назвалі падалешнікам. Звярніце ўвагу на тое, што паміж двума маладымі лісточкамі распускаюцца карычнева-чырвоныя кветкі, быццам у хованкі з намі гуляюць, так спрытна яны хаваюцца ў леташнім лісці. Разатрыце і панюхайце лісточак расліны. Адчуеце пах перцу. Нездарма яго яшчэ называюць — «лясны перац». Лісты падалешніку восенню не адміраюць, а зімуюць.

На сонечных схілах яра, недалёка ад сваёй нары, прымаюць «сонечныя ванны» барсучкі. Ім ужо 2 месяцы, яны спрабуюць самастойна вылазіць з нары, але клапатлівая маці строга сочыць за імі.

Барсук даволі буйны звер, масай да 20 кг, даўжынёй каля 1 м. Ен належыць да сямейства куніцавых, сваяк куніцы і собаля, гарнастая і ласкі, выдры і норкі. Праўда, знешне ён на іх не падобны. Барсук выбірае глухія, парослыя хмызнякамі лясныя яры, далёкія ад жылля чалавека, дзе рые глыбокія норы. Многія ўваходы-выхады часта схаваны ад вачэй чалавека, і выдае іх толькі зямля, выкінутая з нары. Унутраная будова барсучынай нары бывае вельмі складанай, і чым старэйшы жыхар, тым больш складаная будова, яго падземнага, разгалінаванага «метро», якое размяшчаецца ў некалькіх паверхах і на значнай глыбіні, іншы раз да 3—4 м. Барсукі вельмі любяць сваё сховішча, і калі іх не трывожыць, то жывуць у ім дзесяцігоддзі. Пры наяўнасці корму барсукі ладзяць норы недалёка адзін ад аднаго. Іншы раз 2—3 сям'і жывуць у адной старой «шматпавярховай» нары. Барсук акуратны і ахайны звер. Вясной і восенню ён чысціць і рамантуе нару, змяняе подсціл. Каля жылля няма ні-

якіх аб'едкаў. «Туалет» робіць у выглядзе ямкі, якую пасля запаўнення штодзень засыпае зямлёй, таму тут няма смуроду, як, напрыклад, каля нары лісіцы.

Барсук актыўны толькі ў цёплую пару года, а восенню і зімой спіць. Пакідае нару толькі ў пачатку красавіка. Выходзіць з яе на змярканні і палюе ўсю ноч. Барсук блізарукі. Ён звяртае ўвагу толькі на тыя прадметы, якія рухаюцца. З органаў пачуццяў у яго лепш за ўсё развіты нюх. Ён усёедны. У «меню» барсука ўваходзяць мышы, пацукі, жабы, яшчаркі і нават вужы, розныя насякомыя, ягады, жалуды, дзікія яблыкі і грушы, лясныя арэхі, сакавітыя часткі раслін і іх карэнішчы. Падбірае падлу.

У сакавіку — пачатку красавіка ў барсучыхі з'яўляецца да 6 дзіцянят. Праз месяц яны пачынаюць


Барсук каля нары.

бачыць. Развіваюцца барсучкі вельмі хутка. Пад восень робяцца ўжо дарослымі. У гэты час яны пакідаюць нару бацькоў і кожны з іх пачынае жыць самастойна.

У наш час барсук на тэрыторыі Беларусі стаў настолькі рэдкім, што знаходзіцца на мяжы вымірання, таму ён узяты пад дзяржаўную ахову і занесены ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР.

Вось і заканчваецца красавік — месяц незвычайных кантрастаў у прыродзе. На нашых вачах, быццам у казцы, усё ў лесе мяняецца. Красавіцкі лес напоўнены самымі разнастайнымі падзеямі. Колькі новых таямніц адкрыта і пазнана вамі ў гэтым месяцы!

Не за гарамі перадлецце — пераход вясны ў лета.

# СВЯТА ВЯСНЫ

Вясна, як і ўсе поры года, мае свае законы. Чаромха зацвітае пасля вольхі на 28-ы дзень, пасля прылёту гракоў, сасна — на 70-ы. Інтэрвал гэты вытрымліваецца пры любым надвор'і. У феналогіі такія суадносіны тэрмінаў называюць сінхроннасцю фаз. Ведаючы пачатак фазы адной феналагічнай падзеі, можна разлічваць тэрміны надыходу іншых прыродных з'яў.

Па-сапраўднаму невычэрпная маляўнічая палітра мая. Як загадкавы чараўнік, раскладвае ён колеры, рэзкія, свежыя, без паўтонаў. Нават у хмарны дзень не згасае майскае шматтраўе. Зялёны і блакітны, жоўты і аранжавы, сіні і пунсовы — усе колеры ўвабраў у сябе гэты паэтычны месяц, радасная пара заключнай фазы вясны, пара абнаўлення. Яшчэ нядаўна дрэвы і кусты стаялі аголеныя, а вось ужо і далікатныя зялёныя лісточкі радасна шапацяць. Пасля кароткага цёплага дажджу з першай навальніцай і громам зазелянелі бярозкі. Тонкія галінкі густа ўнізаны дробнымі лісточкамі. Возьмеш такі лісточак у руку, а ён клейкі і незвычайна духмяны. Паветра ў бярэзніках свежае, духмянае. Апрануўшыся ў зялёны ўбор, цвітуць беластволыя дрэвы. Майскі вецярок страсае суквеццікаташкі і клубіць пылком у прыгожа прыбраных зялёных кронах.

Усім дрэвам май падараваў квяцісты ўбор. Каму — яркі, а каму — сціплы. На кожнай галінцы маладзенькай елкі ярка-жоўтыя кветкі-ліхтарыкі. Яе сваячка сасна прыбралася далікатнымі аранжавымі шышачкамі. Зацвіла, запыліла сасна. Пры нязначным подыху ветру з яе ўзнімаюцца воблакі жоўтага пылу, прыпудрываючы навокал усю зямлю, дарогі, лужы.

Чаромха пакрываецца белымі пахучымі кветкамі, сабранымі ў гронкі. Здаецца, што гэта не кветкі, а лёгкі белы туман, які спусціўся на берагі ручаёў, рэк і азёр. Балюча бачыць бярэмя квітнеючых галінак у руках «аматараў кветак». Таму і знікае чаромха ў прыгарадах. А яна не проста прыгожае дрэва. Чаромха — лясны «доктар». Яна выдзяляе лятучыя фітанцыды, ад якіх гінуць мікробы. Паветра каля чаромхі чыстае. У медыцыне выкарыстоўваюцца ягады гэтай расліны.

Цвіценне чаромхі звычайна супадае з надыходам апошніх хваляў халадоў. Яны ў народзе так і называюцца — «чаромхавыя халады».

Чаромху ў лесе змяняюць ландышы. Раскрываюцца іх снежна-белыя званочкі з непаўторным водарам кветак.

Калі чаромха ў час цвіцення любіць холад, то бэз — толькі светлыя, цёплыя дні. Пачынае цвісці ліловы бэз пазней за чаромху на 8 дзён. Адначасова з бэзам зацвітае рабіна. «Рабінавае цяпло» ўстанаўліваецца надоўга.

Калі адцвітае чаромха, надыходзіць пара апранацца ў лісце і дубу. Набраклі моцныя пупышкі. Зірнулі на свет маленькія лісточкі, і сукі магутнага дрэва адразу сталі прыгожымі. Кветкі ў дубу маленькія, непрыкметныя. Дуб — дрэва магутнае, «цар» сярод нашых дрэў.

«Дуб апранаецца — жывёла наядаецца», — кажуць у народзе. І сапраўды, на пашы трава адрасла такая, што яе ўволю хопіць каровам і коням, ласям і казулям.

Далікатнымі белымі зорачкамі зацвіў кураслеп дуброўны, ружова-фіялетавымі суквеццямі — чубатка, залаціста-жоўтым колерам — чысцяк вясенні, буйнымі ліловымі званочкамі — сон-трава.

Ад жоўтай лотаці берагі рэк і азёр сталі ярка-жоўтымі. Сырыя лугі зазіхацелі залатымі плямамі. Ля кожнага балота, ля кожнага старога рэчышча многа яркіх кветак. Так многа казяльцоў, што вочы слепіць ад іх жаўцізны. Але стане пахмурна, і адразу закрыюцца кветкі, знікне ярка-жоўтая пялёнка.

На сырых лясных палянах зацвітае пярэсна. Жоўтыя буйныя шары яе кветак ярка гараць на сонцы. Здаецца, яны свецяцца і ў змроку лесу. Іншы раз кветак столькі, што паляны з зялёных ператвараюцца ў лімонна-жоўтыя.

На лугах у стракатым дыване кветак зорачкай мільгае малінавая, зрэдку белая смолка звычайная, або ліпучая. Яе сцяблінка ў верхняй частцы ліпучая. У кветцы смолкі — салодкі нектар, якім ахвотна ласуюцца пчолы. А чужынцаў, мурашак і розных мошак, смолка не дапускае да салодкага нектару. Няпрошаныя госці папаўзуць па сцяблінцы і... прыліпнуць назаўсёды.

У маі зацвітае невялікая зграбная расліна з тонкім стройным сцяблом, з дробнымі белымі лісточкамі, сабранымі ў гронкі,— майнік. Восенню ён пакрыецца маленькімі ярка-чырвонымі ягадкамі, якія вельмі любяць птушкі.

Амаль адначасова з чаромхай зацвітаюць агрэст, чырвоныя і чорныя парэчкі. У белых і пунсовых карунках красуюцца вішня і чарэшня, пасля іх зацвітаюць яблыня і груша. Шчодрае цвіценне пры спрыяльных умовах — добры прагноз на будучы ўраджай.

На лугах, выганах, па краях палёў, каля дарог і ў лесе з'яўляюцца белыя шарыкі. Гэта грыбы-дажджавікі, якія ў народзе называюць порхаўкамі. Італьянцы лічаць, што порхаўка лепш за баравік. Але прыдатныя да яды толькі маладыя грыбы.

Порхаўка незвычайны грыб: зверху круглы, знізу спадае на конус. Мякаць у яе белая, губчатая і вельмі смачная. Сустракаецца і фальшывая порхаўка. Яна зусім круглая, як мячык. Сапраўдная порхаўка зверху ў калючках, фальшывая зусім гладкая. Мякаць яе не такая смачная, грубаватая, але не атрутная. Порхавак налічваецца больш за 500 відаў.

Маладая порхаўка спрытна ўмее маскіравацца ў няяркай вясновай траве, так што заўважыць яе не так і лёгка. Іншая справа, калі порхаўка паспела, тады яна сама напрошваецца, каб яе ўбачылі. Ідзе чалавек і бачыць: ляжыць перад ім белы ці злёгку шараваты, круглы, быццам мяч, грыб. Не ўтрымаецца — і стук нагой! А грыбу толькі тое і трэба: над ім узнімаецца лёгкае цемнаватае воблачка — гэта паляцелі ў паветры грыбныя споры.

Порхаўкі вялікімі не бываюць. Рэдка можна



Смаржок.



Страчок.



Порхаўкі.

сустрэць грыб масай 300—400 г. Але не дарэмна кажуць, што няма правіл без выключэння. Аднойчы дзеці знайшлі ў адным месцы адразу тры дажджавікі. Першы быў масай 10 кг 300 г, другі — 7 кг, а трэці — каля 4 кг.

Калі для ежы ўжываюцца толькі маладыя порхаўкі, то садаводы цікавяцца і збіраюць толькі старыя, спелыя грыбы. Стары грыб ад маладога адрозніць вельмі лёгка. Порхаўка лёгкая і калі націснеш, пыліць «дзедавай табакай» — цемнаватымі спорамі, за што стары грыб іншы раз называюць «парахавіком».

Садаводы з поспехам выкарыстоўваюць старыя порхаўкі ў барацьбе з тлёй і чарвямі на дрэвах і кустах. Калі іх падпаліць, то яны будуць гарэць густым, едкім дымам. Абкурыўшы сад гэтым дымам два разы, з інтэрвалам у тыдзень, можна поўнасцю знішчыць на дрэвах усіх шкоднікаў.

У змешаных і хваёвых лясах можна знайсці прыціснутыя да зямлі складкаватыя шапкі першых веснавых грыбоў — смаржкоў. Гэтыя грыбы атрутныя, але калі іх старанна прамыць, пракіпяціць, абавязкова зліўшы ваду пасля кіпячэння, то іх можна ўжываць у ежу. Яны вельмі смачныя.

Сонца прыгравае ўсё мацней і мацней. У паветры з'явілася многа матылёў. Да крапіўнікаў і жалобніц далучыліся беляны-капуснікі, баярышнікі, махаоны. На ўзлеску з'явіўся маленькі пярэсты матылёк — стракатка. Афарбоўка яго як бы папярэджвае ўсіх, хто хацеў бы паласавацца гэтым матыльком, што лепш яго не чапаць. І сапраўды, як толькі возьмеш матылька ў рукі, на ножках і нават на брушку выступаюць атрутныя жоўтыя плямы крыві. Таму птушкі яго не чапаюць.

Як толькі дрэвы апрануць новы зялёны ўбор, вечарам у паветры з'яўляюцца начныя матылькі,

майскія жукі (хрушчы) і камары. Камары загаварылі на сваёй мове адразу ж пасля першай цёплай ночы. Яны яшчэ сонныя і не вельмі высока ўзнімаюцца над зямлёй. Але вось галасы камароў сталі больш дакучлівымі.

Ластаўкі заўсёды з'яўляюцца ўслед за камарамі. З прылётам гэтых птушак прыходзіць сапраўдная цеплыня.

Над самай паверхняй вадаёма лятаюць шпаркія чародкі ластавак-берагавушак. Жывуць яны ў норках на стромкіх берагах рэк або на пакручастых схілах яроў. А ластаўка гарадская любіць сяліцца ў горадзе. Адрозніць варанка ад берагавушкі па палёце цяжка. Яны падобныя паміж сабой, але ў берагавушкі спіна афарбавана ў буры колер, а ў варанка частка спіны ярка-белая. У горадзе пад дахамі вялікіх і вышынных будынкаў, пад балконамі відаць ляпныя гнёзды гарадскіх ластавак. Вышыня будынкаў іх не палохае. Вядомы выпадкі, калі ластаўкі гняздзіліся пад балконамі 8-га і нават 9-га паверхаў. Вярнуўшыся ў родныя мясціны, адшукаўшы свае леташнія кватэры, яны адразу ж пачынаюць іх рамантаваць і будаваць новыя.

Ластаўкі будуюць гнёзды калектыўна, невялікай чародкай. Як па канвееры, адна за адной птушкі накладваюць на сценку смецце, змочанае слінай. Калі птушкі працуюць без перапынку, то на пабудову аднаго гнязда ідзе 2—3 дні, а то і менш.

Наша новая знаёмая — вясковая ластаўка.

У палёце шырока раскінутыя крылы касаткі здаюцца здалёк нерухомымі. Знізу яна амаль уся белая. Нястомная лятуха з раніцы да позняга вечара ў паветры. Заканчваецца доўгі дзень: стомленая касатка прысаджваецца насупраць гнязда на электрычныя правады, і тады раздаецца яе прыгожы шчэбет.



6 Зак. 1422

Ластаўка вясковая.

Ластаўка гарадская.

Ластаўка берагавая.

Стрыж.

Разам з ластаўкамі ў паветры носяцца стрыжы. Выдатныя летуны за дзень пралятаюць да 1000 км, развіваючы скорасць больш за 100 км/г. Большую палову жыцця яны праводзяць у паветры. Вучоныя ўстанавілі, што ў перыяд выкормлівання птушанят рабочы дзень у стрыжоў-бацькоў працягваецца да 19 гадзін у суткі. Стрыжы вельмі клапатлівыя бацькі. У сваёй шырокай дзюбе за адзін прылёт яны прыносяць птушанятам да 200 насякомых.

У вячэрнім змроку сярод стрыжоў і ластавак з'яўляюцца і... кажаны.

Калі іх бачыш у палёце, на першы погляд здаецца, што яны ўсе аднолькавыя. Аднак гэта не так. Кажаны адрозніваюцца адзін ад аднаго велічынёй, афарбоўкай футравага покрыва, формай і даўжынёй вушэй і г. д. Некаторыя з іх даволі буйныя, велічынёй крыху больш за шпака, іншыя вельмі маленькія, як буйныя матылькі.

Адны з іх рыжыя, другія чорныя, сустракаюцца серабрыста-шэрыя, залацістыя з белым брушкам. У адных вушы круглыя, а ў іншых вострыя. У адных яны вельмі маленькія, а ў некаторых роўныя даўжыні тулава.

Кажаноў можна сустрэць у лесе і ў парку, на берагах ціхіх вадаёмаў і ў будынках людзей. Яны не ладзяць сабе гнёздаў, а займаюць самыя разнастайныя схавішчы: пячоры, штольні, скляпы, гарышчы, дуплы дрэў.

Дуплы дрэў — найбольш распаўсюджаныя іх прытулкі. Іншы раз адны і тыя ж дуплы ў першай палове лета засяляюць птушкі, а ў другой — кажаны.

Карысць ці шкоду прыносяць кажаны?

Незвычайны знешні выгляд кажаноў, перапончатыя крылы замест пярэдніх лап, бясшумны імклівы палёт, начны спосаб жыцця — усё гэта з даўніх часоў служыла прычынай для распаўсюджання самых розных забабонных выдумак пра гэтых звяркоў, у выніку чаго гэтых безабаронных і вельмі цікавых жывёл часта знішчалі. Вучоныя ўстанавілі, што кажаны, палюючы за вячэрнімі і начнымі насякомымі, ловяць у вялізнай колькасці майскіх, чэрвеньскіх хрушчоў, жукоў-насарогаў; з начных матылькоў — розных совак, чубатак, мёртвых галоў, пядзенікаў, а таксама камароў, аваднёў, мух — злосных шкоднікаў сельскай і лясной гаспадаркі, а таксама насякомых — носьбітаў розных узбуджальнікаў інфекцыйных захворванняў (малярыі, туляртэміі, скурнага лейшманіёзу) і інш. Усё гэта сведчыць аб тым, што кажаны, як і птушкі, прыносяць чалавеку вялікую карысць, толькі птушкі працуюць днём, а рукакрылыя — у начную «змену».

Акрамя рукакрылых, за вячэрнімі і начнымі насякомымі палюе толькі адна птушка — ляляк. Ён ловіць насякомых на ляту. Па знешняму выгляду

птушка крыху нагадвае зязюлю. Яе цёмна-бурае апярэнне зліваецца з афарбоўкай кары дрэў, суч-ка і звялага лісця. У леляка вельмі маленькая кароткая дзюба і вялізны рот, упрыгожаны па краях тонкімі адчувальнымі шчацінкамі.

Спеў птушак — гэта гукавая інфармацыя, г. зн. самая распаўсюджаная і багатая мова ў жывёльным свеце. Адны гукі з'яўляюцца сігналамі небяспекі, другія апавяшчаюць аб тым, што яны знайшлі корм, трэція — клічуць у госці. Гукавая інфармацыя найбольш развіта ў птушак. Нават самыя маўклі-выя з іх распаўсюджваюць шмат разнастайных гу-каў. Вельмі багатая мова птушак з чародак. Іх сігналы дазваляюць кіраваць чарадой. Адны гукі абазначаюць — «ляціце за мной», іншыя — «ува-га, небяспека». Цікава назіраць, як птушкі ву-чаць сваіх птушанят гукавым сігналам. Так, пры з'яўленні драпежніка бацькі пачынаюць своеасаб-ліва крычаць. Аднаго ўрока бывае дастаткова, каб птушаняты запомнілі, як выглядае вораг. Іншы раз птушкі розных відаў вымаўляюць аднолькавыя «сло-вы». Напрыклад, сігналы трывогі ў сініц, берас-цянак, аўсянак вельмі падобныя. У выпадку небяс-пекі крылатыя аб'ядноўваюцца, утвараючы чароды. Паспрабуйце дзе-небудзь на ўзлеску паназіраць, як вядуць сябе дробныя птушкі пры з'яўленні дра-пежніка. Гэта вельмі цікава. Вось у галінах вы-сокага дрэва прытаілася сава. Птушкі кружацца каля драпежніка, выкрыкваючы рэзка, адрывіста сігналы трывогі. Іх мэта — паведаміць усім, што вораг хаваецца на дрэве. Інакш яны рэагуюць на ястраба, які ляціць у іх бок. Мяняецца іх такты-ка і характар крыкаў. Цяпер птушкі, хаваючыся ў лесе, крычаць працягла, трывожна. Калі ў пер-шым выпадку яны як бы гавораць: «непрыяцель у засадзе», то ў другім — «хавайцеся, вораг побач».

Вясной усе мы любім спевы салаўя. Сваімі спевамі, а спяваюць толькі самцы, салавей павядамляе сапернікам аб тым, што дадзены ўчастак ім ужо заняты і нікому ён не дазволіць сюды ўварвацца. Песня ж для «сяброўкі» нясе зусім іншую інфармацыю. А іменна: «знайшоў добры ўчастак парку і запрашаю сваю абранніцу прыляцець сюды, каб разам будаваць гняздо і пачаць сямейнае жыццё».

Сініцы таксама любяць калектывы. Чароды гэтых маленькіх птушак вышукваюць у лясных сховішчах насякомых. Разам яны ачышчаюць лес больш дбайна, чым калі б дзейнічалі па адной. Як правіла, чароды складаюцца з птушак розных відаў. Разам збіраюцца гаічкі, маскоўкі, блакітніцы, а іншы раз і вялікія сініцы, часта да іх далучаюцца каралькі, попаўзні і пішчухі. Пастаянна «перагаворваючыся», птушкі захоўваюць чараду.



Кажаны ў дупле.

Спеў птушак, якія маюць свой індывідуальны ўчастак, дзе яны жывуць, нясе двайную інфармацыю: прыцягвае і заклікае самак, а таксама перасцерагае самцоў. З прылётам самкі песня не змаўкае, а працягваецца яшчэ некаторы час — да вывядзення птушанят, іншы раз — да ліняння. Функцыя спеваў у гэты перыяд — перш за ўсё пагроза няпрошаным гасцям, патрабаванне трымацца найдалей, калі яны не хочуць распачынаць бойку.

Птушкі аднаго віду, што жывуць у розных частках планеты, не маюць агульнай мовы. Іх нават можна раздзяліць на асобныя «моўныя групы». Высветлілася, што вароны, якія жывуць у ЗША, зусім не разумеюць французскіх варон. У той жа час сярод птушак сустракаюцца і «паліглоты». Гэта птушкі, якія пастаянна вандруюць, дзякуючы чаму яны засвойваюць розныя «дыялекты» мовы сваіх аселых сваякоў.

Мовай гукаў карыстаюцца не толькі птушкі. У звяроў гукавая сігналізацыя таксама дасканалая і спецыфічная. З дапамогай голасу маюць зносіны жывёлы, якія палююць зграямі, напрыклад ваўкі і дзікія сабакі. Не менш за 36 розных тыпаў гукаў выдаюць лісіцы. Краты выдаюць моцны сярдзіты піск, асабліва ў веснавых бойках, а таксама гукі, якія нагадваюць мурлыканне. У вожыка больш разнастайны рэпертуар — ад бурчання, кашлю і чмыхання да рохкання, піску і жаласнага крыку. Зайцы і дзікія трусы стукаюць па зямлі лапкамі, а недзе непадалёку слухаюць іх сяброўкі.

У насякомых гукі, якія некаторыя з іх утвараюць крыламі,— жыццёва важны сродак зносін. Стракат конікаў і цвыркуноў з'яўляецца шлюбнай песняй. Гэтыя гукі насякомыя распаўсюджваюць пры дапамозе трэння нагой па зубчатым краі крыла або шараваннем крыла аб крыло.

Акустычнай інфармацыяй карыстаюцца і амфібіі. Уявіце сабе вясновы цёплы вечар на беразе зарослага возера або сажалкі. Цішыня. Але вось пачынае спяваць адна жаба, затым другая, і ўжо сячы асакі і прыбярэжнай расліннасці гучыць зводны хор — ідуць веснавыя спевы. Выгляд салістаў забаўны. Яны сур'ёзныя і поўныя ўласнай годнасці. Важна і ўрачыста раздзімаецца горла, блішчаць выпучаныя вочы. Крэ-ке, ке-ква,— крычаць азёрныя жабы. Што гэта? Веснавы гімн, крык аб дапамозе, пераклічка?

Асобныя віды земнаводных могуць распаўсюджваць гукі надзвычайнай сілы. Гэта акустычная здольнасць тлумачыцца наяўнасцю ў самцоў рэзанатараў, якія ўзмацняюць гук. Галасы жаб строга відаспецыфічныя і разнастайныя. Звязана гэта перш за ўсё з галоўнай функцыяй голасу — прываблівайць самку да месца размнажэння і да пэўнага самца.

Кажуць: нямы, як рыба. Але вось вынайшлі прыладу гідрафон, і высветлілася, што не такая ўжо нямая рыба — моры, азёры і рэкі напоўнены гукамі. «Размову» рыб можна параўнаць з гудзеннем, гагатаннем, шчэбетам, піскам, барабанным пошчакам.

На якіх толькі «мовах» не размаўляюць у прыродзе жывёлы. Існуе мова мімікі, жэстаў і поз, мова пахаў, мова святла. А не так даўно была адкрыта своеасаблівая мова рыб, словамі якой з'яўляюцца электрычныя разрады.

Для чаго чалавеку трэба вывучаць мовы жывёльнага свету? А няўжо не цікава даведацца, чаму спявае жаваранак або салавей, аб чым стракоча конік, якімі навінамі абменьваюцца ваўкі? Веданне мовы птушак, звяроў і насякомых мае і практычнае значэнне. З дапамогай гуказапісу і магутнага гучнагаварыцеля, якія імітуюць сігналы трывогі ў птушак,

можна — і гэта ўжо робіцца — распуджваць на кукурузных палях вялізныя чароды гракоў, на паспяваючых чарэшнях або на вінаградніках — шпакоў, папярэджваючы такім чынам магчымую шкоду. Лічаць, што вывучэнне «электрычнай» мовы рыб дапаможа стварыць новыя спосабы лоўлі і дазволіць кіраваць касякамі рыб у перыяд нерасту і міграцыі.

Вучоныя-хімікі расшыфравалі састаў рэчываў, якія прыцягваюць насякомых, і навучыліся іх выпрацоўваць. Быў распрацаваны арыгінальны метад барацьбы са шкоднымі насякомымі. Калі пакласці ў спецыяльныя пасткі нават невялікую колькасць такога рэчыва, то з усяго поля ў пасткі паляцяць самцы, і насякомыя тут ужо шкоды сельскай гаспадарцы не прынясуць.

Камары, мошкі, макрыцы, сляпні накідваюцца на жывёл і чалавека. У лясгасах, на капальнях, у геолагаразведцы яны — вялікае бедства. Вучоныя сталі запісваць сігналы, якія падаюць камары ў час пошуку корму, а таксама іх сігналы аб небяспецы, якая набліжаецца. Умеючы ўзнаўляць сігналы машкары рознымі апаратамі, можна прымусіць яе разлятацца або, наадварот, збірацца ў спецыяльныя пасткі. Такі «камарыны ўраджай» можна перапрацоўваць на духі, спірт, корм для птушак і рыб.

Вывучэнне мовы жывёл абяцае ў будучым яшчэ многа цікавых адкрыццяў.

Працягнем наша падарожжа па лесе. Звярніце ўвагу, што да тонкіх галінак сярод густой ігліцы яліны прымацавана невялікае гняздзечка. Яно падобна на шэры камяк лішайніку або моху, выпадкова затрыманы ў галінах. Гэта гняздо айчыннай калібры — каралька, самай маленькай птушкі. У гняздзе 8 голых птушанят. Яны такія маленькія, што ў звы-

чайным напарстку можна змясціць 3 птушанят. Кожнае з іх мае масу крыху больш за грам, але калі падрастуць, яны прынясуць вялікую карысць лесу. У складках кары дрэў некаторыя матылі адкладваюць мноства дробных, малапрыкметных яец. Праз некаторы час з іх выходзяць вусені, якія паядаюць іглiцу сасны і яліны. У гады масавага з'яўлення гэтых вусеняў хваёвыя дрэвы стаяць аголеныя, быццам пасля вялікага пажару. Насякомаедныя птушкі часта не могуць знайсці і дастаць у глыбокіх трэшчынах і шчылінах яйцы. Толькі каралёк адшукае і знішчыць іх раней, чым з іх выведуцца пражэрлівыя вусені.

З прыбярэжнага вербняку, парослага высокімі травамі, спускаецца да вады вывадак качак. Выцягнуўшыся доўгім ланцужком, гучна папіскваючы, імкнучыся не адставаць адзін ад аднаго, качаняты бягуць за маці. Яна, заклапочана азіраючыся навокал, спяшаецца хутчэй давесці качанят да выратавальнай блакітнай роўнядзі возера. Там родная стыхія: вада, густыя зараснікі асакі, чароту, дзе многа корму і можна схавацца пры небяспецы.

А ў зайчыхі — другое — «майскае» патомства. Нованароджаным зайчанятам цяпер значна лягчэй, чым першынцам-сакавічкам, пераносіць цяжкасці першых дзён жыцця. І сонейка больш пячэ, і трава такая высокая і густая, што ў ёй лёгка схавацца ад ворагаў.

У ласіхі, буйной лясной каровы, нарадзіліся 2 карычневыя, нязграбныя, з вялікімі галовамі цяляткі. Ласяняты настолькі слабыя, што нават не могуць доўга стаяць на нагах-хадулях, але, падужэўшы, яны становяцца цудоўнымі бегунамі. З'явілася патомства ў аленя і казулі: у аленіхі — адно плямістае цяля, у казулі — 2 маленькія, быццам лялечныя, казулькі. Светла-рыжая поўсць казулек

і аленянят пакрыта белымі плямкамі. Гэта іх засцерагальны ўбор. Прамяні сонца праз карункі лісця пакідаюць на траве, лясным подсціле сотні маленькіх сонечных зайчыкаў. Сярод гэтых сонечных блікаў цяжка заўважыць плямістых малышоў. Праўда, да восені яны страцяць гэты свой убор і стануць па афарбоўцы падобнымі да бацькоў.

Вялікія карыя вочы казулі з доўгімі вейкамі глядзяць ласкава і даверліва. Нездарма ў народных паданнях часта расказваецца пра прыгажуню дзяўчыну, якую злосны чараўнік ператварыў у лясную козачку. Са з'яўленнем маладняку капытныя становяцца больш асцярожнымі. Пашчыпваючы траву на лясной паляне, маці часта аглядваецца, прыслухоўваецца, прынюхваецца. Вельмі многа ў іх ворагаў. Паласавацца сакавітай травой прыйшоў на

Ласяняты.



паляну і самец казулі. Але як утрымацца і не пачаставацца смачнымі маладымі бярозавымі і асінавымі парасткамі. Спяшаецца паснедаць самец. Хутка ўзнімецца вышэй сонца — трымай тады вуха востра, не зявай. Казулі вельмі пужлівыя. На адлегласці адчуваюць яны набліжэнне небяспекі і маланкава ўцякаюць ад яе. Калі ж здарыцца так, што вораг засцігне іх знянацку, маці абараняе сваіх дзіцянят, адводзіць убок ваўка, лісіцу або рысь. А казла зусім не хвалюе лёс казлянят. Адчуўшы небяспеку, ён першым кідаецца наўцёкі — абы самога ногі выратавалі...

На вільготнай глебе ля вадапою пакінула сляды сямейства дзікоў. Побач з буйнымі слядамі дарослых жывёл адбіткі маленькіх капыткоў парасят.

Лабастыя лісяняты ўпершыню выходзяць з нары пад наглядам маці. Бацька ў гэты час здабывае корм для свайго рыжага сямейства.

У густых кустах на вышыні не больш чым 1,5 м ад зямлі зроблена шарападобнае гняздзечка. Нечакана з яго замест птушкі выскоквае маленькі хвасталы звярок жоўта-охрыстага колеру з белым брушкам. Гэта мыш-малютка. Мыш імгненна апынулася на зямлі і знікла. Пабегла за кормам. Ва ўтульным гняздзечку засталіся восем маленькіх мышанят.

Галасы птушак раздаюцца з усіх бакоў. Некаторыя спяваюць ноччу, іншыя — на світанні, а ёсць і такія, што спяваюць толькі з усходам сонца. «Гадзіннікавы механізм» птушак падводзіць толькі ў непагадзь, а ў яснае, добрае надвор'е па птушыных галасах можна даведацца пра час. Арнітолагі высветлілі, што а другой гадзіне ночы прачынаюцца і пачынаюць спяваць салавей, лясны жаваранак, а з 2 да 3 — палявы жаваранак, гарыхвостка, перапёлка, з 3 да 4 — івалга, зязюля, валавока,

сініца, з 4 да 5 — берасцянка, аўсянка, пеначка-цінькаўка, пішчуха, а з 5 — шпак, зелянушка, сітаўка, шчыгол. І самым апошнім прачынаецца верабей. У кожнай мясцовасці можна скласці «птушыныя гадзіны».

Цікава назіраць за птушкамі на змярканні. Давайце пройдземся па лесе, калі змрок непрыкметна пераходзіць у начную імглу. Таямнічыя шорахі раздаюцца то справа, то злева, недзе моцна хруснула галінка, нехта прабег побач, зашамацела ў траве. Нечакана метрах у пяці ад нас хтосьці зачмякаў, затым гучна чмыхнуў і з шумам уцёк. Відаць, побач жыраваў дзік.

Раздаецца мілагучны посвіст: сплю-ю, сплю-ю, сплю-ю. Гэта пракрычала маленькая сава-сплюшка. Цікавая птушка. Калі днём праходзіш міма, яна спачатку ад сполаху выцягнецца ў слупок і суцішыцца, седзячы на суку. А затым, калі адыходзіш ад яе, пачынае пацешна раскланьвацца ўслед, як бы праводзячы і дзякуючы нам за тое, што мы не пакрыўдзілі яе. Жыве сплюшка ў дуплах, корміцца буйнымі насякомымі, гэтым прыносіць лесу вялікую карысць.

Ку-г-у — ціха падала голас вушастая сава. Ей адказала другая, недзе ўдалечыні крыкнула трэцяя. Затым зноў пачуўся голас першай. Вушастыя совы «загаманілі». У гэтых начных птушак на галаве растуць пёры, накшталт вушэй, за што іх назвалі вушастымі.

У Беларусі жыве больш за 10 відаў соў. Патрыярх савінага племя — пугач, буйная птушка, амаль з двухметровым размахам крылаў. Твар яго — плоскі дыск, палову якога займаюць выразныя вочы з вялікай зрэнкай і ярка-аранжавай рагавіцай. Вучоныя ўстанавілі, што на 270° каля вертыкальнай восі пугач паварочвае галаву без цяжкасці. Рухо-

масць шыі, як відаць, незвычайная. Кіпцюры вострыя, лапы дужыя. Мяккасць контурнага апярэння крылаў, бахрыстых пёраў робяць палёт птушкі бясшумным. Незвычайна востры. зрок, майстэрства палёту, тонкі слых дазваляюць у дастатковай колькасці здабываць мышападобных грызуноў ноччу. Пугач — драпежнік. Зловіць здабычу, разарве на часткі і праглыне ўсё без разбору: мяса, поўсць, косці. Поўсць жывёл, пер'е птушак, косці ў страўніку пугача, як і ва ўсіх соў, не пераатраўляюцца. Ён іх перыядычна адрыгвае ў выглядзе круглых ці прадаўгаватых камячкоў-шарыкаў. Разбіраючы іх, можна даведацца, чым кормяцца совы. Чаго толькі няма тут: і рэшткі насякомых, і пер'е птушак, і поўсць, і косці розных дробных звяркоў, галоўным чынам лясных і палявых мышэй. На жаль, гэтых буйных птушак з кожным годам застаец-


Сычык.
Сава.
Філін.

ца ўсё менш і менш, таму пугач узяты пад дзяржаўную ахову і ўнесены ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР.

Калі пугач самая буйная сава, то самая маленькая — вераб'іны сычык. Ён крыху меншы за звычайнага шпака. Сплюшка, якую мы толькі што пачулі, буйнейшая за сычаня. Маленькія совы кормяцца галоўным чынам насякомымі, а буйнейшыя — мышамі і палёўкамі. Большасць соў гняздуецца ў дуплах або ў гнёздах, пакінутых буйнымі птушкамі, а некаторыя — нават на зямлі, дзе-небудзь пад каранямі старых дрэў. Пакуль самка наседжвае яйцы, самец прыносіць ёй корм. Птушаняты рэзка адрозніваюцца і па велічыні, і па ўзросту. Адно ўжо пакрыта пёрамі, другое толькі пачало ўбірацца ў пер'е, трэцяе нядаўна вылупілася.

Чаму птушаняты ў гняздзе такія розныя? Высветлілася, што бацькам вельмі цяжка выкормліваць адразу ўсіх птушанят. Таму сава, адклаўшы першае яйцо, адразу ж пачынае наседжваць яго. Пасля адкладвае яшчэ некалькі, кожнае з інтэрвалам у тыдзень. Цікава, што паводзіны самкі пасля з'яўлення першага і другога птушанят мяняюцца. Цяпер яна спакойна можа пакінуць гняздо і паляцець на паляванне. Яйцы, якія засталіся, абаграваюцца старэйшымі птушанятамі. У час голаду ў гняздзе можа адбыцца трагедыя. Калі мышэй у лесе мала, то бацькі ўсё менш і менш прыносяць корму сваім пражэрлівым птушанятам. І тады галодныя старэйшыя птушкі з'ядаюць у гняздзе сваіх меншых сабратоў.

У начным лесе пануе цішыня. Здаецца, што ўсё навокал замерла. Але лясная цішыня падманлівая. Лес і яго жыхары жывуць сваім асаблівым жыццём, у якое можа зазірнуць толькі дапытлівы і назіральны натураліст.

# НАДЫХОД ЛЕТА

Лета прыйшло непрыкметна. Вось ужо і сады адцвітаюць. Асыпаецца бэз. З таполяў і асін ляціць пух. Ружовымі шапкамі ўпрыгожыліся кусты шыпшыны. Зацвілі язмін і каліна.

Лугі ператварыліся ў суцэльны пярэсты дыван. Цвітуць амаль усе лугавыя травы: белы рамонак, сіні мышыны гарошак, жоўты казялец і чына лугавая, ружовая лугавая канюшына. Зацвілі незабудкі, светнік, смолка, са злакаў — аўсяніца лугавая і цімафееўка. На ўзлесках красуюцца браткі. Гэта расліна дрэнны сусед: карані браткак прысмоктваюцца да каранёў суседніх раслін і выцягваюць з іх пажыўныя сокі. Такія расліны называюцца паўпаразітамі. На купінах па ўвільготненых месцах разгортвае свае разеткі расянка — «драпежніца» сярод раслін. Яе лісточкі ўсаджаны ліпкімі чырвонымі валаскамі, і калі на іх трапіць камар або муха, яны сціскаюцца — і насякомыя ў пастцы: лісточкі растваpаюць іх сваім сокам.

Маладая веснавая зелень прыкметна пацямнела. А як лёгка дыхаецца цяпер у лесе ці парку! І не дзіўна. Лісты дрэў — гэта маленькія хімічныя лабараторыі, дзе пад уплывам сонечнага святла і цяпла адбываецца ператварэнне рэчываў. Праз невялікія адтуліны ў лістах — вусцейкі вуглякіслы газ з паветра пранікае ў лісты і шыпулькі. Там ён пад уздзеяннем сонечнага святла распадаецца на вуглярод і кісларод. Вуглярод застаецца ў лістах і перапрацоўваецца ў той матэрыял, з якога будуюцца ствол, карані і галіны дрэва. Кісларод жа выдзяляецца з лістоў у навакольнае паветра. Гектар лесу паглынае за адну гадзіну ўвесь вуглякіслы газ, які за гэты час выдыхнуць 200 чалавек. Такім

чынам, лес паглынае з паветра шкодныя для чалавека рэчывы і выдзяляе патрэбны кісларод. Лес не толькі паляпшае састаў паветра, але служыць і фільтрам, які ачышчае паветра ад пылу, сажы і бруду. Установлена, што ў вялікіх гарадах, дзе многа заводаў, на кожны квадратны кіламетр плошчы асядае за год 25—30 т сажы. Увесь пыл і сажа, не дасягнуўшы паверхні зямлі, асядаюць на лісці дрэў і хмызнякоў. Паверхня ж лістоў перавышае ў дзесяткі і сотні разоў тую плошчу, на якой растуць дрэвы. Плошча шыпулек сасновага лесу на адным гектары складае 10 га. Таму пад полагам дрэў паветра ў многа разоў чысцейшае, чым над кронамі.

У той час, калі на палях каласіцца жыта, у лесе з'яўляюцца першыя летнія грыбы: баравікі, падбярозавікі, падасінавікі. Праз некаторы час яны знікнуць, таму гэтыя грыбы ў народзе называюць каласавікамі.

Распусціў сваё прыгожае разное лісце папаратнік-арляк.

У азёрах, сажалках і ціхіх затоках, дзе цвітуць жоўтыя і белыя гарлачыкі, нерастуюць карп, карась і лінь. А ў рэках, калі вада награваецца да 20°, у густых зарасніках падводных раслін пачынае адкладваць ікру сом. Ён ладзіць для гэтага прымітыўнае гняздо — расчышчаную, абкружаную валікам з рэштак раслін пляцоўку. На працягу некалькіх сутак сом застаецца каля гнязда, ахоўваючы ікру, а затым і малькоў. Гэта каштоўная і рэдкая рыба занесена ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР. Здабыча і лоўля яе ў вадаёмах Беларусі забаронена.

Пад апалым лісцем, у сырым імху і ў гнаявой кучы самка вужа адкладвае да 30 яец. Яны з галубінае яйцо, у белай мяккай пергаментнай абалонцы і злучаны паміж сабой накшталт пацерак.

Узяўшы за адзін канец, можна прыўзняць усе «каралі».

Паступова сціхаюць спевы птушак. У іх адзін клопат — пракарміць пражэрлівае патомства. Вучоныя ўстанавілі, што дробныя птушкі ў час выкормлівання птушанят падлятаюць да гнязда сотні разоў у суткі. Напрыклад, сініца — да 400, мухалоўка-валасянка — да 560 разоў. Нядзіўна, што шпак, «рабочы дзень» якога працягваецца 17 гадзін, пралятае за гэты час больш чым 70 км, а стрыж — да 1000 км. Пара шпакоў прыносіць сваім птушанятам за час выкормлівання іх больш чым 8000 адных толькі хрушчоў і іх лічынак.

А гэта што такое? У невялікім утульным гняздзечку шэрай мухалоўкі, пабудаваным з сухіх травінак, моху і лішайнікаў, дзе яшчэ тыдні два таму



**Мухалоўка корміць чужака.**

назад ляжала 5 злёгку зеленаватых з цёмна-карычневымі крапінкамі яец, цяпер сядзіць толькі адно птушаня. Гэта чужака. Вучоныя падлічылі, што зязюля падкладвае свае яйцы ў гнёзды больш чым 160 відаў розных птушак. Паколькі зародак у яйцы зязюлі развіваецца хутчэй, чым у птушак-гаспадароў, то зязюляня з'яўляецца на свет раней «законных дзяцей» і адразу ж пачынае выкідваць з гнязда ўсё, што ляжыць побач: яйцы або птушанят. Аказваецца, у зязюляняці ў першыя ж часы з'яўлення на свет выяўляецца рэфлекс «выкідвання» ўсіх прадметаў, якія сутыкаюцца з яго спінай, асабліва ў ніжняй частцы. У паглыбленні крыжа развіваюцца адчувальныя цельцы, пры дакрананні да іх і з'яўляецца рэфлекс выкідвання. Зязюляня падлазіць пад яйцо, штуршкамі закідвае яго да сябе на спіну, падпаўзае з ім да краю гнязда і штуршком выкідвае яго. Актыўным зязюляня бывае пры тэмпературы +15 °C, калі ўсе птушаняты ў гняздзе дранцвеюць ад холаду і робяцца нерухомымі. Такая тэмпература бывае ў гняздзе, калі адсутнічае самка. Пры тэмпературы ж +25 °C зязюляня, наадварот, робіцца вялым, а яго сабраты ажыўленымі.

Што ж адбылося ў гняздзе мухалоўкі?

Выкарыстаўшы адсутнасць гаспадароў, зязюля падклала ў іх гняздо сваё яйцо. Міжволі мухалоўка вымушана карміць пакінутага ў гняздзе падкідыша. Есць ён вельмі многа, і бацькі павінны з раніцы да позняй ночы працаваць, каб пракарміць ненажэрнага прыёмыша.

У другой палове чэрвеня большасць птушанят пакідаюць свае гнёзды і разам з бацькамі адпраўляюцца ў першае падарожжа па лесе. Да гэтага часу з'яўляюцца птушаняты і ў буйных лясных курыных птушак: глушца, цецерука, рабчыка. У першыя дні птушаняты ў іх амаль аднолькавыя: жаў-

таватыя, з цёмнымі палоскамі. Яны бадзёра бегаюць за маці. Пры небяспецы маці, трывожна закрычаўшы, з шумам узлятае, а птушаняты разбягаюцца ў розныя бакі і затойваюцца ў густой траве. Як толькі міне небяспека, маці асаблівым квактаннем склікае птушанят. Да яе з усіх бакоў коцяцца пушыстыя шарыкі. Яна вядзе іх да мурашніка, дзе птушаняты з вялікім задавальненнем ласуюцца мурашынымі яйцамі, г. зн. кукалкамі, і самімі мурашкамі. Падрослыя птушаняты кормяцца, як і дарослыя птушкі, у асноўным ляснымі ягадамі: чарніцамі, брусніцамі, журавінамі і інш.

У дуплах старых дрэў, за драўлянай шалёўкай сцен будынкаў з'яўляюцца дзіцяняты і ў кажаноў. Кожная самка прыносіць па 1—2 маленькіх, сляпых, голых дзіцянят. Яны выкормліваюць іх малаком.


Глушаняты.

Дзіцяняты, з'явіўшыся на свет, адразу ж стараюцца знайсці сасок малочнай залозы маці і ўчапіцца ў яго. Крылы ў нованароджаных малыя і недаразвітыя, а лапы і вялікія пальцы з кіпцюрамі надзвычай моцныя. Пры дапамозе іх дзіцяняты прымацоўваюцца да цела маці. Дзён дзесяць самка не разлучаецца з нованароджанымі, якія ў час палёту вісяць, моцна ўчапіўшыся за саскі. Пазней дзіцяняты на час палявання маці застаюцца ў дуплах. Цікава, што пасля вяртання ў сховішча самка сярод мноства іншых дзіцянят адшуквае сваіх, каб пакарміць. Вучоныя мяркуюць, што самкі адшукваюць сваіх дзіцянят з дапамогай нюху. Праз месяц дзіцяняты ўжо здольны самастойна лётаць.

У чэрвені ў зуброў Белавежскай пушчы таксама павялічваецца сям'я. Маленькія з рыжынкай зубра-



Вушан з дзіцянятамі.

няты цiснуцца да зубрых i з цiкаўнасцю пазiраюць навокал. Маса нованароджаных бывае ад 18 да 26 кг.

Зубры жывуць у статках. Перад ацёлам зубрыхi пакiдаюць статак i праз 3—5 дзён вяртаюцца назад ужо з цялятамi. Дзiцяняты хутка асвойваюцца ў статку i ўтвараюць «дзiцячую групу». Пры небяспецы кожнае з iх уцякае толькi да сваёй мацi. Першыя 2—3 тыднi нованароджаныя кормяцца толькi малаком мацi, тлустасць якога дасягае 8 %. Пазней у «меню» ўваходзяць трава i далiкатныя маладыя лiсточкi дрэў i хмызнякоў. Зубрыха кормiць цяля да года, iншы раз i больш.

Калi ўпершыню бачыш зубра, здзiўляешся неадпаведнасцi буйной пярэдняй i слаба развiтай задняй часткi цела.

Запамiнаецца буйная, цяжкая галава з масiўнымi серпападобнымi рагамi. Шырокi лоб пакрыты поўсцю. Пад мордай клiнападобная барада. Вялiкiя карыя вочы жывёлы з густымi доўгiмi вейкамi выяўляюць цiкаўнасць, спалох або трывогу, а iншы раз налiваюцца крывёю — тады беражыцеся лясного велiкана. Раз'юшаны зубр вываочвае з коранем дрэвы дыяметрам да 20 см. Нягледзячы на магутны склад цела (маса 500—600 кг), рухаюцца зубры вельмi лёгка, пры небяспецы ўцякаюць хуткiм галопам. Калi iх не трывожыць, гэта даволi спакойныя, мiралюбiвыя жывёлы.

Зубры — вегетарыянцы. У iх рацыён у цёплую пару года ўваходзiць да 400 вiдаў розных раслiн: лiсце, парасткi дрэў i хмызнякоў, разнастайныя травы, iмхi, лiшайнiкi i нават грыбы.

Летам зубр за суткi з'ядае да 30—45 кг розных травянiстых раслiн i выпiвае да 50 л вады. Зiмой разнастайнасць кармоў у рацыёне зуброў значна змяншаецца, бо жывёлы пераходзяць на корм тон-

кімі галінамі ў асноўным лісцевых парод, лішайнікамі і сухой травой. Кормяцца зубры раніцай і вечарам, днём ідуць у зацішныя месцы, дзе лежачы або стоячы адпачываюць.

Акрамя ўлюбёных месц лежні, у іх ёсць месцы, дзе яны прымаюць пылавыя ванны, валяючыся падоўгу ў пыле то на адным, то на другім баку. Недалёка ад месц «купання» стаяць буйныя дрэвы з абадранай карой, дзе заўсёды можна заўважыць шматкі поўсці. Тут зубры з вялікім задавальненнем пасля пылавой ванны пачэсваюць бакі. Так яны вызваляюцца ад паразітаў — розных кляшчоў.

Сотні гадоў таму назад зубры вялікімі статкамі блукалі ў лясах Белавежскай пушчы. Гісторыя гэтага старажытнага ляснога краю настолькі перапляталася з гісторыяй зубра, што вучоныя сцвяр-

Зубры.



джаюць, быццам зубр захаваўся тут дзякуючы пушчы, а пушча — дзякуючы зубру.

Цяпер у Белавежскай пушчы жыве каля 180 зуброў. Акрамя таго, 114 вывезена ў розныя запаведнікі і паляўнічыя гаспадаркі нашай краіны, што дазволіла стварыць новыя пункты вольнага развядзення зуброў на Украіне, Паўночным Каўказе, у Літве. Белавежскія зубры знаходзяцца ў заапарках Алма-Аты, Адэсы, Гродна і інш. Невялікі статак (да 20 галоў) вывезеных з пушчы зуброў знаходзіцца ў Бярэзінскім запаведніку.

У выніку сумесных намаганняў айчынных і замежных спецыялістаў зубр як заалагічны від выратаваны. Можна з упэўненасцю сказаць, што пагроза яго знікнення амаль мінула. Сусветнае пагалоўе гэтых жывёл налічвае ўжо больш чым 2 тыс. галоў. Зубры сустракаюцца амаль ва ўсіх краінах Еўропы, вывезены ў Амерыку, у некаторыя краіны Азіі. Неабходна адзначыць, што 63 % сусветнага пагалоўя гэтых жывёл знаходзіцца ў Савецкім Саюзе і Польскай Народнай Рэспубліцы. Зубр занесены ў міжнародную Чырвоную кнігу і Чырвоную кнігу Беларускай ССР. Каштоўны від дзікіх капытных жывёл узяты пад дзяржаўную ахову. Вучоныя і спецыялісты прыкладаюць усе намаганні, каб павялічылася колькасць і рассяленне гэтай старажытнай жывёлы. Будучае пакаленне павінна лічыць зубра звычайным жыхаром нашых беларускіх лясоў.

# ТАЙНЫ ЛЯСНОЙ ПАЛЯНЫ

Лета ў поўным разгары. Паспяваюць суніцы, парэчкі, чарніцы, маліна, касцяніцы і іншыя ягады. Зацвітае ліпа. Вакол маленькіх белых кветачак, упрыгожаных цвёрдай лятучкай-крыльцам, гудуць тысячы пчол. Паветра насычана мядовым водарам.

Пачаўся сенакос. Квітнеючыя расліны захоўваюцца толькі на схілах яроў, уздоўж дарог. Калі ў чэрвені пераважным колерам лугавых траў быў ружова-фіялетавы з светла-жоўтымі крапінамі, то ў сярэдзіне лета афарбоўка змяняецца — з'яўляецца больш жоўтых і цёмна-ліловых фарбаў. Зацвілі дуброўка, лаганец, чына, званец, мышыны гарошак, званочак. Уздоўж дарог цвітуць горкі палын і духмяная мята. Красуюцца блакітныя кветкі дзікага цыкорыя. На палях, схіліўшы да зямлі свой цяжкі колас, паспявае збожжа. Даспявае авёс, ячмень, лёндаўгунец. Зацвітае грэчка. Радуюць вока спалучэннем фарбаў жоўта-аранжавыя купкі, падобныя да рамонкаў, што растуць на краях жытніх палёў уперамежку з васількамі і ліловымі рагулькамі. На няскошаных лугах, у зарасніках хмызнякоў, на ўзлесках і берагах азёр красуюцца гладыёлусы, або шпажнікі. Схаваныя ў зямлі, крыху сплюшчаныя белаватыя цыбулінкі выкідваюць стройнае сцябло з некалькімі буйнымі чырванавата-фіялетавымі кветкамі. Наш дзікі гладыёлус заслугоўвае ўвагі як цудоўная дэкаратыўная расліна. Па берагавых ярах, прасеках і асабліва на пажарышчах ружовымі кветкамі цвіце скрыпень.

Ля берагоў азёр, рэк і стаячых вадаёмаў можна ўбачыць расліны з невялікімі круглымі лістамі. Кветкі іх маюць тры белыя пялёсткі. Гэта жабнік. Над вадой тырчаць зараснікі залаціста-жоўтых кве-

так плывунца. Пад вадой на тонкіх галінках у яе празрыстыя пузыркі, якія ловяць дробных водных беспазваночных,— жыхароў вод. Гэта насякомаедная расліна.

У ціхія цёплыя вечары на берагах рэк можна назіраць за «зімовай мяцеліцай». Гэта пачалі лятаць аўсянікі, невялікія насякомыя з доўгімі ніткамі на канцы цела. Жывуць аўсянікі ўсяго некалькі гадзін і паміраюць на ляту, падаючы ў ваду або на зямлю. Але самкі перад смерцю паспяваюць адкласці ў ваду яйцы, з якіх выведуцца лічынкі. Калі лятаюць аўсянікі, для рыб свята. Не толькі жвавыя верхаводкі, але і спрытныя галаўні і буйныя язі выскакваюць з вады, хапаючы смачную здабычу. Нават лешч і той падскаквае і хапае аўсянікаў.

Працягваюць нераставаць уюны і верхаводкі. Пачынае ліняць рачны рак. Скінуўшы панцыр, голы з мяккімі клюшнямі рак хаваецца пад корч або ў норку і сядзіць там, пакуль у яго не ўтворыцца новы панцыр.

Асабліва хораша ў лесе чэрвеньскай раніцай. Паветра насычана пахамі траў, спелых ягад, смольных соснаў. У лесе незвычайна ціха. За дзень можна ні разу не пачуць сапраўднай птушынай песні, хоць птушак цяпер тут больш, чым вясной. Рэдка прагучыць флейтай і змоўкне івалга, паспрабуюць голас пеначка-цінькаўка і аўсянка. Драздоў, берасцянак, салаўёў ужо зусім не чуваць. Змоўкла і зязюля. Навокал ціха-ціха. Але вось раздаецца дробны стук, як быццам нехта стукае палкай па дрэве. Пастукае, пастукае і прыціхне. Гэта працуе санітар лесу — дзяцел. Сваёй прамой, моцнай, як долата, дзюбай ён адшуквае пад карой і ў драўніне караедаў і іншых насякомых. Тонкі доўгі язык дзятла можа выцягвацца настолькі, што выходзіць з дзюбы на 10—14 см. Цвёрды арагавелы кончык языка мае зазубінкі,

падобныя на вастрыё рыбалоўных кручкоў. Дзяцел наколвае сваю здабычу на гэтыя зазубінкі і адпраўляе яе ў рот. Язык заўсёды змочаны ліпкай слінай. Дробныя насякомыя прыклейваюцца да яго, як толькі ён засуне яго пад кару або ў рыхлую гнілую драўніну. З-пад кары аднаго вялікага дрэва дзяцел можа выцягнуць да 10 тыс. шкодных насякомых, галоўным чынам лічынак караеда. Калі б усе яны ператварыліся ў дарослых насякомых і кожнае з іх пасялілася на здаровым дрэве, то яны нанеслі б незлічоную шкоду лесу.

У Беларусі можна сустрэць каля 10 відаў дзятлаў. Самы моцны — чорны ў чырвонай шапачцы — чорны дзяцел, або жаўна. Крыху меншы за жаўну — вялікі пярэсты дзяцел, затым — малы пярэсты. Есць і зялёны, і сівы, і белагаловы, і нават трох-



Паляванне вожыка.

пальцы. Праўда, апошні настолькі рэдкі, што занесены ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР.

Да дзятлавых адносіцца і іх бліжэйшая сваячка — круцігалоўка. Іншы раз толькі захочаш засунуць руку ў дупло, як адтуль пакажуцца некалькі страшных шыпячых змяіных галоў. Гэта птушаняты круцігалоўкі. Пішчаць яны яшчэ не могуць, таму, шырока адкрыўшы рот, гучна шыпяць, паварочваючы галавой з боку на бок.

З вялікага мурашніка раптам выпаўзаюць сотні крылатых мурашак. Гэта мурашыныя самцы і самкі. Усім роем яны ўзнімаюцца ўверх і адлятаюць. Маладыя самкі дзе-небудзь апусцяцца на зямлю, абгрызуць непатрэбныя ім больш крылы, вырыюць ямку і адкладуць першыя яйцы. Так закладваюцца новыя мурашнікі.

На лясной сцяжынцы, каля старога вялікага пня, скруціўшыся ў клубочак, ляжыць змяя. Па яе спіне працягнуўся даволі прыгожы своеасаблівы малюнак у выглядзе зубчастай дзягі. Гэта гадзюка. Яна нерухомая. Навокал цішыня. Але вось раздаецца ціхае шапаценне, і на сцежцы з'яўляецца вожык. Усю ноч ён блукаў у пошуках корму, зараз вяртаецца ў сваё сховішча. Убачыўшы гадзюку, ён на імгненне замірае. Змяя ўзнімае галаву і робіць кідок, імкнучыся ўкусіць праціўніка. Вожык не баіцца, бо пры кожным кідку ў пашчы гадзюкі застаюцца моцныя і вострыя іголкі. Іх на целе вожыка ад 6 да 8 тыс. Праз некаторы час гадзюка, параніўшы сваю пашчу і, відаць, страціўшы ўсе свае сілы, замірае, і ў гэты момант вожык кідком хапае яе і перакусвае пазваночнік амаль каля самай галавы. Пасля гэтага дакончыць сваю ахвяру звярку ўжо няцяжка.

Ну, а калі б змяі ўдалося ўкусіць вожыка? Справа ў тым, што вожык неўспрымальны да змяінай атруты.

А ці толькі змеямі корміцца вожык? Жукі, іх лічынкі, вусені, конікі, земляныя чэрві, смаўжы, слімакі — усё ўваходзіць у «меню» вожыка. Не грэбуе ён і вегетарыянскімі стравамі. Любіць лясныя суніцы і іншыя ягады, есць жалуды і лясныя арэхі. Выкопвае і корміцца сакавітымі каранямі і цыбулінамі раслін. Адшукаўшы норку мышы, раздзірае і з'ядае ўвесь вывадак мышэй, іншы раз разам з бацькамі. Не грэбуе ён і яйцамі дробных птушак, якія гняздзяцца на зямлі. Ён больш прыносіць карысці, чым шкоды, бо яго асноўны корм — насякомыя. З'ядае іх у суткі вельмі многа, прыкладна столькі, колькі важыць сам, г. зн. да кілаграма.

Нару вожык робіць сярод густога хмызняку, дзе яго цяжка знайсці лісе, валацужнаму сабаку і іншым драпежнікам. Корміцца на сваім участку, плошчаю

**Лісяняты.**



ў два-тры гектары. Выганяе любога вожыка-прышэльца ці саперніка, які заходзіць на яго тэрыторыю. Як і іншыя начныя звяркі, бачыць дрэнна, затое слых і нюх у яго добра развіты. Позна ўвечары ён пакідае нару і выходзіць на паляванне, за лясной мышшу ён бяжыць з хуткасцю 20 метраў у мінуту.

Вернемся да нашага вожыка-пераможцы. Ён ужо прыняўся «снедаць», але раптоўна кідае гадзюку і згортваецца ў калючы клубок.

Што здарылася? Хто перашкодзіў трапезе вожыка?

З густога хмызняку выглядвае мордачка невялікага рыжага лісяняці. Яшчэ зусім нядаўна яно жыло ў глыбокай нары, чакаючы, калі бацькі прынясуць зайчаня, мышку, птушачку або якую-небудзь іншую жыўнасць. З таго часу прайшло каля 2 месяцаў. Лісяняты выраслі, і хоць жывуць яшчэ разам з бацькамі, часта пакідаюць сваё сховішча, спрабуючы самастойна здабываць сабе ежу. Лісяня спрабуе схапіць вожыка, але, крануўшы яго, адскаквае. Затым павольна і асцярожна зноў вяртаецца да гэтага дзіўнага аб'екта, які колецца. Заўважыўшы разарваную гадзюку, яно хапае яе і знікае ў гушчары лесу.

У зарасніках ляснога арэшніку — ляшчыне, дзе зараз багаты ўраджай арэхаў, нашэсце вавёрак. Здаецца, што сюды сабраліся звяркі з усяго лесу.

З густога зарасніку маладога асінніку паказаўся невялікі табунок аленяў: стройная прыгожая аленіха з 2 плямістымі аленянятамі. Яны рухаюцца няспешна. Маці — заўсёды на варце: прынюхваецца, прыслухоўваецца, азіраецца.

У маі — чэрвені самка высакароднага аленя звычайна прыносіць 1—2 аленянят. У першыя дні свайго жыцця яны яшчэ вельмі слабыя і, калі напалоханая кім-небудзь маці ўцякае, не ідуць за ёю,

а, прыціснуўшыся да зямлі ў густой траве, імкнуцца затаіцца, бо плямістая афарбоўка скуркі робіць іх непрыкметнымі сярод сонечных блікаў на лясным подсціле.

Растуць аленяняты хутка і праз 3 тыдні свой малочны рацыён дапаўняюць свежай травой, лісцямі і маладымі парасткамі.

«Меню» аленя налічвае больш за 200 відаў разнастайных травяністых раслін, хмызнякоў і маладых дрэўцаў.

Аленяняты да 2 гадоў маюць патрэбу ў апецы маці. Працягласць жыцця аленя ў прыродзе 12—15 гадоў. У няволі яны жывуць значна больш.

Высакародны алень — буйная, моцная і ў той жа час вельмі зграбная жывёла. Буравата-рыжаватае стройнае тулава на высокіх і тонкіх нагах, доўгая

Казуляняты.



шыя, лёгкая выцягнутая галава, у самцоў упрыгожаная каронай галінастых рагоў, пакідае пры сустрэчы незабыўнае ўражанне. Маса самца 200—250 кг, самкі — 120—150 кг. Самкі бязрогія, а самцы носяць рогі, праўда, не ўвесь год. Вясной (у лютым—сакавіку) яны скідаюць іх і цяпер у іх адрастаюць новыя, маладыя, так званыя панты. Яны мяккія, напоўнены крывёй, пакрыты дробнымі варсінкамі, быццам футрам. Рогі растуць вельмі хутка, і ў верасні самцы зноў будуць насіць цяжкія галінастыя рогі.

На тэрыторыі Беларусі жывуць 2 віды буслоў: чорны і белы. Чорны — вельмі рэдкі. Пасяляецца ў глухіх і далёкіх нетрах лесу, для чалавека маладаступных. Ён узяты пад дзяржаўную ахову і занесены ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР. А белага бусла ў Беларусі ведае кожны. Гэта вялікая, з доўгай шыяй птушка. На крылах чорная паласа. Дзюба і доўгія цыбатыя ногі — чырвоныя. Белы бусел вельмі даверлівы, звычайна не ўцякае ад чалавека, а, наадварот, шукае яго суседства і нават будуе гнёзды на дахах дамоў, хлявоў або на высокіх дрэвах, якія растуць побач.

Вясной, вярнуўшыся з зімоўкі ў родныя краі, буслы адразу ж распачынаюць рамонт і абнаўленне леташніх гнёздаў. З году ў год яны займаюць адны і тыя ж гнёзды. Чуецца безгалосая песня, частае і гучнае цёканне, ляскання, шчоўканне дзюбай. Селіцца бусел абавязкова каля азёр, сажалак, мокрых лугоў, балот або рачной поймы, дзе можна лёгка здабываць корм.

Бусел ляціць даволі хутка, плаўна ўзмахваючы крыламі. Шыю ў палёце выцягвае ўперад, а доўгія ногі трымае выцягнутымі назад. Часта можна назіраць, як буслы падоўгу лятаюць, амаль не варушачы крыламі, быццам адпачываючы на вялікай


Бусел.

вышыні ў паднябессі. Праз 2—3 тыдні пасля прылёту самка адкладвае 2—6 белых, даволі буйных яец. Паколькі яйцы адкладваюцца з прамежкам у 2 дні, а наседжванне пачынаецца адразу ж пасля з'яўлення першага яйца, птушаняты вылупліваюцца неадначасова. Розніца ва ўзросце буслянят 5—10 дзён. Пасля з'яўлення птушанят у бацькоў адзін клопат — пракарміць пражэрлівае патомства. Кормяцца яны насякомымі, слімакамі, жабамі, яшчаркамі, змеямі і нават палявымі мышамі. На мелкаводдзі спрытна ловяць дробных рыбак. Буслы вельмі клапатлівыя бацькі: пакуль адзін злятае за кормам, другі не пакідае без догляду птушанят. Моцным ударам дзюбы птушка пагрозліва папярэджвае тых, хто спрабуе напасці на птушанят.

У час засухі, калі паплавы, дзе кормяцца буслы, высыхаюць, птушкі ўсё менш і менш пры-

носяць корму сваім дзецям. У гэты час буслы пачынаюць выкідваць з гнязда птушанят, пакідаючы ў ім 1—2 самых моцных і здаровых. Інстынкт як быццам падказвае птушцы, што ў цяжкіх засушлівых умовах ёй не выкарміць усіх дзяцей. Таму бусел пакідае столькі птушанят, колькі здольны выкарміць.

Праз 2—2,5 месяца птушаняты дасягаюць памераў бацькоў. У гэты час, часта і падоўгу стоячы ў гняздзе, махаюць крыламі, не адважваючыся пакінуць свой прытулак. Бацькі перастаюць карміць іх так добра, як раней. Пачуццё голаду надае птушанятам большую рашучасць, і яны, упершыню пакідаючы гняздо, вылятаюць за бацькамі на лугі.

У хуткім часе вывадак пачынае весці вандроўнае жыццё. Бацькі вучаць маленькіх птушанят самастойна здабываць корм, абараняцца ад ворагаў. Нярэдка ў



Чорны бусел.

гэты час буслы аб'ядноўваюцца ў чароды, якія налічваюць да часу адлёту некалькі дзесяткаў птушак. Вандруючы па наваколлі, яны прытрымліваюцца забалочаных месц, паплавоў, як бы прыглядаючыся і знаёмячыся адзін з адным перад пачаткам сумеснага палёту, а затым чарада за чарадой кранаюцца ў далёкі шлях. Зімуюць яны ў Афрыцы.

Вяртаюцца буслы ў родныя краі вясной. Старыя зноў займуць свае гнёзды. Маладыя ў гэту вясну сем'і не ўтвараюць. Усё лета невялікімі чародкамі «халасцякі» будуць карміцца на сажалках і азёрах, начуючы на галінах адзіночных дрэў. Птушанят яны выведуць толькі ў наступным годзе. У Беларусі кожны год гняздзіцца да 30 тыс. белых буслоў. Гэта прыгожая птушка стала неад'емнай часткай беларускага пейзажу.

Сонца ўзнімаецца вышэй. Пачынае прыпякаць, але ў лесе гарачыня не адчуваецца. Пад кронамі дрэў пануюць паўзмрок, прахалода і цішыня. Здаецца, што ўсё навокал замерла, але цішыня гэта падманлівая. Лес і яго жыхары жывуць маладаступным для чалавечага позірку сваім, своеасаблівым, цікавым жыццём.

## МЕСЯЦ ЗНІЧАК

Сонца пячэ неміласэрна. Горача нават у засені. Паветра цяжкае, застылае, насычанае пахамі сухіх траў. Душна. Часта блакіт неба зацягваецца цёмнымі хмарамі, якія хутка набліжаюцца. Блішчаць маланкі, дождж лье як з вядра.

Жнівеньскія ліўні непрацяглыя. Прыбілі пыл, абмылі лісце, траву, і зноў сонца пячэ па-ранейшаму. Толькі паветра стала надзвычай духмянае. Дыхаеш на поўныя грудзі і не надыхаешся. Усю стому як рукой здымае.

Чорна-аксамітную цемень халодных і доўгіх начэй то тут, то там прарэзваюць успышкі знічак — метэарытаў.

У сасновых барах і пералесках стаіць востры пах квітнеючага верасу. Пачынаюць спараносіць папараці. Самая буйная і самая прыгожая з іх «страусавае пяро» ўтварае чорныя, падобныя на апаленыя галінкі, парасткі, якія хаваюцца ў цэнтры пучка бясплодных лістоў. На гэтых парастках развіваюцца споры.

На змену звычайнай летняй ружова-фіялетавай афарбоўцы квітнеючых раслін прыходзяць залацістажоўтыя колеры. На лужках, каля дарог, на выганах цвітуць жоўты лаганец, палын, васількі лугавыя з ружовымі галоўкамі і living рознае пустазелле. Усюды многа блакітных званочкаў. На агародах і пустках зацвілі чартапалох (бадзяк), малачай, татарнік. Схілы ўзгоркаў пакрыліся ліловымі падушкамі духмянага чабору. Цвітуць астра рамонкавая, урочнік, дробныя лімонна-жоўтыя галоўкі кмену, сухія бяссмертнікі, несамавітыя кошыкі палыноў. Красуюцца духмяная крэмава-белая з гнуткім сцяблом медуніца, валяр'ян і ўсе парасонавыя.

У нізінах пах вятроўніку перабівае спелая чаромха. У разагрэтых сонцам травах гарэняць горкія палыны, чадзіць асот, даўкі дух струменяць святаяннікі, факеламі палымнеюць піжмы, раскрытымі парасонамі раскінуўся дзягіль.

Жнівень — месяц паспявання пладоў, насення, ягад, месяц ураджаю. Быццам распаленыя вугольчыкі, зіхацяць сярод зелені галін гронкі бузіны. Яна непераборлівая да глебы. Вельмі добра прыжываецца на абрывах, умацоўваючы адхоны яроў, і не дае вадзе размыць іх. Плады бузіны непрыдатныя да яды, але з'яўляюцца добрым кормам для зімуючых птушак. Зялёныя галіны бузіны, раскладзеныя ў кладоўках, выганяць з дому мышэй, тараканоў, мух, камароў. Пазбягаюць месц, якія пахнуць бузіной, многія іншыя насякомыя — небяспечныя пладовыя шкоднікі.

Ад ярка-чырвоных пладоў каліны нельга адарваць позірк. Галіны схіліліся долу пад цяжарам буйных гронак. Нават лісця не відаць. Плады сакавітыя, прыгожыя, але вельмі кіслыя і гарэняць. Праўда, пасля першых замаразкаў гарката знікае, а кіслы сок нават падсалоджваецца. Доўга палымнеюць плады каліны на кустах. Ужо і барвовае лісце апала, а яны вісяць. Для птушак плады каліны ў гэты час самы смачны ласунак. Каліна не пашкоджваецца прамысловымі газамі і не чахне ад дыму.

Пачынаюць паспяваць чырвона-бурыя, аранжава-чырвоныя, нават жоўтыя плады глогу. Гэты хмызняк, які не патрабуе асаблівага догляду, характэрны сваімі вострымі калючкамі, што схаваліся ў густой лістоце. Глог жыве да 400 гадоў.

У светлых лясах, уздоўж дарог і ручаёў па ярах расце вельмі калючы хмызняк — ажына. Са жніўня і да лістапада радуе яна сваімі шызымі ягадамі. На смак яна амаль як маліна.

У жніўні пачынаецца збор брусніц. Гэта познія ягады. Кранутыя першымі маразамі, яны робяцца вельмі смачнымі. Брусніцы багатыя вітамінамі. На травяных і асаковых балотах можна сустрэць буйныя чырвоныя катахі капытніку, якія ляжаць на зялёнай траве, як быццам нехта спецыяльна раскідаў іх тут. Есці іх нельга: яны атрутныя. Капытнік называюць балотным «барометрам». Пачатак яго напалову акружаны лістом, як пакрывалам. З аднаго боку ён зялёны, а з другога пакрыты пушыстымі варсінкамі. Свеціць сонейка, і пакрывала з завостранай верхавінкай, як стрэлка барометра, тарчыць уверсе, і расліна добра відаць здалёк. Але набліжаецца непагадзь, і капытнік паціхеньку знікае. Яго крыло адстае ад чырвонага катаха і адгінаецца. І чым большы вугал адхілення, тым бліжэй дождж. Потым ён становіцца да катаха пад прамым вуглом. Цяпер яго ўжо ўбачыць нялёгка. Расліна схавалася ў траве. Гэта азначае, што вось-вось застукаюць па лісці першыя кроплі дажджу.

Жнівень шчодра дорыць апошняе летняе цяпло прыродзе, а яна адплачвае сваімі дарамі. Сонцам адліваюцца янтарныя груды збожжа. А бункеры камбайнаў напаўняюцца адборным зернем: ураджай шчодры — паспявай вывозіць. На скошаных лугах узняліся стагі духмянага сена. На палях у самым разгары ўборка ўраджаю. Затым пачынаецца сяўба азімых культур, зяблевае ворыва пад будучыя яравыя. У садах паспяваюць яблыкі. Яны вісяць на галінах, цяжкія, румяныя, налітыя салодкім духмяным сокам. Пад цяжарам пладоў яблыні схіляюць галіны. Клапатлівы садавод у гэты час падпірае галіны шастамі, інакш яны могуць абламацца.

Цяжка пералічыць усе дары жніўня. У лесе — першыя асеннія грыбы: баравікі, падасінавікі,

падбярозавікі, лісічкі і інш. Баравікі не растуць у лясной глухамані. Яны як бы цiснуцца да прасек, сцежак, да пратаптаных месц. Хмурага ценю не выносяць, любяць рассеянае святло. Баравіка не сустрэнеш у маладым лесе або пад асінамі. Старыя самкнутыя бярэзнікі, ельнікі, сасоннікі, дубы — вось дзе чакае грыбніка ўдача. Збіраюць баравікі ў тры тэрміны. Першы — каласавіковы, калі збажына каласіцца. Другі — жніўны, у час жніва, і апошні — лістападны, асенні. Баравік па пажыўнасці не горшы за мяса. Грыбнікі вызначаюць чатыры разнавіднасці баравікоў: сасновы, яловы, дубовы і бярозавы. Нездарма іх назвы звязаны з дрэвамі: кожны аддае перавагу свайму дрэву. У баравіка сасновага капялюшык вішнёва-чырвоны, ножка клубнепадобная, ля асновы вельмі патоўшчаная.

Пад дубам і бярозай баравікі афарбаваны


Баравікі.


Лісіцы.


Масля́кі.


Сыраежкі.

святлей, і мякаць іх не такая цвёрдая. Буры капялюшык са светлымі плямкамі — баравік, сарваны ў ельніку. Грыбы як бы самі пра сябе расказваюць, дзе яны выраслі.

Пад старасць (век баравіка 12 дзён) грыб выцвітае, сівее. Капялюшык робіцца круглым, ножка выцягваецца. Пры высушванні баравікі не чарнеюць, таму іх называюць белымі.

Падасінавік таксама мае рознага колеру капялюшык, у залежнасці ад месца росту. У асінніках — ён з чырвонай шапкай і белымі камякамі лускі на ножцы. У бярэзніках і сасонніках — з буравата-жоўтым, а ножка пакрыта чорнай луской.

У бярэзніках можна знайсці падбярозавікі на высокіх тонкіх белаватых ножках. У тых, што растуць у сырых месцах,— шэрыя капялюшыкі. У сухіх — чорныя.

Звычайна ўсе грыбы хаваюцца, а сыраежкі заўсёды на віду. Іх капялюшыкі ярчэйшыя за травы, лісце і лясны подсціл. Жоўтыя, зялёныя, чырвоныя, вішнёвыя, бардовыя, ліловыя... З 60 разнавіднасцей сыраежак, што растуць у нашых лясах, атрутных няма. Лічаць, што для смажання лепш падыходзяць сыраежкі святлейшыя, а для засолкі — з цёмнымі капялюшыкамі.

Вялікімі калоніямі размясціліся залаціста-рыжыя лісічкі. Яны ўсе цэленькія, моцненькія, не аб'едзеныя смаўжамі і чарвямі.

Многа ў лесе маслякоў — невялікіх грыбоў з каўпакападобным капялюшыкам. Асабліва яны прыгожыя, калі маладыя. Пасля цёплага дожджыку вялікія сямейкі маслякоў «выбягаюць» на палянкі, з'яўляюцца ўздоўж дарог, канаў.

Асаблівай пашанай у грыбнікоў карыстаюцца рыжыкі. Аранжава-чырвоныя прыгажуны ў рыжых, акуратных, роўных капялюшыках — лепшыя грыбы

для засолкі. У маладых капялюшык слаба выпуклы, ён робіцца лейкападобным пазней. Ножкі ў рыжыка параўнаўча кароткія. Збіраюць гэтыя грыбы ў лісцевых і хваёвых лясах, на палянах і ўзлесках.

Вельмі падобныя на рыжыкаў ружаватыя, пушыста-валасістыя ваўнянкі ў капялюшыках з загнутымі краямі. Большасць грыбнікоў грэбуе імі, а дарэмна. Гэта прыдатныя да яды грыбы.

У дваццатых чыслах жніўня з бяроз і ліп злятаюць першыя жоўтыя лісточкі. Пачынаецца лістапад. Канчаецца лета. А подых восені ўсё бліжэй і бліжэй. Не-не ды перападуць ноччу лёгкія замаразкі, з кожным днём становіцца ўсё больш жоўтых пасмаў у бяроз, ды і ў кроне асіны з'явіўся барвовы ліст. На світанку халадней. Камары, якія надакучалі ўсё лета, нечакана зніклі. Ідуць апошнія тыдні лета, поўныя хараства і шчодрасці. У іх ёсць і цяпло ўжо не такіх доўгіх дзён, і чыстая прахалода яркіх зорных начэй, і гушчыня малочных ранішніх туманӑў. Усе колеры і пахі лета і восені змяшаліся ў гэтыя дні.

Збіраюцца ў вялікія чароды насякомаедныя птушкі. Хутка яны адправяцца ў далёкую дарогу. Першымі ў шлях збіраюцца стрыжы. Перад адлётам яны, сабраўшыся ў вялікія чароды, вядуць сябе вельмі шумна. То з пранізлівым крыкам маланкава ўзвіваюцца ўверх, то каменем падаючы ўніз, паспяваюць у некалькіх сантыметрах ад зямлі змяніць кірунак і пранесціся над самай зямлёй, ледзь не кранаючы яе доўгімі вострымі крыламі. Застаецца толькі здзіўляцца, як яны не налятаюць адзін на аднаго і на сцены хат, ствалы дрэў. Праходзіць 1—2 дні, і стрыжы знікаюць.

Заняты зборамі ў далёкі шлях і ластаўкі. Яны таксама паводзяць сябе ў гэты час незвычайна шумна. Шчабечуць, пералятаюць з месца на

месца, ганяючыся адна за адной у паветры. Стаміўшыся, рассаджваюцца на правадах. Але і тут узнікаюць спрэчкі: нехта заняў нечае месца, нехта некага спіхнуў. Пройдзе некалькі дзён, і ластаўкі паляцяць у вырай.

Часта разам з ластаўкамі і стрыжамі ляцяць уначы і ... кажаны. Днём яны адпачываюць у дуплах, шпакоўнях, займаючы іншы раз у абрывістых берагах норы ластавак-берагавушак. У гэты час у парках можна назіраць цікавую з'яву. З лятка шпакоўні звешваецца ўніз цёмная жывая гронка. Чапляючыся лапкамі адзін за аднаго, кажаны стараюцца ўціснуцца ў шпакоўню. Гэта чарада пралётных кажаноў, якія, адпачыўшы за дзень, вечарам зноў крануцца ў сваё далёкае падарожжа. Зімаваць яны будуць у пячорах Заходняй Еўропы.

У жніўні можна бачыць вялізныя чароды шпакоў. Здаецца, што нясецца па небе лёгкае воблачка. Неўзабаве, нібы па сігналу, яно мяняе кірунак, паварочваецца і спускаецца на зямлю. Раптам зноў усе адначасова ўзлятаюць. Пад вечар птушкі вяртаюцца і ўладкоўваюцца на начлег на дрэвах і хмызняках.

У пачатку верасня шпакі таксама паляцяць у вырай. Следам за шпакамі пачынаюць пакідаць родныя гняздоўі і іншыя птушкі. Па адной адбудуць у чужыя краі зязюлі, спачатку старыя птушкі, а за імі «падкідышы», якія паспелі падрасці. Да канца жніўня адляцяць івалгі, лелякі і рэшта кулікоў. Раней адлятаюць ад нас тыя птушкі, якія вясной прылятаюць у родныя мясціны апошнімі.

Вялікімі чародамі збіраюцца на рабінах дразды. Шумлівыя птушкі абляпілі самыя буйныя дрэвы. Яны зрываюць ягады і прагна іх паядаюць, скідваючы рэшту на зямлю. Наеўшыся, скачуць па сцежках, сярод ламачча, на лясных палянах,

пакідаючы памёт у самых разнастайных месцах, а з ім і насенне рабіны.

Перайшлі на корм ягадамі птушаняты глушца, цецерука, рабчыка. Глушаняты перабраліся ў сасновыя бары, дзе ласуюцца суніцамі. Цецеручаняты кормяцца брусніцамі, але і ад суніц не адмаўляюцца. У выпадку небяспекі яны з шумам узлятаюць. Варта толькі птушаняці дабрацца да бліжэйшага дрэва, як яно адразу ж хаваецца ў суччы, галінах і замірае.

У дарослых вадаплаўных птушак — качак і гусей — заканчваецца лінянне. З крылаў выпадае адначасова ўсё пер'е, і пакуль не вырасце новае, птушкі лятаць не могуць. Таму з надыходам лінняння яны хаваюцца ў густыя, непраходныя для чалавека зараснікі чароту і трысця. Падрастаюць і ўзнімаюцца на крыло выводкі качак і гусей. Да сярэдзіны жніўня маладняк дасягае памераў бацькоў. У гэты час пачынаецца паляванне на вадаплаўную дзічыну.

У лесе можна ўбачыць маленькіх, з прыгожым узорам на спіне нованароджаных гадзюк. З'яўляюцца дзіцяняты ў жывароднай і спрытнай яшчарак, у апошняй яны выходзяць з яец.

Калі вы хочаце злавіць яшчарку і хапаеце за хвост, то яна пакідае яго і знікае ў каранях хмызнякоў. Якая нечаканасць — у вашых руках толькі хвост, які сутаргава звіваецца.

Што адбылося?

У працэсе эвалюцыі ў яшчаркі выпрацавалася асаблівае засцерагальнае прыстасаванне, якое мае ў навуцы назву «аўтатомія», г. зн. самакалечанне, міжвольнае рэфлекторнае адламванне хваста. Дастаткова невялікага болевага раздражнення, каб хвост у выніку канвульсіўнага скарачэння мышцаў абламаўся, прычым пасярод аднаго з пазванкоў.

Адкінуты кавалак хваста пэўны час можа захоўваць рухомасць. У прыродзе іншы раз можна спаткаць яшчарак з двума хвастамі. Гэта адбываецца ў тым выпадку, калі драпежнік, схапіўшы яшчарку, раскрышвае пазванок на дзве часткі. У выніку замест аднаго вырастаюць два невялікія хвосцікі.

Дзіцяняты пушных звяроў: лісіцы, куніцы, тхара, гарнастая, ласкі — падросшы, яшчэ трымаюцца каля бацькоў, якія даюць ім апошнія «ўрокі» адшукання і здабычы корму, вучаць, як засцерагчыся ад вострых іклаў драпежнікаў і стрэлаў паляўнічага. Але недалёка той дзень, калі дзіцяняты, якіх ужо цяжка будзе адрозніць ад бацькоў, назаўсёды пакінуць сваё логава і пачнуць жыць самастойна.

У вячэрнім змроку і ў начной цемры жнівеньскага лесу чуецца выццё ваўка. Як і кожны дзікі



**Лясная куніца з вывадкам.**

звер, воўк вельмі скупы на голас. Выключэнне — выццё на логавах восенню, дзе кожны член сям'і вые па-свойму. Воўк-бацька вые грозным басам, ваўчыха — тэнарам, а нявопытныя ваўчаняты то вішчаць, то выюць з падбрэхам. Гэтыя воўчыя «канцэрты» азначаюць, што воўчая гайня адпраўляецца на паляванне, дзе мацёрыя звяры будуць вучыць маладых нападаць на ахвяры.

Выццё — папярэджанне для іншых, што гэты ўчастак лесу заняты. З дапамогай голасу воўк адшуквае сабе пару, злучаецца з ваўчанятамі, якія адбіліся ад гайні. Выццём воўк-бацька склікае сям'ю на здабычу і выклікае на бойку саперніка.

Воўчае выццё чуваць у лесе за 2 км, але самі звяры чуюць яго на значна большай адлегласці.

Гэта на дзіва спрытны і вынослівы звер, разумная і смелая жывёла. Чуццё, зрок і асабліва слых развіты ў яго выдатна. Нездарма ён такі назіральны і зоркі. Акрамя гэтага, ён валодае зайздроснай вытрымкай. Воўк рухаецца бясшумна, не выдаючы сябе ні дыханнем, ні хрустам галін. Ён пастаянна напагатове: заўважыць чалавека заўсёды раней, чым той убачыць звера. Калі чалавек не ўзброены, воўк можа проста не звярнуць на яго ўвагі і спакойна працягваць свой шлях.

Здаўна змрочная слава спадарожнічае зверу. Няма, відаць, іншага звера, якога б чалавек узнагародзіў такой колькасцю эпітэтаў. Тут і шэры разбойнік, і біч жывёлагадоўлі, і людаед, і, нарэшце,— санітар лесу. Дык хто ж ён на самай справе?

У гады аднаўлення народнай гаспадаркі, пасля грамадзянскай вайны, краіна галадала, і ў гэты цяжкі час, як сведчаць архіўныя дакументы,— «у дзесяці акругах Беларусі ад ваўкоў загінула больш за 10 тыс. коней, 3 тыс. кароў і 20 тыс.

авечак». Зразумела, тады не магло быць і гаворкі аб захаванні гэтага драпежніка. У трыццатых гадах нават былі такія лозунгі, як «Прызнаць барацьбу з ваўкамі ўдарнай барацьбой» або «Да канца пяцігодкі — ніводнага ваўка». Як бачыце, пытанне ставілася ў той час аб поўным яго знішчэнні. Была і іншая, не менш важная, прычына такога жорсткага прысуду. Толькі ў 1925 г. у Беларусі было зарэгістравана 168 нападаў ваўкоў на людзей.

Перад Вялікай Айчынай вайной у нашай краіне налічвалася каля 100 тыс. ваўкоў. За гады вайны іх стала значна больш.

У пасляваенныя гады зноў гінулі ад ваўкоў каровы і коні, свінні і авечкі, і, галоўнае, зноў гінулі людзі. Менавіта ў гэтыя гады воўк быў аб'яўлены па-за законам, яго дазволена было знішчаць усімі сродкамі і ў любы час. За здабычу звера дзяржава стала выплачваць прэміі. На дапамогу паляўнічым прыйшла тэхніка і хімія. Ваўкоў атручвалі, стралялі з самалётаў. Больш за ўсё іх знішчылі ў 1947—1953 гг. Ваўкоў стала менш. У многіх цэнтральных абласцях яны зніклі зусім або сталі сустракацца вельмі рэдка. Яны засталіся толькі ў некаторых раёнах Сібіры, Далёкага Усходу, тундры і лясах Поўначы.

У пасляваенны перыяд у Беларусі было да 8 тыс. ваўкоў. Паляўнічыя штогод адстрэльвалі 2—3 тыс. гэтага драпежніка. Становішча тады было такім, што людзі баяліся выходзіць па адным нават за аколіцу. Паляванне на ваўкоў усяляк заахвочвалася. У выніку актыўнай барацьбы з драпежнікамі воўчае пагалоўе зменшылася да 400—500 галоў на ўсю рэспубліку.

Дзесяць гадоў таму назад у адносінах чалавека да ваўка настаў новы этап. Разгарнулася кампанія ў абарону ваўка. Да яго пачалі ставіцца як да саніта-

ра лесу. Лічылася, што ён нападае толькі на хворых і слабых жывёл, а здаровых не чапае. Пісалі, што трэба спыніць выдачу прэмій за адстрэл ваўкоў, забараніць на іх паляванне. Гэта адразу ж адбілася на хуткім аднаўленні яго пагалоўя ў рэспубліцы. Мноства корму, аслабленае паляванне прывялі да таго, што замест звычайных 5—6 шчанят ваўчыца стала прыносіць па 10—12. Воўчыя гойні пачалі расці. Цяпер у Беларусі жыве звыш 4,5 тыс. ваўкоў.

Воўк сапраўдны драпежнік. Цяжка пералічыць усіх звяроў, якія могуць стаць яго ахвярай. Гэта ласі, алені, казулі, дзікі, грызуны. Воўк не ўпусціць выпадку забіць лісіцу ці янота, іншы раз нападае нават на мядзведзя. Але асабліва дастаецца ад яго свойскім сабакам. Страшная воўчая хватка за горла

Паляванне ваўкоў.



ў адзін момант абрывае жыццё нават буйнога звера.

Воўк вельмі пражэрлівы. Ен можа з'есці адразу да пуда мяса, а потым доўга абыходзіцца без яды.

Воўк да нашага часу з'яўляецца для чалавека загадкай. Напрыклад, чаму ён не нападае на свойскую жывёлу паблізу свайго логава? Як ваўкі сумесна заганяюць лясного велікана лася, быстраногіх лісіцу і зайца? Чаму воўк іншы раз знішчае больш свойскіх жывёл, чым можа з'есці?

Вучоныя лічаць, што ні адзін звер, акрамя ваўка, не змог бы вытрымаць такога шматвяковага ганення і даўно б знік на зямлі. А воўк жыве, і нават пры спрыяльных умовах пагалоўе гэтага звера хутка павялічваецца.

Спыніць барацьбу з ваўкамі ў Беларусі, таксама як і ва ўсёй нашай краіне, пакуль нельга, таму што шкода, якую наносяць гэтыя драпежнікі, яшчэ значная. Дастаткова сказаць, што кожны год калгасам і саўгасам Дзяржстрах кампенсуе каля 100 тыс. р. за страты, якія нанеслі ваўкі. У той жа час не пастаўлена задача поўнага знішчэння гэтага звера. У лясах яшчэ ёсць глухія, цяжкадаступныя для чалавека месцы, свайго роду «запаведнікі» для ваўкоў, дзе іх ніхто і нішто не трывожыць, дзе ёсць умовы для захавання гэтага драпежніка як біялагічнага віду ў прыродным біяцэнозе. Праўда, і там чалавек павінен назіраць і кантраляваць стан пагалоўя звера, каб гэтыя драпежнікі не наносілі шкоды жывёлагадоўлі і паляўнічай гаспадарцы рэспублікі.

# ЛЯЦЯЦЬ ПЕРАЛЕТНЫЯ ПТУШКІ

Цудоўная, непаўторная пара — залатая восень. Яна здзіўляе багаццем фарбаў. Бледна-жоўтае лісце беластволай бярозкі чаргуецца з аранжава-бурым лісцем дубу, жоўта-чырвоным грабу і клёну. Асіна звяртае на сябе ўвагу барвова-чырвоным лісцем. Гарыць пунсовым полымем лісце брызгліны. На берагах рэк, у рэчышчах, на ўзлесках кідаюцца ў вочы чырвоныя ягады каліны і шыпшыны. Разнастайнасць фарбаў і адценняў залатой восені робіць незабыўнае ўражанне.

Стаяць цёплыя сухія дні бабінага лета. У паветры плавае тонкая, серабрыстая, ліпкая павуціна. Гэта робяць свае асеннія пералёты маленькія перасяленцы — павучкі. Днём бывае іншы раз нават горача, але ночы халодныя. Зніклі камары. Халады дзейнічаюць і на іншых насякомых. Некаторыя з іх здранцвелі, схаваўшыся ў зацішныя месцы. Большасць матылёў забралася пад кару дрэў і ў іншыя сховішчы. Пад карой спарахнелых дрэў лёгка адшукаць жукоў, якія заснулі на зіму.

Першыя начныя замаразкі выклікае лістапад. Жоўтае, бурае, чырвонае, карычневае і аранжавае лісце ціха апускаецца на зямлю.

Каля старога спарахнелага пня раскватаравалася вялікая сям'я светла-карычневых апенек. Буйныя і зусім маленькія, яны абляпілі ўвесь пень. Нягледзячы на свой несамавіты выгляд, апенькі прываблiваюць грыбнікоў. Умела прыгатаваныя, яны вельмі смачныя.

Раніцай у лесе стаіць туман. Касыя прамяні сонца працінаюць малочную смугу, надаючы лесу казачны выгляд. У гэты час высока ў небе раздаюцца крыкі жураўоў. Яшчэ зусім нядаўна на тэле-

графных правадах, быццам адпачываючы перад далёкай дарогай, сядзелі сотні ластавак. Цяпер яны даўно ў дарозе.

Днём і ноччу, раніцай і вечарам у паветры беспераnынны рух. Чарада за чарадой адлятаюць у вырай крылатыя падарожнікі. Птушкі кожнага віду ляцяць па-рознаму. Быццам цёмныя хмары, пралятаюць вялікімі шчыльнымі чародамі берасцянкі. Невялікімі групкамі і чародкамі адпраўляюцца ў дарогу мухалоўкі, сітаўкі, пеначкі і іншыя дробныя насякомаедныя птушкі. Услед за імі ляцяць сівавароңкі, удоды, івалгі. Касяком пралятаюць гусі, косым шнурам — лебедзі. Але не ўсе птушкі ляцяць чародамі. У адзіночку адлятаюць зязюлі, ястрабы, лелякі. Вось як апісвае пералёт птушак нямецкі арнітолаг І. Штэйнбахер: «Беспераnынным і бясконцым патокам, незлічонымі чародамі пралятаюць уюркі, жаваранкі, шпакі, вароны, пясочнікі, галубы і драпежныя птушкі. Многія назаўсёды захаваюць у памяці ноч ля маяка на ўзбярэжжы Паўночнага мора ў час пералёту птушак: у белым святле маяка, як іскры, раптоўна пачынаюць зіхацець птушкі, іх становіцца ўсё больш; гучныя і меладычныя, як гукі флейты, раздаюцца галасы начных падарожнікаў. А калі магічнае ззянне над цёмным морам прыцягне ўвагу сваімі чарамі тысячы птушак, іх крыкі зліваюцца ў шматгалосы хор. Гэты малюнак робіць моцнае ўражанне, і не трэба быць аматарам прыроды, каб апынуцца ва ўладзе сапраўднага «цуда пералёту птушак».

Большасць птушак, жыхароў халодных і сярэдніх шырот, у канцы лета і восенню пакідаюць наседжаныя месцы і адпраўляюцца ў працяглыя падарожжы да зімовак. Паколькі ў гэтых вялікіх перамяшчэннях удзельнічае вялікая колькасць крылатых насельнікаў лясоў, палёў і вадаёмаў, то па сваіх маштабах

пералёты — сапраўды грандыёзная з'ява прыроды. Гэтыя штогадовыя пералёты, звязаныя з пэўнымі сезонамі года, называюцца сезоннымі міграцыямі. Яны здзіўляюць не толькі сваімі маштабамі, але і складанасцю. Кожны від птушак робіць свае пералёты ў пэўныя тэрміны.

Дзе ж зімуюць і куды адлятаюць нашы пералётныя птушкі? Даведаліся аб гэтым вучоныя пры дапамозе кальцавання.

Метад кальцавання атрымаў шырокае распаўсюджанне амаль ва ўсіх краінах зямнога шара. У наш час створана мноства спецыяльных арніталагічных станцый, задача якіх — правядзенне масавага кальцавання. Арганізацыю кальцавання птушак і мечанне звяроў у нашай краіне каардынуе Цэнтр кальцавання Акадэміі навук СССР. У Савецкім Саюзе


Кнігаўка.

з 1925 па 1984 г. было акальцавана да 5 млн птушак, сярод якіх першае месца займаюць вераб'іныя (больш за 1 млн), г. зн. больш паловы ўсіх акальцаваных, на другім месцы — чайкі, а на трэцім — гусіныя. Цяпер толькі ў Беларусі акальцавана да 5 тыс. птушак.

Дзе-небудзь за межамі нашай Радзімы зловяць акальцаваную птушку. Прачытаюць на кальцы надпіс «Масква» і адправяць гэта кальцо ў Маскву. У сталіцы нашай Радзімы пры Акадэміі навук СССР, як мы ўжо адзначалі, ёсць Цэнтр кальцавання, куды прыходзяць пісьмы з паштовымі маркамі самых розных краін. У гэтай установе прачытаюць пісьмо, на якой бы мове яно ні было напісана, паглядзяць на нумар дасланага кальца і даведаюцца, дзе і калі была акальцавана гэта маленькая падарожніца.

Дзякуючы кальцаванню стала вядома, што ластаўкі, буслы, чаплі, якія летам жывуць у Беларусі, на зіму адлятаюць у Афрыку і зімуюць у Конга, Радэзіі, Эфіопіі. Нашы шпакі зіму праводзяць на ўзбярэжжы Міжземнага мора: у Італіі, Францыі, Іспаніі, а таксама ў Паўночнай Афрыцы, у Тунісе, Алжыры, Марока.

Шэрая мухалоўка знойдзена на зімоўцы ў Партугаліі, гракі — у Бельгіі, Галандыі, Германіі, а маленькая пеначка адлятае нават у Індакітай.

Для большасці насякомаедных птушак Беларусі і, як мы ўжо гаварылі, для некаторых відаў рукакрылых характэрны агульны кірунак асенніх пералётаў. Шпакі, што гняздзяцца ў Беларусі, у час асенніх пералётаў дасягаюць у пачатку кастрычніка Бельгіі, у канцы месяца — Францыі і Італіі, а ў першыя дні лістапада — Іспаніі. На зімоўцы шпакі сустракаюцца на паўночным усходзе і поўдні Еўропы, а таксама ў Тунісе. Дразды (пеўчы і рабін-

нік) на зімоўцы сустракаюцца на ўзбярэжжы Міжземнага мора (Францыя, Італія, Алжыр). Кругалоўкі, якія гняздзяцца ў наваколлях Віцебска, таксама зімуюць у Італіі.

Акрамя шляхоў пералётаў, у насякомаедных птушак і рукакрылых супадаюць і тэрміны пералётаў. Вясенні прылёт у Беларусь ластавак і стрыжоў, напрыклад, пачынаецца з канца красавіка і цягнецца да сярэдзіны мая, а асеннія міграцыі пачынаюцца з канца жніўня і заканчваюцца ў верасні. Тыя ж тэрміны вясенніх і асенніх пералётаў адзначаюцца і ў буйнога кажана — рыжай вячорніцы. Не выпадкова назіраюцца сумесныя пералёты птушак і кажаноў. У гарах Сібіу (Румынія) у верасні 1945 г. назіраліся тысячныя чароды кажаноў, якія ляцелі на поўдзень разам са стрыжамі, а ў 1957 г.— чароды ў 150—200 кажаноў, якія ляцелі разам з ластаўкамі. Свае сезонныя міграцыі рукакрылыя робяць у асноўным ноччу, але іншы раз пры спрыяльных умовах надвор'я яны могуць рабіць пералёты і днём. Бывалі выпадкі, калі ў пасткі, прызначаныя для адлову птушак з мэтай кальцавання, разам з пералётнымі птушкамі траплялі і кажаны.

Вучоныя ўстанавілі, што дробныя вераб'іныя птушкі восенню ляцяць з хуткасцю 30—62 км у суткі. Зімуюць яны пераважна за 2000 км ад месц свайго гнездавання, у краінах Заходняй Еўропы. Пры сярэдняй хуткасці (30—50 км/г) яны праз 50 гадзін былі б ужо на месцы. Аднак асноўная маса птушак гэты шлях пераадольвае прыкладна за 50—60 дзён. Відаць, птушкі могуць захоўваць адзначаную хуткасць толькі некалькі гадзін. Пераважная большасць дробных насякомаедных птушак мігрыруе толькі ноччу, днём жа іх палёт перапыняецца больш ці менш працяглымі прыпынкамі на адпачынак і кармленне. Даныя кальцавання

сведчаць аб тым, што шлях птушак ад месц гнездавання да зімовак няроўны. У час пералётаў яны прытрымліваюцца сваіх улюбёных угоддзяў, вадаплаўныя — далін рэк, ланцугоў азёр, марскіх узбярэжжаў, лясныя — узлескаў, пералескаў, хмызнякоў.

Пры дапамозе кальцавання вучоныя ўстанавілі, што ў птушак існуе прыхільнасць да месц гнездавання. Вясной яны вяртаюцца ў гэтыя месцы з розных месц зімоўкі. Гэту здольнасць называюць «гнездавым кансерватызмам», «інстынктам дому», «пачуццём напрамку».

Трэба адзначыць, што вучоныя спрабавалі растлумачыць здольнасці птушак да арыентацыі. Праводзячы доследы з маладымі паштовымі галубамі, англійскі вучоны Мэцьюз устанавіў, што іх

Акальцаваная начніца.



здольнасць арыентавацца залежыць ад стану надвор'я. У ясны сонечны дзень адхіленні ад правільнага шляху не перавышаюць 41—47°, а пры пахмурным небе ўзрастаюць да 78—93°. Гэта навяло вучонага на думку, што птушкі здольны арыентавацца па сонцы. Бо толькі ведаючы вышыню сонца, можна вылічыць шырыню і даўжыню. Праўда, чалавеку для такога роду вылічэння неабходны карты, прылады, табліцы. Мэцьюз жа лічыць, што галубы шырыню і даўжыню могуць вызначыць інстынктыўна, карыстаючыся толькі сваім «зрокавым апаратам» і пачуццём дакладнасці «часу», уласцівым птушкам. «Унутраны гадзіннік» дазваляе птушкам пры дапамозе гармонаў вызначаць час сутак і дні года, г. зн. служыць самым важным інструментам птушынай «навігацыі». Птушкі запамінаюць каардынаты сваёй галубятні. Апынуўшыся ў незнаёмых месцах, яны аўтаматычна вызначаюць розніцу ў каардынатах і гэтак жа аўтаматычна выбіраюць патрэбны ім кірунак.

Спачатку многія вучоныя да такога меркавання аднесліся скептычна. Ім здавалася малаверагоднай здольнасць птушак да такіх складаных разлікаў. Цяпер гіпотэза сонечнай арыентацыі прызнана большасцю вучоных-арнітолагаў.

Калі шляхі пералётаў птушак вывучаны даволі добра, то кірунак міграцый кажаноў можна ўявіць толькі ў самых агульных рысах. Цікава адзначыць, што сезонныя пералёты рукакрылых і насякомаедных птушак маюць многа агульнага. Гэта не выпадкова, бо ў выніку агульнасці харчавання тыя і другія займаюць адну экалагічную нішу. Таму знікненне лятаючых насякомых у халодны перыяд з'яўляецца першапрычынай узнікнення і спадчыннага ўмацавання пералётаў у кажаноў. Сезонныя міграцыі ў птушак і рукакрылых — біялагічнае прыстасаван-

не арганізма да розных умоў жыцця, якія рэзка могуць змяняцца.

Чароды птушак усё ляцяць і ляцяць, развітваючыся з роднымі мясцінамі.

Але што гэта? Ці гэта нам здалося? Чаму на балоце па-веснавому затакавалі цецерукі? Няўжо яны не ведаюць, што цяпер не вясна, а восень?

Вядома, не. Справа ў тым, што цецерукі такуюць і восенню. Праўда, асенняе такавішча нельга параўнаць з веснавым. Яно значна карацейшае і не такое актыўнае. Цецерукі мармычуць на такавішчы, быццам дзякуюць адыходзячаму лету, якое стварыла спрыяльныя ўмовы, каб яны змаглі вывесці і выкарміць птушанят.

Уранку і ўвечары на адкрытых лясных палянах або ў рэдкіх маладняках чуецца адрывістае і глухое

Алені-рагачы.



рыканне — «стогны» самцоў ласёў. Алені, закінуўшы разгалістыя рогі на спіну, то рыкаюць, то «стогнуць», то выдаюць трубныя гукі. Калі «стогн» лася ў ціхае надвор'е чуваць прыкладна за 0,5 км, то густы, гучны рык аленя — за 1,5—2 км. Гэта пачаўся шлюбны перыяд у ласёў і аленяў. Да гэтага часу ў іх заканчваецца развіццё і рост рагоў. Самцы, якія ўсё лета трымаліся адасоблена, цяпер, упрыгожаныя «новымі» рагамі, адшукваюць самак. Часта паміж самцамі адбываюцца жорсткія стычкі. Саперніки б'юцца моўчкі. Чуваць толькі іх цяжкае дыханне ды глухі стук udaraў рагоў. Жывёлы робяцца мокрымі, ад іх ідзе пара, морды ў белай пене. Бойка цягнецца да таго часу, пакуль больш слабы не адступіць і не схаваецца ў начной цемры ночы. Пераможца некаторы час, цяжка дыхаючы, стаіць моўчкі, а затым урачыстым рыканнем апавяшчае жыхароў лесу аб сваёй перамозе.

Барсук навёў парадак у сваёй нары, насушыў і нацягаў у яе сухой травы, лісця, на якім будзе спаць доўгую зіму. Пад восень ён робіцца ўкормленым, маса яго павялічваецца на 4—6 кг. Уперадзе доўгая, халодная зіма, і ён робіць свае апошнія начныя прагулкі па лесе.

Надвор'е з кожным днём робіцца больш халаднейшым. Усё жывое рыхтуецца да сустрэчы маразоў.

# ПОЗНЯЯ ВОСЕНЬ

Позняя восень. Шэрая суцэльная заслона зацягнула ўсё неба. Нізка над зямлёй навіслі цяжкія цёмныя хмары. Па некалькі дзён запар імжыць нетаропкі дробны дождж. Лес стаіць не зварухнуўшыся. Навокал сыра, холадна, няўтульна. Дрэвы, хмызнякі, лясны подсціл — усё працята вільгаццю. Паветра насычана пахам прэлага лісця і грыбоў. Жоўтае, аранжавае, пурпуровае лісце перыстым тоўстым дыванам засцілае зямлю. Афарбоўка яго самая разнастайная: лісце клёну, бярозы і грабу — светла-жоўтае, дубу — бурае, вішні і рабіны — пунсовае, чаромхі — пурпурова-фіялетавае, асіны — аранжавае. Пазней за ўсіх захоўваюць зялёную афарбоўку бэз, вольха і вярба, але і ў іх у канцы кастрычніка з'яўляецца буравата-зялёнае адценне.

Здольнасць дрэў скідаць восенню лісце мае вялікае прыстасавальнае значэнне. Гэта дапамагае дрэвам пераносіць халады і «зімовую засуху». На працягу тысячагоддзяў дрэўныя пароды выпрацоўвалі гэту здольнасць.

Асеннія дажджы шчодра насычаюць глебу вадой, але яна з-за нізкай тэмпературы дрэнна засвойваецца каранямі раслін, таму расліны атрымліваюць мала мінеральных рэчываў. Калі з ахалоджанай глебы дрэва не будзе браць вільгаць, яно загіне. Тысячагоддзямі з году ў год паўтараецца «зімовая засуха», і лісцевыя дрэвы прыстасаваліся да яе, скідваючы лісце. У чаранках лісця ўтвараецца так званы раз'яднальны слой клетак, і ў гэтым месцы пад уплывам лёгкага ветрыку або нават пад уласным цяжарам адбываецца аддзяленне ліста ад галіны. Пройдзе час, струхлелае лісце ператво-

рыцца ў пласт перагною. Усё, што было страчана дрэвам, зноў да яго вернецца.

Халады дзейнічаюць і на насякомых. Матылькі: паўлінава вока, крапіўнік, мнагакветніца — залятаюць у цёмныя халодныя памяшканні — хлявы, гарышчы, скляпы. Там, склаўшы крылы, усаджваюцца на драўлянай столі або халодных скляпеннях і засынаюць. Сон іх неглыбокі. Калі іх крануць, яны прачнуцца, зляцяць з месца. Але ў хуткім часе зноў схаваюцца куды-небудзь. Калі тэрмометр апусціцца за нулявое дзяленне, здранцвелых насякомых можна спакойна браць у рукі. Яны не прачнуцца да таго часу, пакуль іх не адагрэеш.

Па схілах лясных яроў, паблізу ўзлескаў і лясных палян пад апалым лісцем хаваюцца на зіму лімонніца, жалобніца, адмірал і інш. Яшчэ адна прадстаўніца гэтага пярэстага сямейства — канаплянка — таксама не гіне восенню. Але яна не застаецца зімаваць у нашых краях, а, як пералётныя птушкі, ляціць на поўдзень за многія сотні кіламетраў. У дарослым стане зімуе толькі частка нашых матылёў. Многія іх віды праводзяць зіму ў стадыі вусеня. Усім вядомыя шкоднікі яблыкаў — вусені яблыневай пладажэркі абкукліваюцца толькі вясной, пасля зімоўкі. Вусені ліставёрткі з'яўляюцца асноўным кормам для сініц на працягу ўсёй зімы. Вусені баярышніцы зімуюць у агульных павуцінных гнёздах на галінах глогу і пладовых дрэў.

Пад карой напаўгнілых дрэў лёгка адшукаць заснуўшых жукоў. Многія насякомыя адкладваюць на зіму яйцы, а самі гінуць. У той жа час многія зімовыя яйцы насякомых для свайго далейшага развіцця павінны прайсці выпрабаванне холадам. Інакш яны гінуць. Дарослыя насякомыя таксама павінны прайсці выпрабаванне холадам. Хвойныя


Птушыныя кармушкі.

тлі, напрыклад, зімуюць седзячы на пупышках і кары, прыкрытыя толькі невялікім васковым выдзяленнем. Гэтыя малюсенькія насякомыя пераносяць самыя моцныя маразы.

У лесе з аднаго месца на другое пералятаюць чародкі сініц, чачотак, пішчух. Тут і вялікая сініца, і гаічка ў чорнай шапачцы, і чубатая сініца, якую празвалі грэнадзёркай. Іншы раз сустракаецца і даўгахвостая сініца. Сама яна маленькая, пухленькая, а хвост у яе доўгі, быццам ручка ад апалоніка. У некаторых месцах яе так і называюць: апалонік. У чарадзе сініц часта верхаводзіць дзяцел. Куды ляціць ён, туды і сініцы. Дзяцел дзяўбе кару, здабывае з-пад яе лічынак і жукоў-караедаў, а сініцы круцяцца тут жа і падбіраюць скінутых лічынак, жучкоў і іншую дробязь. У чарадзе сініц можна сустрэць і попаўзня. Як і дзяцел, ён шукае насякомых. По-

паўзень — адзіная птушка, якая лазіць па ствалах дрэў уніз галавой. Птушкі абмацваюць усе дрэвы, адшукваючы кольцы яец кольчатага шаўкапрада, яйцы тлі, маленькіх вусеняў, якія схаваліся ў расколінах кары, раздзёўбваюць павіслае на галінах пабурэлае, ссохлае, склеенае павуцінай лісце, у якім хаваюцца вусені матылёў баярышніцы і залатагузкі. Чым болей гасцяць у лесе сініцы, попаўзні і іншыя птушкі, тым менш застаецца на дрэвах насякомых.

Пуста і маўкліва цяпер у лесе, у парках і садах. Цяжка птушкам зімой адшукваць корм. Многія з іх пакідаюць лес і перабіраюцца бліжэй да жылля чалавека. Яны начуюць пад дахамі хат, у хлявах, а іншы раз нават у комінах.

Не забудзьцеся ў гэты час пра нашых крылатых сяброў. Падрыхтуйце для іх кармушкі. У бліжэйшым лесе можна адкрыць пункт падкормкі, уладкаваць там некалькі кармавых столікаў са стрэшкай.

За кароткі зімовы дзень птушкі ў лесе не паспяваюць наесціся. Пры штодзённым недаяданні, асабліва ў марозныя, ветраныя дні, яны часта гінуць. Каб не дапусціць гібелі птушак, неабходна іх падкормліваць. Атрымаўшы раніцай «снеданне», птушкі, пакінуўшы кармушку, працягваюць пошукі ў лесе ўсемагчымага натуральнага корму.

Перш чым адкрыць лясную «сталовую», падумайце, узважце, ці здолееце вы забяспечыць рэгулярную падкормку птушак? Ці хопіць у вас корму, каб «сталовая» «працавала» з восені да вясны бесперапынна, а корм у кармушкі клаўся рэгулярна? Да птушынай «сталовай» у лесе павінна быць пракладзена сцежка, сюды трэба прыходзіць не радзей, чым тры разы ў тыдзень і, вядома, не з пустымі рукамі. Прыносьце з сабой не менш, чым 0,5 кг

рознага корму. Сланечнік і каноплі — універсальны корм для ўсіх птушак. Акрамя гэтага, можна выкладваць насенне вольхі, бярозы, ясеню, клёну, ліпы, ягады рабіны, каліны, бузіны, глогу, ядлоўцу, збожжавыя: авёс, проса, ячмень і інш. Восенню нарыхтуйце венічкі з конскага шчаўя, лебяды, чартапалоху, крапівы. Венічкі з гэтага пустазелля пажадана «саджаць» у снег, далей ад агародаў і пасеву. Калючыя галоўкі лопуху зручна захоўваць, зрабіўшы з іх вялікі, круглы шар. Не выкідвайце насенне гарбуза, кабачка, кавуна, дыні. Іх неабходна прамыць, высушыць і захоўваць (толькі ў папяровых пакетах) для падкормкі птушак.

Не здзіўляйцеся, калі да вас у «сталовую» будзе прыходзіць вавёрка. Для яе назапасьце жалуды, лясныя арэхі і шышкі яліны і сасны. Не адмовяцца вавёркі і ад сухіх грыбоў, падвяленых ягад рабіны і нават ад чорных сухароў. А ўжо семкі для іх проста ласунак.

У парку або ў садзе можна выкарыстаць у якасці кармушкі бутэльку, перакуленую ўніз рыльцам і прывязаную да ствала. Корм з яе высыпаецца па меры з'ядання яго птушкамі. Бутэльку з мэтай маскіроўкі загарнуць у бяросту, газету, рыззё і інш.

Корм неабходна выкладваць штодзённа, з самай раніцы. Спачатку да вас на кармушку будуць прылятаць вераб'і і жаўтагрудыя сініцы, а затым і іншыя птушкі, якія засталіся зімаваць.

Вось і завіталі ў наш горад зімовыя вандроўнікі: чырванагрудыя снегіры і чубатыя амялушкі. Многа іх збіраецца на рабіне, абсыпанай ярка-чырвонымі зімовымі ягадамі. Побач са снегірамі на дрэве скачуць і дразды. Ім даўно ўжо пара ляцець на поўдзень, але яны не спяшаюцца. Пакуль многа ягад на рабіне, дразды жывуць спакойна: корм заўсёды побач. Калі ў гэты час пакласці на кар-

мушку гронку ягад рабіны і кавалачкі яблыка, крылатыя госці тут жа адгукнуцца на такое «запрашэнне». Палюбуйцеся прыгожымі птушкамі і парадуйцеся, што дапамаглі сваім крылатым сябрам.

Не здзіўляйцеся, калі зімой на кармушку прыляціць дзяцел. Нястомныя барабаншчыкі таксама сталі нярэдка з'яўляцца ў горадзе. Як і вялікія сініцы, дзятлы любяць сала, але не салёнае. Калі кавалачкі сала падвешаны на аборцы, то дзяцел ухопіцца за кавалачак, павісне на ім, як сінічка, і прымецца асцярожна падзёўбваць ласунак.

Сарокі і вароны таксама прылятаюць да кармушкі і перашкаджаюць «абедаць» іншым птушкам. Для іх можна асобна выкладваць кавалачкі хлеба, кашу і рэшткі са стала.

Сойкі таксама прылятаюць да кармушкі і адганяюць дробных птушак. Каб памірыць іх, пакладзіце ўбаку крыху жалудоў. Тады сойкі будуць круціцца каля іх. Яны вельмі любяць жалуды. Але іх трэба абавязкова раструшчыць, інакш сойкі хутка расцягнуць ваш пачастунак і схаваюць у свае кладоўкі.

Трэба наладзіць дзяжурства ў лясной «сталоўцы» і па чарзе ў любое надвор'е прыносіць птушкам корм. Тады вы ўбачыце лясных жыхароў. Вялікія сініцы вельмі даверлівыя і верныя птушкі. Дапаможаце вы ім перажыць цяжкі зімовы час, прывыкнуць яны да вашай падкормкі і не адляцяць ад вас вясной у лес.

Вельмі хутка вашы госці запомняць час, калі для іх «накрываюць стол», а калі вы будзеце спазняцца з пачастункам, яны могуць і настойліва клікаць вас. Асабліва моцна патрабуюць корму сойкі. З гэтымі крыкунамі заўсёды трэба быць вельмі ўважлівымі і ніколі не пакідаць без нагляду торбачку або кошычак з кормам — сойкі маланкава расцягнуць усе ласункі.

На палях і ў ярах збіраюцца вялікімі чародамі шэрыя курапаткі. Чым халадней, тым ахвотней яны падыходзяць да жылля, бліжэй да ржышча, прылятаюць карміцца нават на такі і гумны. На імшарах з'яўляюцца чародкі белых курапатак. Вандруюць па ельніках рабчыкі. Збіраюцца ў бярэзніках і алешніку цецерукі. Глушцы ўжо кормяцца брусніцамі і журавінамі. З поўначы да нас у Беларусь на зімоўку прылятаюць крылатыя драпежнікі: касматаногія канюкі і паўночныя віды соў.

Апошнія чароды шпакоў, драздоў, кулікоў (бакасаў і кнігавак) адлятаюць у вырай. У гэты ж час ляцяць праз Беларусь гусі, крыжанкі, чыркі, паўночныя качкі, гогалі, нырцы чубатыя і інш. Качкі заўсёды ляцяць моўчкі, а гусі — з гучным крыкам, якім яны як бы папярэджваюць, што адлятаюць ненадоўга і вясной абавязкова вернуцца назад, у родныя краі.

У кастрычніку, з надыходам асенніх халадоў, соні і аселыя кажаны пакідаюць дуплы і пачынаюць перасяляцца на зімовыя кватэры. Рукакрылыя — у памяшканні для агародніны (скляпы) і іншыя зацішныя куткі. Зімовыя сховішчы соняў часцей за ўсё размешчаны пад грунтам ляснога подсцілу і зямлі, пад каранямі, у кучах ламачча на глыбіні 30—40 см. Глыбокіх нор соні не рыюць, але ахвотна выкарыстоўваюць падземныя хады мышэй і палёвак, павялічваючы іх памеры і перабудоўваючы па свайму густу. Унутры яны будуюць зімовачнае гняздо, дастаткова вялікае і цёплае. Селячыся далёка ад жылля чалавека, соні могуць зімаваць на гарышчах, у свірнах, жывёлагадоўчых памяшканнях.

У зімоўцы рукакрылых і соняў многа агульнага. Тыя і другія восенню моцна тлусцеюць. Кажаны павялічваюць сваю масу за кошт падскурнага тлушчу на адну трэць, а соні амаль у два разы.

Перад спячкай соні становяцца падобнымі на футравы мяшочак, набіты тлушчам. З мяшочка тырчаць толькі ружовыя лапкі, тоўсценькі пушысты хвосцік і вострая сімпатычная, з вялікімі чорнымі вачамі, мордачка.

Кажаны і соні ўпадаюць у спячку, якая цягнецца ўвесь халодны перыяд года, з кастрычніка па красавік. Тэмпература іх цела набліжаецца да тэмпературы навакольнага асяроддзя. Адна з першых праяў зімовай спячкі ў іх — поўная адсутнасць харчовых рэфлексаў і спыненне кармлення. Дыханне робіцца нерэгулярным, з частымі паўзамі паміж удыхамі. Сэрцабіцце запавольваецца. Спячыя звяркі нерухомыя і халодныя. У рыжай вячорніцы ў актыўным стане тэмпература цела дасягае 37,9 °С, а ў спячцы апускаецца да 0,1 °С.

Соні ў дупле.



Такім чынам, здольнасць упадаць у здранцвенне — біялагічна мэтазгоднае засцерагальнае прыстасаванне, якое дае магчымасць пераносіць галодны час.

Кажаны зімуюць у адзіночку і невялікімі групамі. Учапіўшыся кіпцюркамі за драўляныя бэлькі або перакрыцці, яны вісяць уніз галавой або, заціснуўшыся ў якую-небудзь шчыліну, ляжаць нерухома. Узяўшы ў рукі халоднага звярка, можна падумаць, што ён мёртвы. Але праз 2—3 хвіліны, адагрэўшыся ў руках, ён імкнецца выбрацца з палону, пачынае тонка, пранізліва пішчаць. Выпушчаны звярок некаторы час лятае ў падвале або на гарышчы, а затым, прымацаваўшыся да чагонебудзь у цёмным кутку, зноў упадае ў спячку.

Соні зімуюць невялікімі групамі. Звычайна ў гняздзе спіць не больш 4—5 звяркоў. Кожны з іх скручваецца ў шчыльны шар так, што нос і лапкі аказваюцца прыціснутымі да брушка, а хвост ахоплівае гэты футравы клубок. У халодную зіму соні любяць збірацца ў цесны гурток. У літаратуры апісваецца выпадак, калі ў марозную зіму ў сховішчы спала 27 звяркоў.

Калектыўныя зімоўкі іншы раз заканчваюцца трагедыяй: асобіны, прачнуўшыся вясной або ў моцную адлігу першымі, папаўняюць свае энергетычныя страты, з'ядаючы сваіх суседзяў, якія не паспелі выйсці са стану спячкі. Часцей за ўсё гэта адбываецца ў асяроддзі лясных і садовых сонь.

А гэта што за звярок сядзіць амаль на самай макаўцы высокай сасны? Маленькі, папялісташэры, з доўгім пушыстым хвастом, ён старанна мые сваю мордачку. Пасля завяршэння туалету, стаўшы на заднія лапкі і ўважліва агледзеўшыся, ён скокнуў на зямлю. У час скачка паміж яго шырока раскінутымі ў бакі пярэднімі і заднімі

лапкамі раскрыліся ўздоўж тулава эластычныя скурыстыя перапонкі. Ператварыўшыся ў плюскаты квадрацік, звярок плануе ўніз, лёгка манеўруючы паміж сучкоў і галін. Здаецца, што звярок вось-вось прызямліцца на лясны подсціл. Але ля самай зямлі, рэзка ўзмахнуўшы пушыстым хвастом, ён імгнення мяняе курс і робіць пасадку на ствол суседняга дрэва, праляцеўшы ў паветры каля 50 м.

Вядома, гэта вавёрка-палятуха. Хто яшчэ з нашых звяроў, не лічачы кажаноў, валодае майстэрствам плануючага палёту? На тэрыторыі Беларусі палятуха вельмі рэдкі звярок. Ён сустракаецца ў некалькіх лясніцтвах на поўначы і ўсходзе Віцебскай вобласці, колькасцю не больш за 100 асобін. Вавёрка ўзята пад дзяржаўную ахову і занесена ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР.

Палятуха — выключна мілы і прывабны звярок. Знешне яна вельмі падобная на звычайную вавёрку, але значна меншая за яе і лягчэйшая амаль у 2 разы. Маса яе ўсяго 100—120 г. Доўгі, пушысты хвост часта перавышае даўжыню тулава. Вельмі рухомае цела сплюшчана. Параўнальна доўгія пярэднія чатырохпальцыя лапкі крыху карацейшыя за заднія, пяціпальцыя. Пальцы маюць кароткія, вострыя кіпцюркі, круты загін якіх дазваляе звярку зачапіцца за дрэва нават на вялікай хуткасці.

Галоўка палятухі невялікая, круглявая, з кароткімі вушамі без гронак, з вялікімі круглымі пукатымі вачамі чорнага колеру, што сведчыць аб яе начным спосабе жыцця. Корміцца ўсю ноч, адсыпаючыся днём у сваім схові́шчы.

Палятуха жыве ў дуплах розных дрэў, аддаючы перавагу дуплам асін. Іншы раз засяляе штучныя дуплянкі, развешаныя ў лесе для птушак. У адных дуплах яна жыве, у другіх ладзіць кладоўкі, дзе хавае каташкі бярозы і вольхі, маленькія шышкі

Вавёрка-палятуха.



лістоўніцы. Там, дзе мала дуплаватых дрэў, палятуха майструе круглае гняздо дыяметрам да 20 см. Сценкі яго даволі тоўстыя, да 4 см. Пры моцных маразах яна затыкае маленькую ўваходную адтуліну мохам і не пакідае сховішча некалькі дзён. У сапраўдную спячку звярок не ўпадае, хоць зімой пакідае сваё сховішча значна радзей за вавёрку. Футравае покрыва палятухі густое і шаўкавістае. Зімой яно зверху серабрыста-шэрае, іншы раз з цёмнай рабізной, летам — буравата-папялістае. Скурка вельмі тонкая, нетрывалая.

Да нашага часу ў «біяграфіі» палятухі ёсць свае тайны. Мы не ведаем, колькі прыплоду ў яе ў год, не ведаем аб колькасці нованароджаных у кожным вывадку.

Лясныя таямніцы чакаюць сваіх даследчыкаў.

Халады прымусілі схавацца амфібій і рэп-

тылій. Хвастатыя земнаводныя — трытоны, якія жывуць усё лета ў вадаёмах, зіму праводзяць на сушы пад пнямі, каранямі, у норках. У глыбокіх норах, у падземных пустотах, якія ўтварыліся ад згніўшых каранёў старых дрэў, пад вялікімі пнямі іншы раз збіраюцца на зімоўку да 100 змей, галоўным чынам гадзюк. Здаецца, што да іх у сховішча запаўзаюць вужы і нават яшчаркі. Па некалькі дзесяткаў жаб хаваецца ад халадоў у падземных сховішчах. Травяныя жабы, якія жывуць летам на сушы, зімуюць на дне вадаёмаў. Там, закапаўшыся ў глей, яны нерухома ляжаць да вясны.

З надыходам халадоў пачынаецца масавы ход рыбы на глыбіні, у зімовачныя ямы. Перад зімоўкай рыбы ўзмоцнена кормяцца, назапашваючы тлушч, які падтрымае іх на працягу доўгай зімы. Галавень, язь, карп, ёрш і іншыя віды рыб збі-



Летняе футра ласкі.



Зімняе футра ласкі.



Летняе футра гарнастая.



Зімняе футра гарнастая.

раюцца чародкамі і накіроўваюцца ў больш глыбокія месцы вадаёмаў. Пражэрлівы драпежнік — шчупак, рыхтуючыся да зімы, у чароды не збіраецца, а трымаецца ў адзіночку, палюючы на дробных рыбак сярод зараснікаў водных раслін. Але і яго халады прымушаюць адыходзіць углыбіню. Мянтуз з пахаладаннем вады выходзіць са сваіх летніх сховішчаў і пачынае блукаць у пошуках корму у больш мелкіх месцах. У сігавых рыб — ра-пушкі і рыпуса — у кастрычніку пачынаецца нераст, які зацягваецца да пачатку снежня. Рыхтуючыся да зімоўкі, рыба «апранае футра», г. зн. пакрываецца тоўстым слоем густой слізі, што служыць добрай перасцярогай ад пераахалоджвання. Чым бліжэй да зімы і чым халадней становіцца вада, тым менш рухомымі робяцца рыбы і тым менш корму яны спажываюць.

Пахаладанне выклікае лінянне ў пушных звяроў. Кароткае летняе футра змяняецца зімовым: густым, пушыстым, цёплым. Гарнастай і ласка амаль поўнасцю пераапрануліся ў зімовы ўбор. Жоўта-карычневыя летам, зараз яны робяцца цалкам белымі. Толькі кончык носа, хваста і вачэй у гарнастая засталіся чорнымі. У зайца-русака пабялелі бакі і брушка, а спінка ўсю зіму будзе шэранькай. Заяц-бяляк, апраўдваючы сваю назву, з шэрага ператварыўся ў белага. Яго цяжка будзе знайсці на снезе, і толькі чорныя кончыкі вушэй могуць выдаць яго прысутнасць. У маленькіх дзікоў (паласацікаў) зніклі светлыя палосы на спіне. Парасяты сталі брудна-шэрымі, падобнымі на сваіх бацькоў. Зніклі яркія светлыя плямкі і на скурках падрослых аленянят, казулянят.

З кожным днём халаднее. Сыплюцца на зямлю снежныя крупы. Зіма не за гарамі.

# ВЕЧАР ГОДА

Надышоў лістапад. Шэрыя хмары зацягнулі неба. Імжыць дробны, надакучлівы дождж. Нездарма гэты час называюць «гнілой восенню». Па прасёлачных дарогах, раскіслых ад доўгіх дажджоў, ні праехаць, ні прайсці. Надвор'е няўстойлівае. Холад змяняецца цяплом, снег — дажджом. Ранішнія замаразкі скавалі тонка́й ледзяной скарынкай лужы і канавы.

Світае позна. Рана пачынае цямнець. Не выпадкова ў народзе пра гэты месяц кажуць: «У лістападзе досвітак са змрокам сярод дня сустракаюцца».

Моцны вецер распранае дрэвы, зрываючы з іх апошняе лісце. Кружыцца лісце, апускаецца на мокрую, халодную зямлю, шчыльным і цёплым дыванам пакрываючы яе. Там, дзе гэты дыван сатканы з лісця дубу і клёну, яна не прамярзае нават у моцныя маразы. Пад ім знаходзяць прытулак тысячы насякомых. А пакуль няхай вецер буяніць паміж галін. Цяпер ён не толькі не страшны дрэвам, але нават патрэбны. Пры яго дапамозе крылатае насенне панясе парасткі жыцця.

Большасць раслін добра падрыхтавалася да зімы. Аднагадовыя травы, параскідаўшы сваё насенне, гінуць. Двухгадовыя і шматгадовыя прыстасоўваюцца да зімоўкі самымі разнастайнымі спосабамі. Травы пад снежным покрывам захоўваюць жыццядзейнасць сваіх пупышак, з якіх вясной з'явяцца новыя парасткі. Як водгулле далёкага мінулага, калі зямля была пакрыта трапічнай расліннасцю, захаваліся нашы вечназялёныя кусты — бруснічнік, багун, журавіны і некаторыя травы: падалешнікі і грушанкі. Вядома, іх лісце не можа быць вечназялёным, але яно трымаецца па 3—4 гады і паступова абнаўляецца. З зялёным лісцем зімуюць

светнік, званочкі, агаткі, ястрабкі, некаторыя асаковыя і злакі. Нарэшце, ёсць такія травяністыя расліны (ландыш, падбел, кураслеп, чартапалох, маркоўнік, цыкута, большасць нашых траў, у тым ліку і шматлікае палявое пустазелле), у якіх надземныя часткі на зіму адміраюць, а жыццё захоўваецца ў цыбулінах, карэнішчах або клубнях, схаваных у зямлі. Гэтыя расліны менш губляюць зімой вільгаці і цяпла, бо захоўваюць пад зямлёй толькі нязначную частку расліннай масы. Вясной або ў пачатку лета, выкарыстоўваючы запас пажыўных рэчываў, яны ідуць у рост і пачынаюць новы сезон свайго жыцця.

Для жыхароў лясоў і палёў надыходзіць галодная пара. А як яны рыхтуюцца перанесці гэтыя цяжкі і галодны для іх час?

«Кладоўка» саракуша.




«Кладоўка» сычыка.

Калі быць уважлівым, то можна адшукаць незвычайныя «кладоўкі» на невялікім участку лесу або поля, куды звяры і птушкі хаваюць свае запасы на зіму.

У дуплах, пад карой дрэў, а то і проста пад мохам можна знайсці кучкі спелых жалудоў або лясных арэхаў. Гэта «кладоўкі» соек або арэхавак. Арэхаўка можа за адзін раз перанесці ў ёмістай глотцы да 80 кедравых арэшкаў. Яшчэ з восені пад сучкамі, лішайнікамі і мохам сініцы хаваюць лічынак і вусеняў, а попаўзні — разнастайнае насенне дрэў і хмызнякоў. Хаваюць так, каб яны былі прыкметнымі толькі знізу. Так ім лягчэй адшукваць свае запасы, калі снег пакрые зверху ўсе сукі і галіны.

Восенню ў лесе іншы раз трапляюцца дзіўныя кусты глогу або цярноўніку. На калючках гэтых кустоў тырчаць мёртвыя насякомыя. Тут можна ўбачыць жука, яшчарку,

мыш і нават дробную птушку. Гэта «кладоўка» саракуша. Ен належыць да вераб'іных, г. зн. насякомаедных, але праяўляе драпежныя схільнасці. Злоўленую здабычу грызун забівае і наколвае на адну з калючак сваёй «кладоўкі», каб яе лягчэй было разадраць і з'есці: яго лапы не могуць, як лапы драпежнікаў, хапаць і трымаць ахвяру. Калі грызун сыты, здабыча наколваецца ў запас, хоць потым часта застаецца няз'едзенай — птушка любіць свежую здабычу. Вось чаму летнюю «кладоўку» можна знайсці і позняй восенню, калі саракушы даўно ўжо адляцелі на поўдзень. Зімой гэтай «кладоўкай» карыстаюцца іншыя жыхары лесу.

У дуплах і птушыных дуплянках іншы раз знаходзяць па некалькі дзесяткаў мёртвых мышэй і дробных птушак. Гэта «кладоўкі» самых маленькіх соў: касматаногага і вераб'інага сычоў. Аднойчы ў такое дупло вераб'іны сыч нацягаў 86 мышэй і землярыек. Часта попаўзні напаўняюць ліпавымі арэшкамі птушыныя дуплянкі да самага верху. Птушкі не запамінаюць свае «кладоўкі». Яны карыстаюцца кормам, які паблізу.

Калі раскапаць рыдлёўкай доўгі і звілісты ход крата, то можна знайсці запасы дажджавых чарвей. Яны жывыя, але не могуць рухацца (звярок зрабіў іх нерухомымі, укусіўшы за пярэдні канец цела), і зімой у крата заўсёды ёсць свежы корм. Іншы раз у «кладоўках» кратоў знаходзяць да тысячы дажджавых чарвей.

Умеюць захоўваць ахвяру жывой, але нерухомай тхары, норкі, гарнастаі. У іх норах можна знайсці многа жаб з перакушаным спінным мозгам.

А вось выдры і норкі, якія вядуць паўводны спосаб жыцця,— прыхільнікі свежай рыбы. Яны назапашваюць яе па 5—10 кг. Пасля першых начных

пахаладанняў пачынаюць напаўняць свае «кладоўкі» бабры. Яны падгрызаюць і валяць вербы, асіны, бярозы, таполі. Затым дзеляць тоўстыя галіны на даволі значныя кавалкі і па вадзе дастаўляюць да зімовачных нор або хатак. Тут галіны апускаюць у ваду каля берага, але на дастаткова глыбокім месцы і ўмацоўваюць, закопваючы тоўстыя канцы ў дно. Нарыхтоўваюць бабры і вялікія, багатыя крухмалам карэнішчы белых гарлачыкаў, касачоў. Кожную ноч на працягу ўсёй восені бабровая сям'я занята нарыхтоўкай корму, таму да зімы ў «кладоўцы» бывае назапашана 25—30 кубаметраў галін, карэнішчаў. Верхнія галіны такой кучы ўмярзаюць у лёд, ніжнія ляжаць на дне. Галодны бабёр нырае да запасаў, адгрызае кавалак галіны і вяртаецца з ім у сваё жыллё.

**Камера-«кладоўка» крата.**



Рыхтуючыся да зімы, вавёрка з восені пачынае хаваць у дуплы арэхі і жалуды. Нарыхтоўвае яна і грыбы, імкнучыся пасадзіць іх у развілінах сукоў і галін так, каб шапка грыба ляжала зверху на абодвух сучках. Высахлы грыб прыліпае да сука, зморшчваецца і моцна трымаецца на ім усю зіму. Падлічана, што кожная вавёрка назапашвае на зіму некалькі соцень грыбоў.

Да кілаграма бярозавых і альховых каташкоў нарыхтоўвае ў сваіх дуплах палятуха.

Робяць запасы на зіму і мышападобныя грызуны. Яны трымаюць першынство сярод усіх звяроў па колькасці і разнастайнасці запасаў, якімі напаўняюць восенню свае «кладоўкі». Гэта не выпадкова, бо грызуны, якія кормяцца насеннем і пладамі, у першую чаргу залежаць ад хістанняў тэмпе-

**Зімовыя запасы палёвак.**



ратуры навакольнага асяроддзя ў розныя поры года. Таму ў іх выпрацоўваецца інстынкт нарыхтовак — назапашвання корму, каб перажыць галодныя для іх поры года.

Запасы ў «кладоўках» грызуноў бываюць самыя разнастайныя. У норцы рыжай палёўкі можна знайсці каля сотні лясных арэхаў і многа ягад брусніц, а ў лясной палёўкі — да кілаграма сухіх цыбулін лілей і мноства згорнутых у рулон стужак лішайнікаў. Аднойчы ў кладоўцы вялікай нары, дзе жыло да 20 палёвак, было знойдзена больш як 10 кг рознага корму.

Асабліва старанна рыхтуюцца да зімы палявыя і лясныя мышы. Многія з іх робяць норы ў стагах або пад сціртамі збожжа. У падземных норах-«кладоўках» у іх бывае схавана па некалькі кілаграмаў адборнага збожжа.

Нарыхтоўваючы корм, мышападобныя грызуны робяць новыя ўваходы і дадатковыя камеры-склады. Пры пашырэнні старых «кладовак» яны ачышчаюць іх ад леташніх запасаў, набіваючы свежымі. Цікава, што для сваіх зімовых запасаў грызуны выбіраюць толькі здаровае і паўнацэннае насенне. У іх «кладоўках» ніколі не знаходзілі пашкоджаных насякомымі або грыбной плесняй жалудоў і іншага насення. Многія грызуны звычайна не змешваюць насенне пры нарыхтоўцы. Калі ў «кладоўцы» змяшаць усё назапашанае, то звяркі абавязкова зноў усё пасартуюць. Гэта тлумачыцца тым, што яны збіраюць кожны від насення асобна па меры яго паспявання.

Грызуны выкарыстоўваюць не ўсе запасы, настолькі яны іншы раз вялікія. Аднойчы ў Белавежскай пушчы з дупла старога дубу выпала 47 кг адборных жалудоў. Гэта была агульная «кладоўка» жаўтагорлых мышэй. Лесаводы Украіны і Прыбал-

тыкі ўжо даўно выкарыстоўваюць запасы пладоў ліпы з «кладовак» жаўтагорлых мышэй. Яно лепш усходзіць, чым сабранае звычайным спосабам.

Цікава робіць запасы на зіму хамяк. Яго сховішча — падземная кватэра са шматлікімі камерамі і хадамі, якія ідуць у глыбіню да 3 м. Тут невялікая спальня. Яна заслана сухой травой. У баку ад калідора ёсць туалетнае памяшканне. Хамяк — ахайны звярок і для свіх патрэб прадугледзеў усё неабходнае. Са спальні асобны ход вядзе ў кладоўку. Аднойчы ў «складзе» хамяка знайшлі да 25 кг збожжа. Цікава, што ён назапашвае на зіму ўсё, што можа сабраць з поля. У яго «кладоўках» асобнымі кучкамі ляжаць кукуруза, бульба, семкі, зерне.

Дзікія звяры ў лесе рыхтуюцца да зімы паразнаму. Адны: воўк, лісіца, рысь, куніца, гарнастай, ласка і іншыя пушныя звяры — апранулі цёплую пушыстую зімовую вопратку. Другія забраліся ў цёплае і ўтульнае сховішча. Халодны і галодны час яны любяць праспаць, г. зн. упадаюць у зімовы сон, або спячку.

У неглыбокай нары, размешчанай у зарасніках густога хмызняку, вялікі шар з сухога лісця, унутры якога ляжыць, згарнуўшыся ў клубочак, вожык. Каб перажыць доўгую зіму, ён упадае ў працяглую спячку. Да восені значна тлусцее і з першымі замаразкамі ўжо засынае. Тэмпература цела ў яго з 34° падае да 2°, частата дыхання скарачаецца з 40—50 удыхаў да 6—8, сэрца працуе запаволена. Калі восенню запас тлушчу малы, пасля суровай і доўгай зімы вожык гіне ў сваёй нары.

Пад цёплай снежнай коўдрай даўно ўжо спяць у падземных сховішчах барсукі, лясныя соні, хамякі і суслікі.

Часта задаюць пытанне: ці жывуць суслікі ў Беларусі? Суслікі — жыхары цёплых паўднёвых стэпаў. На тэрыторыі нашай рэспублікі ёсць некалькі пастаянных месц распаўсюджвання рабога сусліка. Гэтыя звяркі сустракаюцца пад Стоўбцамі, Нясвіжам, Слуцкам у Мінскай вобласці, пад Пружанамі на Брэстчыне і ў Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці. У Беларусі праходзіць паўночная граніца распаўсюджвання суслікаў.

У Беларускім Палессі, у заліўных дубровах у вялікіх дуплах старых дрэў, на сухім подсціле спяць яноты-паласкуны. Невялікі, з густым мяккім футрам звярок падобны на маленькага медзведзяня, але з доўгім пушыстым хвастом. Галоўка ў янота невялікая, з завостранай мордачкай, на шчоках ба́кі.

Спячка вожыка.



Радзіма гэтага звярка — Паўночная Амерыка, адкуль у 1936 г. яго завезлі ў нашу краіну. У Беларусь упершыню 52 яноты прывезлі ў 1953 г. з Азербайджана. Звяркоў выпусцілі ў Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласці. У 1958 г. было завезена яшчэ 78 звяркоў. Усе яны былі выпушчаны ў пойме ракі Прыпяць на Палессі. Каб янот тут прыжыўся, на дрэвах развесілі больш за сотню вялікіх дуплянак. Амаль усе яны ў хуткім часе былі заселены. Янот-паласкун прыжыўся на Палессі. Да восені ён тлусцее і залягае ў дуплах у спячку. Часта можна ўбачыць па 3—5 звяркоў у адным дупле.

У неглыбокіх норах, старых траншэях, а то проста пад каранямі дрэў залёг да вясны другі наваселец Беларусі — усурыйскі янотападобны сабака. Радзіма яго — Усурыйскі край. Янотападобны сабака нагадвае невялікага, прысадзістага, на кароткіх нагах звычайнага сабаку. Футра звярка бураваташэрае з жаўтаватым адценнем, густое і даволі доўгае. Галава невялікая з кароткай завостранай мордай. Па баках ба́кі. Ад вачэй да вушэй цягнуцца шырокія і расплывістыя белыя палосы, што робіць сабаку падобным на янота-паласкуна.

У 1936 г. у Беларусь завезлі 100 янотападобных сабак. Іх выпусцілі ў лясы Мінскай і Гомельскай абласцей. Пазней былі завезены яшчэ 259 звяркоў у Брэсцкую, Гродзенскую, Мінскую і Віцебскую вобласці. Звярок добра прыжыўся ў новых месцах і даволі хутка дасягнуў прамысловай шчыльнасці, пасля чаго з'явілася магчымасць дазволіць паляванне. Толькі за 1945—1975 гг. у рэспубліцы было здабыта больш як 84 тыс. скурак янотападобнага сабакі. Восенню звярок тлусцее і з надыходам халадоў упадае ў больш ці менш працяглы зімовы сон. Часта прачынаецца ў час адліг, выходзіць са свайго зімовага сховішча ў пошуках

корму, але потым пры пахаладанні зноў хаваецца ў сховішча.

Яшчэ да маразоў распачынае рамонт старога або пабудову новага зімовага жылля мядзведзь. Лічаць, што для зімовага сну ён выбірае глухія месцы ў лесе, найбольш аддаленыя ад жылля чалавека. Гэта не зусім так. Цяпер нават самыя глыбінныя лясныя ўгоддзі асвойваюцца чалавекам. Мядзведзь звыкаецца з суседствам чалавека і нярэдка робіць бярлог непадалёку ад дарог, на свежых высеках і ў іншых месцах. Часцей за ўсё выкопвае яму пад каранямі вывернутага дрэва, куды зацягвае дробныя галіны, сухое лісце, мох і лішайнікі. Прагаліны здзёртага моху іншы раз бываюць добра прыкметнымі і сведчаць аб тым, што недзе паблізу знаходзіцца логава мядзведзя. Там, на мяккай тоўстай пярыне, мядзведзь праводзіць да пяці месяцаў.


Янот-паласкун у дупле.

Восенню мядзведзь

назапашвае да 50 кг падскурнага тлушчу. З такім запасам ён можа не баяцца зімы. У час сну звер нічога не есць і не п'е. Жыве за кошт эканомнага выкарыстання свайго тлушчавага запасу, а тлушч гэты высокакаларыйны, багаты вітамінамі і мікраэлементамі, неабходнымі для падтрымання нармальных жыццёвых працэсаў у арганізме. У час сну тэмпература цела мядзведзя хістаецца ад 29 да 34 °C. Пасля 5—10 удыхаў паўза іншы раз цягнецца да 5 хвілін, што сведчыць аб беражлівым расходзе назапашанага на шчодрых асенніх кармах тлушчу. Яго хапае да вясны.

Зімой у самкі нараджаецца 1—4, часцей 2 медзведзяняты масай 400—500 г. Бачыць яны пачынаюць праз месяц і амаль паўгода кормяцца малаком маці. Спачатку медзведзяняты растуць павольна, маленькаму звярку малака трэба мала, а за месяц да выхаду з берлагу яны інтэнсіўна растуць.

Час залягання мядзведзя ў логава, як і час выхаду з яго, мяняецца ў залежнасці ад кліматычных умоў. На поўдні нашай краіны мядзведзі іншы раз і не кладуцца на зімоўку, на поўначы, наадварот, спяць вельмі доўга. І гэта зразумела. Мядзведзь аддае перавагу раслінnamу корму, а на глыбокім снезе ён не можа пракарміцца. Мядзведзь вымушаны чакаць веснавога цяпла, калі з'явіцца зялёная расліннасць. Такім чынам, назапашванне восенню падскурнага тлушчу і заляганне ў працяглую спячку — прыстасаванне для арганізма, якое дапамагае перажыць зверу галодны і халодны зімовы час.

У канцы сакавіка — пачатку красавіка ён пакідае зімовае сховішча.

Буры мядзведзь — тыповы жыхар лесу. Сустракаецца ў Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Го-

мельскай абласцях, але колькасць яго ў рэспубліцы нязначная, не больш за 100 галоў. Таму буры мядзведзь узяты пад дзяржаўную ахову. Паляванне на яго забаронена, і ён занесены ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР.

Існаванне жывёл у спячцы без ежы на працягу доўгага перыяду (часам да 6—8 месяцаў) з'яўляецца вельмі дзіўнай з'явай. Гэта праблема цікавіць многіх вучоных. Яны адзначаюць зімнюю спячку (анабіёз) і зімовы сон. Паніжэнне тэмпературы навакольнага асяроддзя, адсутнасць корму прымушаюць большасць беспазваночных, усе віды паўзуноў многіх млекакормячых упадаць у спячку. У гэты час жывёлы нічога не ядуць. Тэмпература цела ў іх паніжаецца да ўзроўню асяроддзя. Рэзка запавольваецца частата дыхання. Зніжаецца агульны абмен рэчываў у арганізме. Дзякуючы гэтаму вельмі эканомна выкарыстоўваюцца назапашаныя з восені тлушчавыя запасы.

У стане зімовага сну ў некаторых млекакормячых інтэнсіўнасць абмену рэчываў зніжаецца мала. Напрыклад, янотападобны сабака ў адлігу зімой можа выходзіць са сховішча на кармленне, а буры мядзведзь нават нараджае дзіцянят. Здольнасць перажываць глыбокае здранцвенне (анабіёз) — біялагічна мэтазгоднае ахоўнае прыстасаванне. Яно дае магчымасць жывёле пераносіць бяскормную пару года. Гэта фізіялагічнае прыстасаванне арганізма да неспрыяльных знешніх умоў выпрацавалася ў жывёл у працэсе эвалюцыі.

З кожным днём халаднее. Снег пакрывае зямлю пушыстай коўдрай. Замярзаюць азёры, сажалкі. Рэкі скаваў лёд. Зіма ўступіла ў свае правы.

# СЯРОД СНЯГОЎ БЕЛЫХ

Надышла сцюдзёная пара. Суровы снежань-зімнік намёў у лесе вялізныя гурбы, пачапіў на дрэвы і хмызнякі снегавыя шапкі, пухкімі белымі дыванамі заслаў лясныя паляны, лугі і палі. З вечара ўдарыў мароз, ды такі, што ўсю ноч у лесе стаяў трэск. Так плачуць ад холаду дрэвы. Да раніцы мароз зрабіўся яшчэ мацнейшым. Сонца ледзь узнялося над гарызонтам, спынілася і, здаецца, застыла. Падзьмуў снежань свежымі марознымі вятрамі. Схаваў хуткія рэкі пад тоўсты блакітны лёд. Стынуць, зацягваюцца лёдам нават лясныя крыніцы, якія звычайна не замярзаюць.

Дні робяцца ўсё карацей і карацей, пакуль не надыдзе 21 снежня — дзень зімовага сонцастаяння, з самай доўгай (у годзе) ноччу і самым кароткім днём. Снежань не толькі каляндарны пачатак зімы: у гэтым месяцы амаль паўсюдна ўтвараецца ўстойлівае снегавое покрыва.

Ціха і спакойна ў зімовым лесе. Змоўклі птушкі і схаваліся звяры. Здаецца, што жыццё ў ім спынілася да будучай вясны. Цяжкая пара надышла для жыхароў лесу. У прыродзе кожны жывы арганізм па-свойму прыстасоўваецца да зімовых халадоў.

Прыхаваныя пад снегам, застаюцца зялёнымі ўсю зіму мяккія падушачкі «лугавога лёну», на балотах добра перазімоўвае сфагнавы мох. Яго светла-зялёныя вадзяністыя сцяблінкі, адміраючы ў ніжняй частцы, адкладаюцца ў выглядзе каштоўнага паліва — торфу. На высокіх, сухіх пясчаных месцах хрумсцяць пад нагамі белаватыя зграбныя галінастыя кусцікі «аленевага моху». З галінак старых ялін звешваюцца доўгія шэрыя «бароды» лішайні-

каў. Ствалы соснаў пакрыты шараватымі, блакітнаватымі, зеленаватымі кусцікамі іншых відаў лішайнікаў.

Пад снегам на галінках брусанічніку ўсё лісце зялёнае, захавалася нават некалькі чырвоных ягад. Аказваецца, брусніцы і журавіны змяшчаюць, акрамя яблычнай і іншых кіслот, яшчэ невялікую колькасць бензойнай кіслаты. Яна валодае кансервуючымі якасцямі. Маліна, парэчкі і чарніцы праз суткі пасля збірання пакрываюцца цвіллю, а брусніцы і журавіны — не, таму што кожная ягадка — накшталт маленькага кансервавага слоіка.

А як зімуюць травы? Адны з зялёным лісцем, другія — без яго. У лесе пад снег схаваліся ў ізумрудным уборы грушанка і сунічнік, у лузе — белая канюшына, панікніца, паўзучы казялец. Бывае, што снег засыпае стрэлкі, торбачнік, палявыя фіялкі, калі яны яшчэ цвітуць. Але мароз ім не страшны. Вясной, калі сыдзе снег, яны працягваюць цвісці. Цімафееўка, лісахвост, лакрычнік зімуюць без лісця. У іх пупышкі, быццам футаралам, абкружаны лускавінкамі, якія ахоўваюць расліны ад выпарэння і холаду. Перажываюць зімовыя нягоды ландыш, кураслеп, хвошч, цюльпан, скрыпень.

А як зімуюць дрэвы? Некаторыя лічаць, што дрэвам зіма не страшная, таму што надзейна ахоўвае ад марозу іх ствол кара з тоўстай коркавай тканіны. І ўсё ж такі, чаму дрэвы вымярзаюць?

Аказваецца, дрэвы і высокія хмызнякі вельмі адчувальныя да зімовай сцюжы. Калі ўлетку паставіць галінку дрэва ў халадзільнік, яна загіне пры —7°, —8°. Дык чаму ж гэта галінка не гіне зімою ў дваццаці-, трыццаціградусны мароз?

Справа ў тым, што шматгадовыя расліны,

у тым ліку і азімыя культуры, яшчэ з восені пачынаюць рыхтавацца да будучых халадоў, г. зн. яны праходзяць своеасаблівы працэс загартоўкі. У клетках вышэйшых раслін назапашаны за лета крухмал ператвараецца ў цукар і тлушчы. Гэтыя рэчывы, растораныя ў клетачным соку, узмацняюць холадаўстойлівасць раслін. Але ў час самых моцных маразоў вадкасць у клетках раслінных тканак замярзае, і створаныя такім чынам ледзяныя крышталікі раздзіраюць іх, робячы глыбокія расколіны ў кары. Абмен матэрыі ў тканках спыняецца, і цэлыя ўчасткі расліны адміраюць.

Водныя расліны інакш ратуюцца ад маразоў. Некаторыя восенню адміраюць, і захоўваецца толькі насенне. У большасці адрастаюць невялікія парасткі ці спецыяльныя пупышкі, напоўненыя крухмалам, якія не баяцца холаду. Гарлачыкі застаюцца пад лёдам у выглядзе тоўстых карэнішчаў, а раскі зімуюць, спусціўшыся на самае дно вадаёма.

А як жа пераносяць зіму насякомыя? Прыйшлі халады, і перажыць іх насякомыя могуць толькі ў стане глыбокага спакою, калі развіццё прыпыняецца, а само жыццё ледзь тлее. Эканомна выдаткоўваючы пажыўныя запасы, насякомыя — адны дарослымі, іншыя ў выглядзе лічынак, кукалак, яец забіраюцца глыбока ў лясны подсціл, закопваюцца ў глебу, хаваюцца ў спарахнелым пні ці проста размяшчаюцца пад адкрытым небам да вясны.

Непрыхаваныя яйцы матылька кольчатага шаўкапрада зімуюць на парастках яблынь. Кожная самка адкладае вакол галінкі тоўстай спіраллю 100—400 яец. Атрымліваецца шырокае кальцо, дзе ўжо восенню ў кожным яйцы фарміруюцца маленькія вусені. Але на волю яны выйдуць толькі вясной. Яйцы на зіму адкладаюць таксама нашы зялёныя конікі. Толькі яны хаваюць іх у зямлю.

У матылькоў баярышніц зімуюць вусені. Вылупіўшыся з яец у жніўні, яны дружнай кампаніяй накіроўваюцца на лісце яблынь, груш, чаромхі, глогу. А дзён праз 20, крыху памацнеўшы, пачынаюць рыхтавацца да зімоўкі. Навокал цёпла і зелена, а вусені адгароджваюць сябе ад навакольнага свету трывалымі сценамі кокана, у якім зімуюць.

У матылька капуснага беляна кукалкі перажываюць халодную і галодную пару. Папырхаўшы ў сярэдзіне лета, матылёк адкладае жоўтыя рабрыстыя яйцы на капусту. Вусені, якія з'яўляюцца з іх, дажываюць да восені, забіраюцца на платы, ствалы дрэў, на сцены дамоў, паветак і, апеpазаўшы сябе трывалымі шаўковымі ніткамі, ператвараюцца ў зялёных з крапінкамі кукалак. Яны не ахоўваюць сябе цёплымі коканамі, як шаўкапрады, а вісяць голыя, вуглаватыя пад дажджамі і вятрамі да вясны. Крапіўнікі, жалобніцы, лімонніцы сустракаюцца да позняй восені і зімуюць дарослымі, зашыўшыся ў дуплы, пад кару дрэў, схаваўшыся на вышках, у паветках. Вясной гэтыя матылі з'яўляюцца першымі. Божыя кароўкі таксама зімуюць дарослымі і часта адлятаюць далёка ад месц, дзе жылі ўлетку. Ужо ў канцы жніўня вялікая колькасць іх збіраецца ў подсціле на ўзлесках і ў парках. Калі снег знікне, а сонца падсушыць леташняе прэлае лісце і пакажацца новае, кароўкі выпаўзуць са сваіх схованак. Яшчэ тыдні праз два адкладуць яйцы, і пачнецца адлік жыццёвага тэрміну чарговага пакалення гэтых маленькіх драпежнікаў.

У лесе цяпер дарэмна шукаць каго-небудзь з іх, але ўся шасціногая жыўнасць тут. Яна схавалася, затаілася, чакае надыходу вясны.

Трытоны зімуюць, закапаўшыся ў мяккі лясны подсціл. У пустотах пад старымі спарахнелымі

пнямі схаваліся ад халадоў вужы і змеі. На дне вадаёмаў чакаюць вясны здранцвелыя жабы.

Змоўклі птушкі, схаваліся звяры. Здаецца, што жыццё ў лесе сцішылася да будучай вясны. Толькі тонкае ціўканне сініц ды глухі перастук дзятлаў уносяць нейкае ажыўленне.

Вы заўважалі, што ў халодны, ветраны дзень птушкі сядзяць нерухома? Распушыўшы сваё пер'е, яны робяцца падобнымі на пухкія шарыкі. Пёры ў іх розныя: у верхнім слоі контурныя, якія маюць цэнтральны стрыжань, і бакавыя махалы, якія пакрываюць тулава птушкі і ўтрымліваюць цяпло. Колькасць контурнага пер'я вялікая, у дробных птушак яго больш за 4 тыс. Пад контурнымі знаходзяцца мяккія пуховыя пёры. Каб зменшыць страты цяпла, птушкі ў час моцных халадоў



Зімоўкі яшчаркі і жаб.

распушваюць пер'е, і пуховая абалонка птушак патаўшчаецца, робіцца амаль непранікальнай для холаду.

Асаблівае выпрабаванне для птушак — марозная ноч. Птушкі хаваюцца ў дуплы, у шчыліны і нішы дрэў, нават у вузкія шчыліны пад карані. Там яны даволі часта трапляюць у зубы ласкі ці гарнастая. Некаторыя птушкі начуюць побач на адной галінцы, і калі мароз дапякае крайніх, яны, каб пагрэцца, ціснуцца ўсярэдзіну.

Выратавальнікам усяго жывога ад холаду з'яўляецца снег. Розніца тэмператур на паверхні снегу і каля зямлі дасягае 20°. Птушкі карыстаюцца гэтым. Вельмі забаўна ў снегавых пустотах спяць даўгахвостыя сініцы (іх яшчэ называюць апалонікамі). Іншы раз гэтыя маленькія птушачкі начуюць гуртам, шчыльна прыціснуўшыся адна да адной. Атрымліваецца вялікі, амаль з дзіцячую галаву, пульхны шар са шматлікімі хвосцікамі, якія тырчаць ва ўсе бакі. У снезе начуюць рабчыкі, цецерукі. Падаючы ў снег, яны заміраюць да раніцы.

Калі мароз упадзе на вельмі тонкую снегавую коўдру — пакутуюць усе. Мышы, здаралася, дашчэнту вымярзалі, хаця ўвогуле для іх нават моцны мароз не страшны, бо яны пастаянна жывуць пад снегам, кормяцца і там нават размнажаюцца.

І ўсё ж такі зімою птушкі больш пакутуюць ад нястачы корму.

Многія школьнікі з надыходам халадоў падкормліваюць дробных птушак на кармушках зернем, семкамі, крошкамі хлеба і інш. У школьных лясніцтвах падкормліваюць буйных птушак, такіх, як шэрая курапатка і цецярук. Для падкормкі гэтых птушак ужываюць перш за ўсё няшчыльна звяза-

ныя, як быццам «раскудлачаныя», аўсяныя снапікі. Тут жа, на месцы падкормкі, майструюць будыначкі, каб снег не засыпаў корм: авёс, мякіну, адсеў, каноплі, насенне лёну і пустазелля. Побач з месцам падкормкі выкладваюць пясок і дробную гальку.

Усім зерняедным птушкам для стрававання неабходна мець у мускульным страўніку трохі каменьчыкаў, якія спрыяюць пераціранню з'едзенага корму. Увосень птушкі вылятаюць на лясныя прасекі, да абочын дарог, да берагоў рэк і ручаёў, дзе збіраюць галъку (гастраліты). Аднак на ўсю зіму запасу ў страўніку можа не хапіць. Каменьчыкі сціраюцца, выкідваюцца разам з памётам. У такім выпадку нават пры дастатку кармоў птушкі знясільваюцца і нават гінуць. Для таго каб яны на

Разам цяплей.



працягу зімы маглі папаўняць іх запасы, ствараюцца галечнікі — куча галькі, жвіру, буйнога рачнога пяску пад простай драўлянай паветкай недалёку ад месца падкормкі. Вельмі зручна рабіць галечнікі каля вывернутых дрэў, якія ахоўваюць іх ад снегавых заносаў. Акрамя таго, купаючыся ў пяску, птушкі вызваляюцца ад кляшчоў і іншых крывасмокаў, якія паразітуюць на целе.

Каля месц падкормкі з восені рэкамендуецца пакідаць невялікія ўчасткі няскошанага збожжа, садзіць калючыя і ягадныя хмызнякі, якія могуць служыць натуральнымі ці штучнымі сховішчамі для птушак.

Лягчэй за іншых пераносяць зіму цецерукі. Гэтыя птушкі не галадаюць нават у самыя моцныя маразы, таму што іх заўсёды забяспечваюць натуральнымі кармамі паляўнічыя гаспадаркі.

Падкормліваць цецерукоў лепш на аўсяным полі, каля ўзлескаў. Ад пачатку жніўня і да выпадання снегу цецерукі кормяцца тут апалым зернем. Штучнай падкормкай можна ўтрымаць птушак у адным месцы ўсю зіму. Добра, калі побач знаходзяцца старыя бярэзнікі, у якіх цецерукі могуць збіраць частку свайго зімовага рацыёну ў выглядзе пупышак і каташкоў.

Надыходзіць халодная пара і для дзікіх капытных жывёл. Уважліва прыслухоўваючыся да кожнага шораху, ходзяць табункі аленяў і дзікіх коз. Калі ўлетку самкі і самцы трымаюцца паасобку, то зімою яны збіраюцца ў статкі. Цяпер можна напаткаць статкі аленяў з 10 і больш асобін рознага полу і ўзросту. Супольна лягчэй заўважыць набліжэнне ворага і пазбегнуць нападу ваўкоў і рысей.

Глыбокі снег, моцны холад, цвёрды шарпак і галалёдзіца цяжка адбіваюцца на жыцці дзікіх ка-

пытных, асабліва маладняку. Яны пакутуюць, знясіленыя, таму што глыбокі снег робіць цяжкімі далёкія пераходы ў пошуках корму. У той жа час нізкія тэмпературы выклікаюць павялічаную цеплааддачу арганізма, якую можна папоўніць толькі ўзмоцненым харчаваннем. Знясіленыя жывёлы — частая здабыча драпежнікаў. Таму ў запаведніках, паляўнічых гаспадарках, лясгасах і школьных лясніцтвах чалавек дапамагае дзікім жывёлам пераносіць цяжкасці зімы, арганізуючы для іх спецыяльныя «сталовыя».

Чым жа кормяць звяроў у гэтых «сталовых»? У спецыяльна збудаваную для аленяў і дзікіх коз кармушку закладаецца не больш як 50 кг сена. Калі жывёл шмат, кожную кармушку запаўняюць сенам некалькі разоў за сезон. Кармушкі лепш

Алені каля кармушкі.



усталёўваць на адкрытых месцах, каб жывёлы маглі заўважыць драпежніка, які набліжаецца з любога боку, і своечасова ўратавацца. Дзікія капытныя пазбягаюць кармушак, якія стаяць у густых зарасніках.

На паплавах лясных рэк і ручаёў, на лясных палянах і высеках добра яшчэ з лета нарыхтаваць невялічкія стажкі сена. Іх ставяць на падстаўках або невысокіх устойлівых хмызах, каб не засыпала снегам. Усю зіму тут кормяцца капытныя, пракладаючы ад стажка да стажка глыбокія сцяжыны. Навокал тут назіраецца мноства слядоў і лежняў аленяў і казуль.

Паабапал дарог таксама можна класці сена, венікі з вярбы, асіны і іншых лісцевых парод. Звяры з ахвотаю з'ядуць іх, выкопваючы нават з-пад снегу.

У школьных лясніцтвах і паляўнічых гаспадарках венікі нарыхтоўваюць з сярэдзіны мая да сярэдзіны ліпеня. Маладыя аднагадовыя парасткі вярбы, асіны, бярозы, ясеня, ліпы, дубу, рабіны зразаюць і звязваюць у пучкі. Лепш звязваць галінкі розных парод. Кожны венік перад асушкай неаднаразова апырскваюць 10-працэнтным растворам спажыўнай солі. Сушыць і захоўваць венікі належыць у паддашкавых памяшканнях, якія добра вентылююцца.

А чым карміць ласёў, якія неахвотна падыходзяць да стагоў сена і зусім раўнадушныя да кармушак з сенам?

Для іх валяць асіну, падсякаючы дрэўцы дыяметрам не больш за 15—20 см. Ласі кормяцца карою асіны. Да іх далучаюцца дзікія козы і зайцы.

Каб дапамагчы дзікам перанесці цяжкасці зімы, а таксама прывучыць да пэўных мясцін, іх пачынаюць падкормліваць з позняй восені. На загадзя

выбраныя ўчасткі час ад часу падкладваюць невялікую колькасць бульбы або катахоў кукурузы, каб звяры «запомнілі» месцы сваіх «сталовых». Звяры не адыходзяць далёка, бо заўсёды могуць знайсці тут корм. Чым мацнейшыя маразы, тым больш корму павінны атрымліваць дзікі. На пачатку зімы, калі снег яшчэ неглыбокі, бульба накладаецца праз 2—3 сутак, з разліку па кілаграму на аднаго дзіка. Пры павелічэнні вышыні снегавога покрыва бульбу падвозяць праз дзень і нормы павялічваюць да 3—5 кг. Акрамя таго, кладуць салому. З яе дзікі робяць логавы, у якіх і залягаюць тут жа ў месцах падкормкі. Зімою да «сталовай» падыходзіць усё больш і больш жывёл. У Белавежскай пушчы ў месцах падкормкі трымаюцца ўсю зіму статкі з 30—50 дзікоў. Леснікі штодзённа ў пэўны час прывозяць дзікам дзённую норму кармоў. Калі звяроў паблізу няма, дастаткова пастукаць рыдлёўкай па санях, і дзікі, пачуўшы гэта запрашэнне да «абеду», спяшаюцца ў «сталовую». За зіму звяры настолькі прывыкаюць да леснікоў, якія прывозяць корм, што часта не ўцякаюць пры іх з'яўленні, а сочаць з-за хмызнякоў, як ідзе разгрузка корму. Ледзь толькі ляснік рушыць у дарогу, як звяры адразу накідваюцца на бульбу.

Вось з хмызняку паказалася магутная галава з агрэсіўна ўзнятымі ікламі. З трэскам прыгінаючы галіны, скідаючы з іх снег, выйшаў на падкормачную паляну вялізны сякач. Высокая, густая, бурая поўсць тапырыцца на ягонай спіне, быццам грыва. Маленькія злосныя вочкі неспакойна зыркаюць ва ўсе бакі. Дзік нервова і з шумам уцягвае носам паветра. Ён шукае саперніка сярод свіней, што кормяцца непадалёку. Надышоў перыяд боек паміж самцамі.

У гэты час скура ўздоўж спіны і на баках

у секачоў робіцца на 2—3 см таўсцей. Гэта своеасаблівая «браня» засцерагае яго ад глыбокіх раненняў, якія наносяць ікламі ў турнірных бойках саперніki. Заўважыўшы секача, маладыя самцы адступаюць углыб лесу. Яны яшчэ настолькі малыя, што ўступаюць поле бою без супраціўлення.

Дзікія капытныя жывёлы, таксама як і свойскія, любяць лізаць соль. Гэта не выпадкова. Даследаванні паказалі, што соль змяшчае важныя мінеральныя састаўныя часткі, якія спрыяюць росту жывёлы, актывізуюць абмен рэчываў, утварэнне рагоў, змену поўсцевага покрыва і г. д. У дзікіх жывёл соль узбуджае апетыт, а гэта станоўча ўплывае на здароўе звяроў, асабліва маладняку. Саланцы трэба рабіць у месцах, дзе звярам забяспечаны спакой.

Дзікі шукаюць корм.



У школьных лясніцтвах і паляўнічых гаспадарках усталёўваюць камбінаваныя кармушкі-саланцы, дзе пад адной страхою змяшчаюцца кармушка для сена і карыта саланцу. Звяры, якія жывуць ў хвойных насаджэннях, дзе кармавыя ўмовы вельмі аднастайныя, маюць большую патрэбу ў мінеральнай падкормцы, чым тыя, што жывуць у змешаных лясах.

Акрамя камбінаваных кармушак, наладжваюць самыя простыя саланцы ў адкрытых скрынях або нават у пнях. У старых пнях хвойных парод робяць паглыбленне і насыпаюць спажыўную соль. У сырое надвор'е соль хутчэй раствараецца і трапляе ў драўніну пня. Спачатку дабаўляюць соль штомесячна, а потым радзей. Дастаткова жывёле адзін раз наведаць саланец, і яна будзе рэгулярна вяртацца да яго. Асабліва вострую патрэбу ў солі звяры адчуваюць восенню і ранняю вясной. Часам яны літаральна згрызаюць увесь стары, спарахнелы прасолены пень.

У снежні ў зверагадоўчых гаспадарках, а іх у рэспубліцы каля 20, пачынаецца адбор звяроў на шкурку. У зверасаўгасе ўсё незвычайна і цікава. Пад адкрытым небам роўныя рады клетак-вальераў. У іх разводзяць каштоўныя пароды пушных звяроў — серабрыста-чорных лісіц. У кожнай клетцы — адзін жыхар ці пара іх. Некаторыя бесперапынна рухаюцца, большасць трымае сябе спакойна: скруціўшыся абаранкам, ляжыць на снезе. Ім не холадна. Іх цёплае пушыстае футра можа засцерагчы ад любога марозу. Самая прыгожая з лісіц — плацінавая. Яе футра стальнога колеру, на пысе выразна відаць сіметрычны малюнак; белыя ашыйнік, лапы, жывот і кончык пушыстага хваста надаюць ёй вельмі арыгінальны і прыгожы выгляд. Іншага стылю серабрыста-чорная лісіца. Яна таксама

вельмі прыгожая. Шкурка яе быццам пакрыта шэранню. Кончык хваста, як і ў іншых лісіц, белы.

На фермах разводзяць і норак. Нашы звераводы-селекцыянеры вывелі серабрыста-блакітных, плацінавых, белых, чорных норак.

На Беларусі зіма пачынаецца позна. Па календары з 1 снежня ўжо зіма, але бывае, што ў гэты час ідуць зацяжныя дажджы са снегам. А часам з першых дзён гэтага месяца лажыцца трывалае снегавое покрыва і па лесе можна хадзіць на лыжах.

Снежань бывае не толькі снежным, але і даволі марозным. Зеленеюць яліны, апрануўшыся ў пушыстыя снегавыя шапкі. Ад дрэў, якія асвятляе халоднымі прамянямі скупое зімовае сонца, кладуцца долу доўгія шэрыя цені. Лёгка дыхаецца свежым марозным паветрам.

Вось і прыйшла пара развітацца, дарагія чытачы, з маўклівым снежаньскім лесам.

Вы пераканаліся, што прырода — складаны комплекс, у якім усе з'явы надзвычай цесна звязаны паміж сабой. Калі ў вас узнікне жаданне глыбей і шырэй пазнаць гэтыя ўзаемасувязі ў прыродзе, прадоўжыць знаёмства з разнастайнасцю жывёльнага і расліннага свету, то для дапытлівых — наступны, апошні раздзел гэтай кнігі. Ён прысвечаны правядзенню феналагічных назіранняў у свеце жывёл і раслін.

## ФЕНАЛАГІЧНЫЯ НАЗІРАННІ Ў ЖЫВЕЛЬНЫМ СВЕЦЕ

Значэнне феналагічных назіранняў цяжка пераацаніць. Яны даюць магчымасць глыбей пазнаць працэсы, якія адбываюцца ў навакольным асяроддзі, выявіць іх уздзеянне на жывую прыроду, прывучаюць чалавека не толькі беражліва ставіцца да роднай прыроды, але выпрацоўваюць уменне назіраць.

Карыстаючыся шматгадовымі феналагічнымі назіраннямі ў жывёльным свеце, можна распрацаваць прагнозы колькасці як карысных, так і шкодных прадстаўнікоў жывёльнага свету для сельскай, лясной і паляўнічай гаспадарак. Адначасова органы паляўнічай гаспадаркі выкарыстоўваюць гэтыя прагнозы пры планаванні нарыхтовак пушніны, паколькі мышападобныя грызуны з'яўляюцца асноўнай кармавой базай большасці драпежных пушных звяроў.

Назіранні за шкоднымі насякомымі, іх масавым з'яўленнем цікавяць Міністэрства сельскай гаспадаркі з мэтай прыняцця своечасовых мер па барацьбе з імі.

### Арганізацыя назіранняў

Фenаназіранні за жывёламі нельга праводзіць асобна ад назіранняў за раслінамі, таму што ў прыродзе існуе мноства самых разнастайных узаемасувязей паміж імі. Напрыклад, прылёт гракоў ранняй вясною звязаны з наяўнасцю кармоў як расліннага, так і жывёльнага паходжання. А ластаўка і стрыж прылятаюць значна пазней, калі з'яўляюцца насякомыя, якімі кормяцца гэтыя птушкі. У сваю чаргу з'яўленне насякомых звязана з пэўнымі фазамі развіцця расліннасці, якая з'яўляецца іх кормам.

Паралельныя фенаназіранні за раслінным і жывёльным светам дапамагаюць выявіць і пазнаць непарыўныя ўзаемасувязі, што існуюць у навакольнай прыродзе. Вынікі фенаназіранняў аналізуюць і супастаўляюць з умовамі надвор'я.

Фенаназіранні за жывёльным светам вядуць на працягу года на спецыяльна выбраных участках, так званых стацыянарах. Гэта можа быць прышкольны ўчастак, пладовы сад, сквер, гай або ўчасткі лесу, лугу, балота, што размяшчаюцца непадалёку ад школы. Вынікі назіранняў адзначаюць у асобным сшытку. На стацыянары рэгіструюць два (раніцай і вечарам) або тры (раніцай, у абед і вечарам) разы тэмпературу паветра, ападкі (дождж, снег, град і інш.). Зімою раз у дзесяць дзён вымяраюць вышыню (глыбіню) снегавога покрыва.

Пры арганізацыі правядзення фенаназіранняў вызначаюць тэму і аб'ект назіранняў. Напрыклад: «Фауна і размеркаванне асноўных відаў жывёл», «Хістанне колькасці мышападобных гры-

зуноў», «Жыццё пералётных і аселых птушак», «Шкодныя і карысныя насякомыя», «Амфібіі і рэптыліі стацыянара» і г. д. Перад пачаткам правядзення работ важна прачытаць адпаведную літаратуру па выбранай тэме назіранняў.

## Методыка назіранняў

*Насякомыя.* Адзначаюць наступныя фазы развіцця:

1. Першае з'яўленне (пачатак лёту) — дзень, калі былі заўважаны першыя лятаючыя насякомыя (матылі, жукі, камары і інш.); на вадаёмах — з'яўленне вадамераў, вертуноў і інш.; на паверхні мурашнікаў з'явіліся мурашкі.

2. Масавае з'яўленне вялікай колькасці насякомых (можна заўважыць цэлыя групы, раі хрушчоў, камароў і інш.).

3. Пачатак кладкі яец — калі былі заўважаны першыя адкладанні насякомымі яец на лістах раслін, кары галін, ствале дрэў.

4. З'яўленне вусеняў — выхад з яец лічынак насякомых.

5. Знікненне (канец лёту) насякомых.

У некаторыя гады ў насякомых (лугавога матылька, няпарнага шаўкапрада (шкоднік лесу), баярышніцы, стракоз) назіраецца масавае размнажэнне. Выпадкі масавага размнажэння і пералётаў насякомых нельга ўпускаць з-пад увагі, іх трэба запісваць у дзённік назіранняў з наступным паведамленнем у фенацэнтр і іншыя арганізацыі, з якімі трымаецца сувязь.

*Земнаводныя.* 1. Першае з'яўленне вясною — дзень, калі былі заўважаны першыя экземпляры маларухомых жаб, якія толькі «ляніва» поўзаюць (травяныя жабы).

2. Нераст — дзень з'яўлення на вадаёмах студзяністых камякоў ікры жаб.

3. Першы «канцэрт» — пачатак масавага квакання (азёрных і зялёных жаб).

4. Знаходкі зімуючых амфібій (калі, дзе, у якіх умовах).

*Птушкі.* У дзённіку адзначаюць вясенні пералёт і знікненне птушак, якія зімавалі ў гэтай мясцовасці. Веснавы пралёт — першыя чароды і валавы (масавы) пралёт над мясцовасцю (качкі, гусі, жураўлі). Веснавы прылёт — з'яўленне на гняздоўях. Выяўляецца звычайна па крыках і песнях. Аднак у некаторых птушак (зязюля, удод, жаўранак, берасцянка) паміж прылётам і першай песняй (крыкам) праходзіць звычайна нейкі прамежак часу. Дзень прылёту іх і дзень, калі прагучала першая веснавая песня (крык), запісаць асобна. Пачатак будавання гнязда — птушка нясе дубцы, саломінкі і іншы будаўнічы матэрыял. Пачатак нясення яец. З'яўленне птушанят — вызначаецца па іх піску. Асенняе яднанне ў чароды. Асенні пералёт (першыя пералётныя чароды), валавы пралёт (масавы

пралёт) і канец пралёту (апошнія пралётныя чароды). Асенні адлёт — знікненне птушак з месц гнездавання. Асенні прылёт — з'яўленне тых, якія зімуюць у вашай мясцовасці.

У час назірання за птушкамі можна вырашыць і прыватныя пытанні, напрыклад працягласць спеваў. Гэтыя тэрміны вызначаюцца пераважна для прылётных птушак.

Разам з гэтым вучні адзначаюць, у які прыкладна час сутак пачынаюць спяваць птушкі. Гэты матэрыял дае магчымасць скласці своеасаблівы «птушыны каляндар» і «птушыны гадзіннік».

*Млекакормячыя.* Група жывёл, з якой чалавек працягвае быць у самым цесным кантакце. Адных ён выкарыстоўвае ў якасці важных прамысловых і прыручаных жывёл, іншыя, жывучы побач з чалавекам, прыносяць шкоду або з'яўляюцца пераносчыкамі ўзбуджальнікаў небяспечных хвароб. Усё гэта выклікае асаблівую цікавасць да жыцця млекакормячых. Найбольш зручнымі для назіранняў і доследаў могуць быць дробныя звяркі: насякомаедныя, мышападобныя грызуны, кажаны, вавёркі. У прыродзе можна назіраць і за больш буйнымі млекакормячымі: зайцамі, лісіцамі, казулямі і інш.

Вывучаць дробных жывёл можна як у палявых умовах, так і ў школьным кутку жывой прыроды. Для таго каб вызначыць колькасць мышападобных грызуноў у прыродных умовах (г. зн. на стацыянарах), патрэбны звычайныя пасткі тыпу «Геро». Жывых грызуноў можна трымаць у клетках з металічнымі кратамі, а таксама ў шкляных тэрарыумах.

*Вожыкі.* Паназірайце ў прыродных умовах, у які час сутак вожыкі бываюць найбольш актыўнымі. Прасачыце, ці змяняецца іх актыўнасць па сезонах года. Запішыце ў дзённік першую вясной і апошнюю восенню сустрэчу з ім. Па датах гэтых сустрэч і назіраннях за паводзінамі вожыка ў кутку жывой прыроды лёгка вылічыць працягласць зімовай спячкі і актыўнага перыяду жыцця. Назіраючы за вожыкам у прыродзе, адзначайце, які корм ён здабывае. У кутку жывой прыроды прапаноўвайце яму розную раслінную і жывёльную ежу на выбар. Адзначайце ў дзённіку, якому корму ён аддае перавагу. Прасачыце, ці робіць спробы схаваць корм пра запас, калі яму даваць больш, чым можна з'есці.

Паназірайце за паводзінамі вожыка перад зімовай спячкай у прыродзе. Стварыце пэўныя ўмовы, дайце лісце розных дрэў, кавалачкі паперы, ваты і г. д. у школьным кутку. Адзначце, што ён выкарыстоўвае для свайго сховішча. Калі пачынае ўпадаць у спячку, то скрынку, у якой ён жыве, перанясіце ў халаднаватае, але не халоднае памяшканне. Прасачыце, ці не прачынаецца вожык зімою, у час спячкі. Пасля вясенняга

абуджэння вызначце, на колькі схуднеў ён за час зімовай спячкі, папярэдне ўзважыўшы яго восенню.

*Мышападобныя грызуны.* Назіранні за мышападобнымі грызунамі лепш пачынаць з вывучэння відавога складу дробных звяркоў і размеркавання іх па пэўных месцах жыхарства (біятопах). З гэтай мэтай расстаўце на ноч некалькі дзесяткаў пастак на злакавых культурах, шматгадовых травах, у лесапапалосах, на ўзлесках, на берагах вадаёмаў. Раніцай збярыце пасткі і вызначце, да якіх відаў належаць адлоўленыя звяркі. Пералічыце ў дзённіку ўсе віды грызуноў і насякомаедных, якіх вы сустрэлі, апішыце адзнакі, па якіх яны адрозніваюцца адзін ад аднаго.

Для ўліку адноснай колькасці мышападобных грызуноў пры навуковых даследаваннях шырока выкарыстоўваюць метад пастка-начэй (пастка-сутак). Ён заключаецца ў тым, што на ўчастку, які даследуецца, выстаўляюць праз кожныя 5 м 25—50 ці нават 100 пастак. Раніцай іх здымаюць і, падлічыўшы агульную колькасць злоўленых грызуноў, вылічваюць працэнт пападання. Калі, напрыклад, у 25 пастках было 4 звяркі, то пападанне склала 16 %. Гэты метад не паказвае абсалютнай колькасці звяркоў на адзінку плошчы. З яго дапамогай можна сачыць за зменай колькасці грызуноў. З дапамогай гэтага метаду прасачыце змены колькасці на вашых стацыянарах вясною, летам і восенню. Намалюйце графікі, якія адлюстроўваюць хістанні колькасці кожнага віду грызуноў на пэўным стацыянары. Зрабіце спробу знайсці прычыны, што выклікалі змены колькасці грызуноў у той ці іншы бок.

З надыходам асенніх халадоў і працяглых ападкаў многія грызуны перасяляюцца ў жылыя і складскія памяшканні, торпы саломы, стагі сена, дзе яны і праводзяць зіму. Аб гэтых перасяленнях можна меркаваць па павелічэнню працэнта пападання звяркоў у пасткі, якія выстаўляюцца праз кожныя адзін-два тыдні ў адзначаных месцах.

У выпадку пападання 12—15 звяркоў на 100 пастак у адным з даследуемых аб'ектаў неабходна паведаміць аб гэтым аграному калгаса ці саўгаса.

*Кажаны.* Назіранні за кажанамі пачынайце з пошукаў іх дзённых сховішчаў. Часцей за ўсё яны засяляюць дуплы дрэў, поласці за драўлянай абшыўкай будынкаў, пад аканіцамі, шалёўкамі. Пакідаюць сховішчы кажаны прыцемкам, падымаючы перад вылетам своеасаблівы гучны піск або цвірканне. Запішыце ў дзённік, дзе вы заўважылі кажаноў, колькі іх, якія віды (карыстайцеся вызначальнікам). Пры магчымасці падлічыце ўвечары колькасць звяркоў, якія вылятаюць на кармленне, заначце час вылету і час вяртання іх у сховішча.

Назіраючы за кажанамі ў час палявання, вы можаце заўважыць, што некаторыя віды, злавіўшы насякомае, не ядуць яго на ляту, а падлятаюць да пэўнага месца (галіна старога дрэва, кут пад столлю адкрытай веранды), дзе і з'ядаюць сваю ахвяру. Пад гэтым месцам заўсёды можна знайсці і сабраць рэшткі насякомых, з'едзеных звярком, таму што яны не ядуць грубыя хіцінавыя часткі: крылы, надкрылы, капсулы галовак, лапкі, вусікі і інш. З дапамогай энтамолага можна па рэштках насякомых вызначыць рацыён харчавання рукакрылых і перавагу ў корме карысных або шкодных насякомых.

У час адлову калоній кажаноў паспрабуйце акальцаваць гэтых звяркоў птушынымі кольцамі (кольцы можна атрымаць у любым педагагічным інстытуце на кафедры заалогіі або запытаць у Цэнтры кальцавання Акадэміі навук СССР у г. Маскве). Кольца надзяваецца на костачку перадплечча крыла, не прарываючы лятальнай перапонкі. Кольца з'яўляецца своеасаблівым пашпартам звярка, таму што на ім адзначаны нумар і серыя кольца, а таксама слова — Масква.

Паўторныя адловы акальцаваных вамі звяркоў могуць паведаміць, дзе зімуюць кажаны, ці вяртаюцца яны ў свае летнія сховішчы, колькі гадоў жывуць і шмат іншых цікавых звестак аб жыцці гэтых рэдкіх і выключна карысных звяркоў.

*Буйныя млекакормячыя.* Выяўленне відавога (фаўністычнага) складу звяроў. Правядзенне ўліку колькасці буйных млекакормячых і іх сезоннае распаўсюджванне ў прыродзе.

Для правядзення назіранняў у лесе адзначце некалькі нязменных маршрутаў цераз асноўныя месцы жыхарства звяроў працягласцю ад 5 да 10 км. З усталяваннем трывалага снегавога покрыва пад кіраўніцтвам настаўніка не менш чым раз у месяц праходзьце па гэтых маршрутах. У дзённіку на загадзя намаляваным маршруце запісвайце ўсе сляды жывёл умоўнай літарай (лось — л., дзік — дз., казуля — к., воўк — в., лісіца — лц., заяц — зц., вавёрка — вр. і г. д.). Адначасова стрэлкай на маршруце ў дзённіку пакажыце напрамак ходу гэтага звера і колькасць жывёл. Напрыклад: 5 л., 4 дз., 1 лц., 2 зц. Калі маршрут пракладзены ўздоўж лясной прасекі, абавязкова адзначайце нумары кварталаў і коратка характарызуйце лясныя пасадкі. Адзначайце дату і час уліку, стан надвор'я і глыбіню снегавога покрыва.

Не журыцеся, калі спачатку спіс жыхароў лесу будзе невялікім. Прааналізаваўшы даныя ўліку за зімовы перыяд, вы выявіце месцы канцэнтрацыі пэўных відаў звяроў і птушак, што важна для арганізацыі іх падкормкі ў гэты цяжкі, галодны перыяд года.

Падлічыўшы колькасць слядоў кожнага віду звяроў і птушак па тыпах угоддзяў і згрупаваўшы іх, можна вылічыць паказчык уліку. Метад гэты грунтуецца на дапушчэнні прапарцыянальнасці колькасці слядоў на маршруце даўжынёй 10 км і запасаў улічаных жывёл. Ён дае адносныя паказчыкі колькасных суадносін відаў на вызначаным участку лесу ў разрэзе тыпаў угоддзяў (біятыпаў).

Даныя ўліку, атрыманыя за некалькі гадоў, характарызуюць тэндэнцыю змен колькасці кожнага віду дзікіх жыхароў лесу.

## ФЕНАЛАГІЧНЫЯ НАЗІРАННІ Ў РАСЛІННЫМ СВЕЦЕ[1]

Вывучэнне заканамернасцей сезоннай рытмікі развіцця раслін Беларусі звязана з кліматычнымі ўмовамі года і экалагічнымі асаблівасцямі мясцовасці, на якой расце тая ці іншая расліна. Гэтыя заканамернасці з'яўляюцца асновай для планамернай арганізацыі сезонных работ у розных галінах народнай гаспадаркі.

Выкарыстоўваючы шматгадовыя феналагічныя назіранні ў свеце раслін, можна вызначыць і загадзя прадказаць тэрміны сяўбы і догляду сельскагаспадарчых раслін. Напрыклад, зацвітанне чаромхі звычайна супадае з часам пасадкі бульбы, зацвітанне вярбы паказвае, што глеба ўжо гатова да сяўбы ранняй агародніны, зацвітанне азімага жыта — фенасігнал да пачатку сенакосу, нарыхтоўкі сенажу і сіласу. Для нарыхтоўчых арганізацый практычнае значэнне маюць масавыя феналагічныя назіранні за тэрмінамі выспявання дзікарослых ягад (чарніцы, суніцы, брусніцы, журавіны і інш.), для аховы здароўя — вызначэнне аптымальных тэрмінаў збору лекавых раслін (святаяннік, падбел, дзьмухавец лекавы і інш.). Вынікі вывучэння феналогіі раслін, асабліва іх цвіцення і семяўтварэння, выкарыстоўваюцца ў практыцы гібрыдызацыі і селекцыі дрэўных, кустовых і травяністых раслін. Аналіз даных сезоннага развіцця раслін у супастаўленні з метэаралагічнымі і гідраметэаралагічнымі назіраннямі дазваляюць глыбей пазнаць асаблівасці клімату і надвор'я рэгіёнаў рэспублікі і краіны.

### Арганізацыя назіранняў

Арганізацыю фенаназіранняў за рытмікай развіцця раслін пачынайце з выбару пастаянных участкаў, на якіх належыць вызначыць аб'екты (мадэльныя расліны), за якімі будуць праводзіцца сістэматычныя назіранні. Гэта можа быць прышкольны

[1] Паводле Э. П. Ярашэвіча.

ўчастак, участак лесу, балота, што знаходзіцца непадалёку ад школы, пладовы сад, парк, сквер, прысады. Складзіце, па магчымасці, схематычны план участка і наваколля. Усе дрэвы і хмызнякі, за якімі праводзяцца назіранні, пранумаруйце фарбай па кары, не папсаваўшы яе, і занясіце ў феналагічны журнал пад тым жа парадкавым нумарам. Травяністыя і кустовыя расліны падбярыце ў месцах, дзе яны сустракаюцца ў значнай колькасці. Важна, каб дрэвы, хмызнякі і травы былі здаровымі і ва ўзросце плоданашэння.

Назіранні праводзьце з году ў год на вызначаных участках і над аднымі і тымі ж раслінамі.

Для вызначэння сувязі сезоннай рытмікі з умовамі надвор'я выкарыстоўвайце перш за ўсё даныя метэабудкі, што размяшчаецца на прышкольным участку, або найбліжэйшай метэаралагічнай станцыі (сярэдняя тэмпература паветра і глебы, атмасферныя ападкі ў час вегетацыйнага перыяду).

## Методыка назіранняў

Дакладна вызначыць фенафазы (фенадаты) можна толькі пры сістэматычных абходах участкаў (маршрутаў). У перадвеснавы перыяд — раз у тыдзень, вясною з пераходам тэмпературы паветра цераз 5 °С — штодзень, летам і восенню — праз дзень, зімой — раз у месяц.

Феналагічная праграма назіранняў за сезонным развіццём раслін мае наступныя асноўныя фенафазы: рух сокаў (пачынаецца з пераходам тэмпературы паветра цераз 0 °С у клёну вастралістага і бярозы барадаўчатай), набуханне пупышак (павялічваецца памер пупышак), раскрыванне ліставых пупышак (фенафаза характарызуецца з'яўленнем зялёнага конуса лісцікаў і шыпулек), пачатак аблісцення (раскрываюцца першыя ліставыя пласцінкі), поўнае аблісценне (лісце, шыпулькі набываюць нармальную велічыню, афарбоўку і форму, уласцівую віду расліны), пачатак змены афарбоўкі лісця і поўнае пажаўценне (больш чым 50 % лісця), пачатак і канец лістападу, пачатак цвіцення (з'яўляюцца першыя кветкі), масавае цвіценне (зацвіло больш чым 50 % кветак), канец цвіцення, пачатак выспявання пладоў, насення (з'явіліся асобныя плады, зярняты, спелыя навобмацак), канец выспявання пладоў, зярнят (на глебе з'явіліся першыя плады, зярняты), канец ападу пладоў і зярнят, канец вегетацыі расліны (у дрэў і хмызнякоў вызначаецца па сканчэнні лістападу, а ў травяністых раслін па адміранні надземных органаў).

Да дадатковых назіранняў належыць улік ураджаю шышак (насення) дрэў і хмызнякоў па шкале: вельмі слабы, сярэдні, добры, вельмі добры. Не менш цікавыя матэрыялы феаназіран-

няў за першым з'яўленнем і перыядам масавага збору прыдатных да яды грыбоў, выспяваннем дзікарослых ягаднікаў, зборам лекавых раслін.

У феналагічны журнал заносьце таксама назіранні за з'явамі нежывой прыроды (з'яўленне першых прагалін, разбурэнне снегавога покрыва ў лесе і на адкрытым месцы, першы снег і г. д.), дадаткова адзначайце даты пераходу сярэднесутачнай тэмпературы паветра цераз 0 °С, 5 °С, 10 °С і дату, калі глеба адтала на паверхні і на глыбіні 10 см.

### Спіс раслін для правядзення фенаназіранняў

Сасна звычайная. Елка звычайная. Лістоўніца еўрапейская. Лістоўніца сібірская. Клён вастралісты. Дуб чарэшчаты. Асіна. Вяз гладкі. Брэднік (вярба казіная). Бяроза барадаўчатая. Бяроза пушыстая. Ліпа драбналістая. Чаромха звычайная. Арэшнік звычайны (ляшчына звычайная). Рабіна звычайная. Яблыня (сартавая або лясная). Груша (сартавая або лясная). Бузіна чырвоная. Суніцы лясныя. Ландыш майскі. Чарніцы. Журавіны. Воўчае лыка. Падбел. Злакі (метлюжкі, пажарніцы і інш.).

## Змест

Курскоў А. М.

К 93 Таямніцы беларускага лесу: Для сярэд. шк. узросту.— Мн.: Нар. асвета, 1987.—191 с.: іл.

Кніга знаёміць з багаццем і разнастайнасцю жывёльнага і раслiннага свету Беларусі, вучыць адкрываць неразгаданыя таямніцы роднай прыроды.

4802020000—166
К ——————— 162—85 ББК 43
М 303(05)—87



*Александр Никитич Курсков*

**Тайны белорусского леса**

**Для среднего школьного возраста**

**Минск, издательство «Народная асвета»**

**На белорусском языке**

Рэдактар *Г. С. Уварава*. Мастакі *Ю. К. Зайцаў, Я. І. Жылін*. Мастацкія рэдактары *А. І. Раманцоў, Р. С. Фралоў*. Тэхнічны рэдактар *С. І. Ліцкевіч*. Карэктар *Р. С. Ахрэмчык*.

ІБ № 1957

Здадзена ў набор 15.04.85. Падпісана ў друк 20.10.86. Фармат 70×100[1]/32. Пап. афсетная № 1. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 7,74. Умоўн. фарба-адбіт. 31,53. Ул.-выд. арк. 7,83. Тыраж 30 500 экз. Заказ 1422.
Цана 65 к.

Выдавецтва «Народная асвета» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600 Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005 Мінск, Чырвоная, 23.

